Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 24 (4670) 15 чэрвеня 2012 г.

*Думка пісьменніка*

## Кніжны гандаль і беларуская кніга



Нарэшце за некалькі апошніх дзесяцігоддзяў беларускія літаратары дачакаліся свята: 2012-ы абвешчаны Годам кнігі. Прыемна, што і казаць. Тым больш што гэтае рашэнне прынята Кіраўніком дзяржавы па прапанове Саюза пісьменнікаў Беларусі. У выніку ўсе мы — і тыя, хто піша, і чытачы (лічы, усё грамадства) — жывём Яе Вялікасцю Кнігаю. А на самай жа справе прыгожым словам жывём! Адны толькі іванаўскія аўтары (чаму іванаўскія? Бо і сам я іванаўскі — жыву ў Іванаве, узначальваю мясцовую райгазету) выдалі сёлета паўдзясятка дыхтоўных кніг: Анатоль Дзенісейка — "Дастоева. Выток. Ад Ф. М. Дастаеўскага да нашых дзён" і "Агдэмер. Святло палескіх зорак"; Марыя Гарупа — "Вернасць зямлі"; Васіль Жушма — "Тарэза"; ну, і сябе ж не праміну, бо літаральна на днях забраў з выдавецтва "Літаратура і Мастацтва" аўтарскія экземпляры ўласнай кнігі "Роднае, шчымлівае". Першыя тры з названых кніг — краязнаўчыя. Дзве наступныя — літаратурна-мастацкія.

А дзе яны? Завітаў у мясцовую кнігарню. І што, адгадайце, убачыў на кніжных паліцах? Правільна, соннікі, кулінарныя ды лячэбныя рэцэпты, выданні для абітурыентаў… А з беларускіх кніг — толькі пасмяротная Янкі Сіпакова ды некалькі з серыі "Школьная бібліятэка". Ну, няхай краязнаўчыя кнігі выдадзены невялічкімі тыражамі. Але ж прэзентаваныя яны былі вельмі шырока, чаму істотна пасадзейнічала мясцовая ўлада. Нізкі паклон за гэта кіраўніцтву райвыканкама, якое (гэта няўзброеным вокам бачна) добра ўсведамляе важнасць Кнігі. Ёсць і выдадзеныя ў вядучым выдавецтве краіны — РВУ "Літаратура і Мастацтва", яны разрэкламаваны на ўсю Беларусь і нават шырэй. Натуральна, пацікавіўся, ці завітала ўжо ў крама "Тарэзу" і "Роднае, шчымлівае". Што пачую у адказ, мяркую, вы здагадаліся. Пра такія выданні тут дасюль нават не чулі. Дзякуй Богу, гандлёвы работнік адразу ж зацікавілася атрыманай інфармацыяй, зазірнула ў нейкія паперы і, падалося, узрадавана прамовіла: "Ёсць такія кнігі. Абавязкова замовім".

Але праз тыдзень-другі зноў зазірнуў у тую ж кнігарню: аказваецца, гандлёвай кропкай замоўлены толькі адзін экземпляр "Роднага, шчымлівага". Прычына самая што ні ёсць банальная і празаічная: дужа дарагое гэтае духоўнае задавальненне — ажно 93 тысячы рублёў. А якая ж тады аптовая цана ў выдавецтве? Аказваецца, 59 тысяч. Гм, што ж атрымліваецца? Гандаль амаль пяцідзесяціпрацэнтную "накрутку" робіць?

Праўда, вельмі шкада? Але добра хоць бы тое, што мы канкрэтна ведаем, хто паўстаў жалезабетоннай сцяной паміж пісьменнікам і чытачом і не падпускае апошняга да беларускай мастацкай кнігі на гарматны выстрал. Гэта кніжны гандаль. Ён не бачыць розніцы паміж кнігаю і хадавымі прадуктамі. А павінен ведаць самую што ні ёсць прапісную ісціну: хадавы прадуктовы тавар павінен рэалізоўвацца імгненна, а кніга знаходзіцца на паліцах кнігарань пастаянна, гадамі і дзесяцігоддзямі. Пакуль не ўсвядоміць гэтага, будзе заставацца ворагам нумар адзін для беларускай кнігі. Без перабольшвання.

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ**

# Пятро Бітэль: насуперак лёсу





***"Першыя мае прасвятленні памяці і цьмяныя ўспаміны — натоўпы незнаёмых людзей, цягнікі, гудкі паравозаў, нейкія вялікія будыніны. Маці трымае мяне моцна за руку, каб не згубіць у мітуслівым людскім зборышчы. Мой небагаты, яшчэ каравы лексікон папоўніўся новымі, хоць не цалкам усвядомленымі словамі: вайна, бежанцы, эшалон, станцыя, багаж..." — гэта радкі з успамінаў паэта і перакладчыка, настаўніка, святара і краязнаўца, народжанага 19 чэрвеня 1912 года ў мястэчку Радунь Гродзенскай губерні (цяпер Воранаўскі раён), Пятра БІТЭЛЯ.***

**Таццяна СІВЕЦ,**
**фота Кастуся Дробава**
**і з архіва Міхася Казлоўскага**

Так пачынаўся яго шлях. Праз амаль сорак гадоў жыццёвых выпрабаванняў ён атрымае нумар Н-447 і стане вязнем у папраўча-працоўных лагерах Сібіры і Казахстана. Менавіта там, у Кемераўскай вобласці, П. Бітэль зробіць пераклад з польскай мовы на беларускую "Пана Тадэвуша" Адама Міцкевіча.

Натхнілі яго, як распавядае ў сваім артыкуле ў альманаху "Куфэрак Віленшчыны" Міхась Казлоўскі (яго складальнік і галоўны рэдактар), "надзвычай цікавыя людзі": паляк Станіслаў Шаль і беларус з Дзятлава Лявон Мазура. Першы атрымаў у 1953 годзе пасылку з кнігай А.Міцкевіча, а Лявон, які кепска валодаў польскай, папрасіў П.Бітэля зрабіць пераклад. Занатоўваць спачатку даводзілася на папяровым мяшку з-пад цэменту, допісы канфіскоўвала ахова, але перакладчык закончыў сваю працу і здолеў пераправіць яе ў Мінск — Максіму Танку. Але нават высокая адзнака і спрыянне заслужанага паэта не дапамаглі — надрукаваць частку перакладу ўдалося толькі ў 1965 годзе. Поўнасцю "Пан Тадэвуш" пабачыў свет па-беларуску пасля сыходу свайго перастваральніка ў іншы свет.

А тады, пасля вызвалення, Пятро Бітэль у пошуках працы, па ўласным прызнанні, "сустрэўся і з бюракратызмам у самай махровай форме, і з абыякавасцю, і са здрадствам. Даўнейшыя знаёмыя не заўсёды мяне пазнавалі, вакол мяне склалася шмат плётак, домыслаў і перасудаў". Аднак нягледзячы на "сапсутую біяграфію" творца не баяўся выказваць уласнае меркаванне, даваць адказ "тарбахватам" рознага ўзроўню, так што і да, і пасля афіцыйнай рэабілітацыі настаўніка-пенсіянера ў 1978-м аматары даносаў "працавалі" на ўсе інстанцыі, а творца пісаў... "у стол".

Выпускніку Барунскай і Віленскай настаўніцкіх семінарый, Мінскага педагагічнага інстытута і Маскоўскіх курсаў нямецкай мовы, П.Бітэлю налічылі ў 1974 годзе пенсію ў суме 53 рублёў 15 капеек. Толькі ў 1985-м ён быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў БССР. Усё, што было напісана ім да 1939 года, знікла ў час вайны. Акрамя амаль усіх твораў А.Міцкевіча П. Бітэль перакладаў самых розных аўтараў з польскай, нямецкай, англійскай і іншых моў, у тым ліку — "Боскую камедыю" А. Дантэ. Рукапіс перакладу паэмы "Пан Тадэвуш" захоўваецца ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры ў Мінску, тут працуе і выстаўка, прысвечаная Пятру Бітэлю.

# Духоўны сімвал нацыі



*Арыгінальнае выданне Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 года.*

**Пытанні захавання гісторыка-культурнай спадчыны для нашай краіны былі актуальныя ва ўсе часы. Але гэтая падзея мае выключнае гістарычнае значэнне. У Беларусь вярнуўся адзін з асобнікаў арыгінальнага выдання Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 года. Урачыстая перадача каштоўнай кнігі адбылася ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь.**

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота Дар'і Шоцік**

Сімвалічна, што перадача Статута праходзіла ў зале, дзе ў гэты час адбывалася выстаўка з фондаў Палаца вялікіх князёў літоўскіх у Вільні. Падчас урачыстасці міністр культуры Рэспублікі Беларусь Павел Латушка падкрэсліў:

— Я сёння вельмі ўзрушаны, бо гэта сапраўды вельмі значная падзея. Важна, што мы захоўваем нашу культурную спадчыну, аднаўляем замкі. Але аднаўленне мураў — толькі частка вялікай працы, больш значны яе складнік — вяртанне гісторыка-культурнай спадчыны. Мы імкнёмся, каб у старажытных сценах знаходзіліся духоўныя сімвалы нашай нацыі. Ім з'яўляецца і Статут ВКЛ. І безумоўна радуе тое, што разуменне важнасці вяртання такіх рэліквій на радзіму ёсць не толькі ў дзяржавы, але і ў прыватных асоб.

Удзельнікамі ўрачыстай імпрэзы былі таксама прадстаўнікі кампаніі "Альпары", якая стала асноўным фундатарам набыцця выдання ў маскоўскага калекцыянера, дырэктар Музея гісторыі Магілёва Аляксей Бацюкоў (менавіта ў магілёўскім музеі будзе экспанавацца гэты каштоўны звод законаў), старшыня Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі "Беларусы Расіі" Валерый Казакоў, ён дапамог наладзіць сувязь паміж магілёўскім музеем і расійскай кампаніяй "Альпары". Так, дырэктар па карпаратыўных камунікацыях гэтай кампаніі Валерый Тарасаў адзначыў:

— У сучасным грамадстве складана пераацаніць значнасць гістарычных ведаў. Толькі паважаючы сваіх продкаў мы можам ацэньваць сучаснасць і глядзець у будучыню. Статут ВКЛ 1588 года — унікальны помнік, гэта вялікае дасягненне прававой думкі. Гэты звод законаў аказаў значны ўплыў на гістарычныя, культурныя і юрыдычныя традыцыі краін Еўропы.

Падчас урачыстай імпрэзы сталі вядомыя і некаторыя новыя дэталі. У прыватнасці, Аляксей Бацюкоў раскрыў інкогніта чалавека, чыя дапамога дазволіла ўнесці задатак для набыцця Статута. Гэта індывідуальны прадпрымальнік з Магілёва Уладзімір Мардачоў, ён ахвяраваў на пакупку ўнікальнага выдання 4 500 долараў.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка ад імя беларускага народа і сябе асабіста павіншаваў Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Уладзіміра Пуціна і ўвесь расійскі народ з Днём Расіі. Як адзначыў кіраўнік беларускай дзяржавы, гэта свята сімвалізуе яднанне і агульную адказнасць грамадзян Расіі за сучаснасць і будучае сваёй Айчыны.

✔ Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка ў віншаванні ўдзельнікам XII Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі падкрэсліў: "Нездарма кажуць, што без песні няма народа. Яна ўяўляе сабой люстэрка жыцця, універсальную мову мастацтва, якая звязвае паміж сабой мінулае, сучаснасць і будучыню, увасабляе свет чалавечай душы, спадзяванні і пачуцці людзей. З простых кранальных радкоў і мелодый складаецца паэтычны вобраз нашай Радзімы".

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Беларусі Ярослава Пятрова з 70-гадовым юбілеем. Яго творчы лёс непарыўна звязаны з беларускай музыкай і славутай сцэнай нашага Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета.

✔ Арыгіналы работ сусветна вядомага мастака Марка Шагала будуць прадстаўлены ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Пра гэта на адкрыцці выстаўкі рэпрадукцый карцін Марка Шагала на плошчы Якуба Коласа ў Мінску паведаміў міністр культуры Беларусі Павел Латушка. Ён адзначыў, што арыгіналы можна будзе ўбачыць ужо ў кастрычніку.

✔ Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь завершаны прыём заявак на ўдзел у першым конкурсе кінапраектаў на вытворчасць нацыянальных фільмаў і фільмаў з фінансавай падтрымкай з рэспубліканскага бюджэту. Па выніках адбору да ўдзелу допушчана 60 кінапраектаў ад 15 дзяржаўных і прыватных арганізацый Беларусі.

✔ Званне Ганаровага грамадзяніна горада Наваполацка прысвоена члену Саюза пісьменнікаў Беларусі Навуму Гальпяровічу рашэннем Наваполацкага гарвыканкама і гарадскога савета дэпутатаў.

✔ Дні культуры Катара ў Беларусі пройдуць 18 — 20 чэрвеня 2012 года. Мерапрыемства праводзіцца Міністэрствам культуры Беларусі і Міністэрствам культуры, мастацтва і спадчыны Дзяржавы Катар пры арганізацыйным садзейнічанні пасольства Беларусі ў Аб'яднаных Арабскіх Эміратах.

✔ У Екацярынбургу з візітам пабываў рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Міхаіл Баразна. У рамках візіту праводзіліся сустрэчы і перамовы з кіраўніцтвам Уральскай дзяржаўнай архітэктурна-мастацкай акадэміі з мэтай пашырэння супрацоўніцтва, развіцця культурных, навуковых і вучэбных сувязей. Асноўным пытаннем падчас паездкі стала абмеркаванне стварэння і ўстаноўкі помніка народнаму артысту Беларусі і СССР Уладзіміру Мулявіну ў Екацярынбургу.

✔ Нацыянальны полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік заваяваў першую прэмію ў конкурснай праграме прэстыжнага міжнароднага фестывалю "Інтэрмузей-2012", які прайшоў у Маскве з 1 па 5 чэрвеня. Яшчэ два беларускія ўдзельнікі — Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры і Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік "Нясвіж" — сталі дыпламантамі.

Падрыхтавала Рыта СТАХ

## *У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Новыя краязнаўчыя ініцыятывы

**На нядаўнім пасяджэнні Саюза пісьменнікаў Беларусі зацверджаны склад секцыі краязнаўства. У яе ўвайшлі Алесь Карлюкевіч, Славамір Антановіч, Алесь Марціновіч, Браніслаў Зубкоўскі, Аляксандр Хазянін, Анатоль Крэйдзіч, Мікола Багадзяж. Наш карэспандэнт задаў некалькі пытанняў старшыні секцыі Алесю Карлюкевічу.**

Сяргей ШЫЧКО

**— Скажыце, калі ласка, а што ўвогуле дае сам факт існавання секцыі?**

— На мой прыватны погляд, краязнаўцы самі па сабе актыўныя ў грамадскім плане людзі. Як правіла, затворніцтвам збіральнікі памятак роднай зямлі не жывуць. А што да секцыі ў СПБ, то дзякуючы ёй мы, спадзяюся, абмяркуем, узважым многія ініцыятывы, асабліва ў галіне літаратурнага краязнаўства.

**— І ўсё ж пра канкрэтыку…**

— Збіраемся выдаваць краязнаўчы гадавік. Запрашаем далучыцца да яго сваімі тэкстамі многіх пісьменнікаў. Рыхтуецца да друку шэраг кніг аўтараў з розных куткоў краіны. Мы ім дапамагаем парадамі, стараемся паяднаць дасведчаных краязнаўцаў з выдавецтвамі. Як прыклад — кніга Андрэя Блінца пра Клецк да 1917 года, зборнік нарысаў Івана Ярашэвіча пра знакамітых ураджэнцаў Чэрвеньшчыны, кніга Браніслава Зубкоўскага пра коласаўскія мясціны на Пухавіччыне.

Яшчэ адзін клопат — арганізацыя краязнаўчых канферэнцый, чытанняў. А таксама ўдзел у падобных мерапрыемствах у рэгіёнах. Першай ластаўкай, спадзяюся, стане навукова-практычная канферэнцыя па літаратурным краязнаўстве, якую мы збіраемся наладзіць на Міншчыне. Дарэчы, карыстаючыся нагодай, хачу выказаць удзячнасць часопісу "Маладосць", які на працягу некалькіх гадоў друкуе з працягам сапраўдны энцыклапедычны краязнаўчы даведнік "Літаратурныя мясціны Беларусі".

**— Як вы лічыце, ці дастатковая ўвага надаецца краязнаўству ў школе?**

— Школа, іншыя педагагічныя ўстановы — гэта апора краязнаўства. Але няма межаў, пагадзіцеся, для ўдасканальвання. У школах жа многія ініцыятывы рэалізоўваюцца на грамадскіх пачатках. Прыходзяць новыя пакаленні не толькі вучняў, але і настаўнікаў. Нешта губляецца, адыходзіць на задні план. Таму вельмі важна захоўваць сістэмнасць, звяртаць увагу на пераемнасць, рабіць усё магчымае, каб не зніклі бясследна грамадскія музеі. Вельмі важна расказваць пра краязнаўчыя зборы ў друку. Бо часам бывае, што нешта, знойдзенае ўжо аднойчы, губляецца. Губляюцца і сведчанні, звесткі пра пэўныя, важныя для гісторыі экспанаты, рукапісы.

**— Дык, можа быць, секцыя змагла б выдаць і пэўныя метадычныя рэкамендацыі, памяткі збіральнікам даўніны?..**

— Чаму б і не. Але, безумоўна, рабіць гэта трэба шырокай грамадой, маючы на ўвазе і вельмі важнага партнёра і дарадцу Саюза пісьменнікаў — Міністэрства адукацыі краіны. Разам магчыма зрабіць досыць шмат.

**Саюз пісьменнікаў Беларусі запрашае творцаў і чытачоў, вучняў і настаўнікаў, выкладчыкаў і студэнтаў, бібліятэкараў і ўсіх, хто любіць кнігу, далучыцца да акцыі "100 лепшых кніг" у раздзелах:**

- айчынная паэзія;
- айчынная проза;
- беларуская літаратура для дзяцей;
- сусветная літаратура.

***Паводле вынікаў акцыі будуць складацца прапановы па ўнясенні адпаведных твораў у школьную праграму.***

## *Фестывалі*

# Вязынка — Яхімоўшчына — Маладзечна

Вольга ПАЛОМЦАВА

XII Нацыянальны фестываль песні і паэзіі ў Маладзечне прапанаваў гледачам вельмі насычаную праграму. Яе літаратурная частка, галоўнымі дзеючымі асобамі якой сталі вядомыя беларускія пісьменнікі, барды, разгорталася на такіх пляцоўках, як філіялы Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы ў Вязынцы і Яхімоўшчыне, а таксама на падворку Маладзечанскага музычнага каледжа імя М. К. Агінскага. Віталі гасцей свята намеснік старшыні Мінскага аблвыканкама Віктар Шчэцька, начальнік аддзела культуры Маладзечанскага райвыканкама Аляксандр Рамановіч і іншыя афіцыйныя асобы. Вялікую падзяку мясцовым уладам за дапамогу ва ўтрыманні ў належным стане філіялаў музея выказала яго дырэктар Алена Ляшковіч.

Не толькі захаваць памяць, скарбонку паэтычнай спадчыны, але падтрымліваць жывы інтарэс да слова, спрыяць таму, каб не перасыхала творчая крыніца, — такой была мэта арганізатараў мерапрыемства. Сімвалічна, што на пачатку свята ў Вязынцы, ля помніка Купалу, прагучалі радкі, адрасаваныя Песнярам школьнікамі Марыяй Шукіловіч і Аляксеем Дзямідовічам. У Вязынцы і Яхімоўшчыне выступалі Мікола Шабовіч і Таіса Трафімава, чыя творчая біяграфія звязана з Маладзечнам, Таццяна Сівец, Міхась Башлакоў, Уладзімір Мазго. Літаратары ўсклалі кветкі да помніка Купалы ў Вязынцы і памятнага знака ў Яхімоўшчыне, наведалі філіялы музея, ацанілі творчасць маладзечанскіх мастакоў Юрыя Герасіменкі-Жызнеўскага, Міколы Аўчыннікава, Рыгора Мяжуева, Аляксандра Пашкевіча, Уладзіміра Тамашэвіча, Васіля Лазоўскага, Генадзя Селядца і Васіля Казака на выстаўцы "Мне сняцца сны аб Беларусі", адкрытай у Маладзечанскай цэнтральнай раённай бібліятэцы. У бібліятэцы прайшла і прэзентацыя выданняў, прысвечаных жыццю і творчасці класікаў. Пра кніжныя навінкі выдавецтва "Мастацкая літаратура" распавёў яго галоўны рэдактар Віктар Шніп. Кнігу "Янка Купала і беларускае адраджэнне" Рыгора Семашкевіча, якая ўбачыла свет пры дапамозе Маладзечанскага райвыканкама і супрацоўнікаў бібліятэкі, прадставіў яе укладальнік — пісьменнік, куратар літаратурнай часткі свята Міхась Казлоўскі. Цікавыя факты пра пячаткі на кнігах Янкі Купалы згадала ў сваім выступленні супрацоўніца Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Людміла Сільнова. Дэманстраваўся фільм рэжысёра Сяргея Лук'янчыкава "Я — часовы вандроўнік. Якуб Колас. Паэт і чалавек".

Галоўным акордам фестывалю сталі "Паэтычныя сустрэчы", у якіх удзельнічалі ўжо памянёныя члены Саюза пісьменнікаў Беларусі, а таксама Аліна Легастаева, Ірына Тулупава, Вольга Норына, Вольга Сакалова, Галіна Нічыпаровіч. Гучалі песні ў выкананні Радзіміра Веліча, Дзмітрыя Пятровіча, выпускніка Мінскага каледжа мастацтваў імя Ахрэмчыка Аляксандра Саланца. Урывак з паэмы Купалы ва ўласным перакладзе на рускую мову прачытала Лізавета Палеес. Вяла імпрэзу кіраўнік паэтычнага аб'яднання "Агмень" Таццяна Атрошанка, і тыя словы, якімі прадстаўляла яна кожнага выступоўцу, сведчылі: на Купалавай зямлі творчасць сучасных паэтаў добра ведаюць і любяць.

Шкада толькі, што паэты не патрапілі на галоўную сцэну Нацыянальнага фестывалю песні і паэзіі. Застаецца спадзявацца, што ў наступным годзе Паэзія атрымае не менш увагі, чым Песня.

## *Традыцыі*

# Кітайскі жывапіс: гармонія душы

**У Палацы мастацтва адбылося адкрыццё выстаўкі вядомых кітайскіх мастакоў Акадэміі жывапісу г. Сіань. Яе арганізатарамі выступілі Пасольства Рэспублікі Беларусь у Кітайскай Народнай Рэспубліцы, Рэспубліканскі інстытут кітаязнаўства імя Канфуцыя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, Рэспубліканская мастацкая галерэя, Беларускі саюз мастакоў.**

Дар'я ШОЦІК

Кіраўнік дэлегацыі — Ван Сіцзін, мастак, дэпутат Усекітайскага сходу народных прадстаўнікоў і Народна-палітычнага кансультатыўнага савета КНР, дырэктар Акадэміі мастацтва г. Сіаня. Свае выдатныя творы таксама прадставілі Ван Бэнь, Ян Шуанлінь, У Хао, Ван Цзяньшу ды іншыя.

Кітайскі жывапіс спалучае ў сабе самыя яркія і разнастайныя вобразы. Таму кожны творца праз малюнак імкнецца перадаць пачуцці, эмоцыі. Нават назвы карцін прымушалі прысутных затрымацца каля іх, падрабязна разгледзець і разгадаць гармонію, глыбіню і вытанчанасць жывапісу. Ван Сіцзін стварыў карціны "Адпачынак у Бамбукавым гаі", "Паэзія Ван Вэя", Ван Бэнь — "Марудлівы рух паўднёвых аблокаў", "Восеньскі смутак у гарах Юньлін", Ван Цзяньшу — "Спытаць дарогу", "Высакагорная вёска" і іншыя.

На ўрачыстым адкрыцці кіраўнік дэлегацыі КНР Ван Сіцзін падкрэсліў: "Кітайскі жывапіс — плоскі, больш абстрактны. Для напісання традыцыйнай кітайскай карціны выкарыстоўваюць туш, пэндзаль, фарбу, паперу. Карціну можна пачынаць маляваць як зверху і знізу, так і з сярэдзіны. Важна, каб мастак перадаў мімалётны вобраз сваёй цэласнасці".

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Гун Цзяньвэй зазначыў, што адносіны паміж нашымі краінамі ў сферы культуры плённа развіваюцца.

З беларускага боку віталі першы намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Уладзімір Карачэўскі, старшыня ўпраўлення Азіі і Афрыкі Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь Леанід Баццяноўскі, старшыня Беларускага саюза мастакоў Уладзімір Савіч, дырэктар Рэспубліканскага інстытута кітаязнаўства імя Канфуцыя БДУ Аляксандр Гардзей, прадстаўнік Беларускай гандлёва-прамысловай палаты ў КНР Ігар Бабак ды іншыя.

— Гэты год для Рэспублікі Беларусь і КНР — знакавы. Бо адзначаецца 20-годдзе дыпламатычных адносін паміж Кітаем і нашай краінай. Таму адбываюцца шматлікія культурныя сустрэчы, што сведчыць пра развіццё беларуска-кітайскага супрацоўніцтва, — падкрэсліў Уладзімір Карачэўскі.

Творчыя праекты, якія рэалізуюцца на беларускай і кітайскай землях, спрыяюць умацаванню сяброўства, узбагачэнню нашых культур. Дарэчы, Беларусь атрымала ад кітайскіх творцаў падарунак — мастацкія работы, на якіх намаляваны класікі беларускай літаратуры Якуб Колас і Янка Купала.

*Літабсягі*

# Звяздоўцы чытаюць Коласа

**Так называлася вечарына, якая адбылася ў літаратурна-мемарыяльным музеі класіка беларускай літаратуры. Сімвалічна, што сёлета "Звязда" і Якуб Колас — юбіляры. У жніўні газета адзначыць сваё 95-годдзе, у лістападзе споўніцца 130 год з дня нараджэння народнага песняра.**

**Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ, фота Кастуся Дробава**

— У майго бацькі былі даўнія добрыя адносіны з рэдакцыяй "Звязды": тут друкаваліся яго творы, часта прыходзілі карэспандэнты — бацька нікому не адмаўляў адказаць на іх пытанні, — адзначыў малодшы сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч. — Чалавеку дажыць да 95 гадоў вельмі цяжка. А газеце, як мне здаецца, яшчэ цяжэй. Асабліва ў часы, калі ідуць змены і перабудовы.

Міхась Канстанцінавіч павіншаваў звяздоўцаў з надыходзячым юбілеем, пажадаў і надалей радаваць людзей, набіраць моц і шанаваць роднае беларускае слова, без якога "згінуць народ і нацыя".

Звяздоўцы — не толькі сталы і дружны калектыў рэдакцыі, але і шматлікія аўтары, пастаянныя падпісчыкі — цікава расказвалі пра свае стасункі са старэйшай газетай краіны, чыталі вершы Коласа і паэтычныя творы, прысвечаныя яму.

Галоўны рэдактар часопіса "Нёман" Алесь Бадак успамінаў, як у дзяцінстве на гарышчы хаткі сваёй бабулі знайшоў чамадан, дзе быў цэлы стос нумароў "Звязды", у многіх з іх былі надрукаваны вершы, якія ён з цікавасцю прачытаў.

Пра свае сувязі са "Звяздой" распавядалі пісьменнікі Анатоль Бутэвіч, Мікола Чарняўскі, былыя яе супрацоўнік Мікола Жыгоцкі. Удзельнікаў сустрэчы віталі настаўніца беларускай мовы і літаратуры гімназіі № 25 г. Мінска Аліна Пахвалёная і дырэктар Стаўбцоўскай дзіцячай бібліятэкі Наталля Даўлюд.

У доме, дзе жыў пясняр, гучалі песні пра Беларусь і яе красу. Варта адзначыць, што гэтую цікавую па змесце і сэнсе сустрэчу арганізавалі дырэктар музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская, намеснік галоўнага рэдактара "Звязды" Таццяна Падаляк, іх сталыя і юныя памочнікі.

**Радкі ў тэму:** Колас і "Звязда".

**1/XI 1945 г.** …Вечарам закончыў пачаты раніцою верш "Зварот"… Падвёз Броўку да выдавецтва і сам зайшоў туды, здаў верш у "Звязду"…

**31/V 1947 г.** …Толькі што званілі са "Звязды" — даць што-небудзь ка дню вызвалення БССР і да 30-годдзя "Звязды". Так і няма калі жыць, адпачыць, папрацаваць над чымнебудзь…

**24/VI 1947 г.** …Пад вечар занёс у "Звязду" артыкульчык да 5-й гадавіны з дня смерці Купалы. Адчуваў сябе ўвесь дзень кепска…

**1928 г. Кастрычнік, 14.** У "Звяздзе" змешчана выступленне Якуба Коласа, прысвечанае рэарганізацыі Інстытута Беларускай культуры ў Акадэмію навук БССР.

**1936 г. Верасень, 29.** Выступае ў "Звяздзе" з прывітаннем піянерам БССР…

**1939 г. Люты, 11.** Разам з групай пісьменнікаў-ардэнаносцаў наведвае рэдакцыю "Звязды". У гутарцы былі намечаны шляхі далейшага ўмацавання творчай сувязі пісьменнікаў з перыядычным друкам…

**1939 г. Лістапад, 13.** На сходзе калектываў друкарні і рэдакцыі газеты "Звязда", БелТА і рэдакцыі часопіса "Работніца і калгасніца" вылучаецца кандыдатам у дэпутаты Мінскага абласнога Савета дэпутатаў працоўных…

**1949 г. Чэрвень, 5.** У "Звяздзе" друкуецца артыкул, прысвечаны юбілею А. С. Пушкіна "Сонца нашай паэзіі"…

**1949 г. Ліпень, 29.** У сувязі з артыкуламі Якуба Коласа ("Звязда", № 84) і М. Ларчанкі ("ЛіМ", № 29) аб паэме М. Лужаніна "Кладкі Градоўскага" адбылося пасяджэнне прэзідыума СП Беларусі, прысвечанае абмеркаванню паэмы…



*Выступае Міхась Міцкевіч.*

*Артлінія*

# Перазовы над Мядзелкай

**Тры дні прымала Пастаўшчына міжнародны фестываль народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік" — яго Міністэрства культуры краіны ладзіць разам з упраўленнем культуры Віцебскага аблвыканкама і Пастаўскім райвыканкамам. Пятнаццатае па ліку свята самабытнай і мнагажанравай творчасці беларусаў, якое ўжо шмат гадоў, шчыра і па-сяброўску, прымае таленавітых гасцей з розных краін, не толькі пацвердзіла свае лепшыя традыцыі, але і парадавала сюрпрызамі.**


*Традыцыйнае шэсце ўдзельнікаў і гасцей фестывалю.*

**Арцём КУМЕЛЬСКІХ, фота з сайта www.postawy.by**

Той, хто бываў на гэтым сапраўдным беларускім свяце, можа гадзінамі распавядаць пра яго незабыўныя імгненні. Бо ці не кожная фестывальная хвіліна ў маляўнічым старадаўнім гарадку ўспрымаецца як непаўторная падзея. Многія ўспамінаюць шматлюднае ўрачыстае адкрыццё сёлетняга фэсту на галоўнай плошчы — з удзелам Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору імя Г. Цітовіча, якое спакваля перайшло ў яскравы канцэрт гэтага славутага калектыву і завяршылася апошнім музычна-тэатралізаваным "Пастаўскім балем" з галавакружным феерверкам. Самыя азартныя аматары народнай творчасці пацешылі душу, завітаўшы ў Дом культуры на традыцыйны конкурс народна-інструментальных калектываў і салістаў "Хто каго?" Праўда, сёй-той мусіў выбіраць паміж двума творчымі спаборніцтвамі, бо адначасова на плошчы праходзіў агляд-конкурс мастацкай самадзейнасці, прысвечаны Году кнігі і 130-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа, ды "Кніжны фэст" з удзелам навучальных устаноў горада. Вабіў кніжны кірмаш, дзе можна было знайсці творы беларускіх класікаў і сучасных літаратараў. Апантаныя слухачы імкнуліся на працягу дня спаткацца з "Музыкай беларускіх палацаў і сядзіб" ля Палаца Тызенгаўза, наведаць адкрыты супольны канцэрт ансамбля званароў ды Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра імя І. Жыновіча — "Званы над Мядзелкай", павітаць выступленне славутых суседзяў з Літвы — Дзяржаўнага ансамбля песні, музыкі і танца "Lietuva", а ўжо наступнай раніцай завітаць у касцёл на канцэрт класікі... У межах творчай лабараторыі ладзіўся традыцыйны майстар-клас, які паяднаў аматараў ды выканаўцаў-прафесіяналаў. А ў Пастаўскай дзіцячай школе мастацтваў, дзе захоўваюць і падтрымліваюць выканальніцкія традыцыі легендарных "Груздаўскіх дзядоў", адбылася ўрачыстасць з нагоды надання гэтай навучальнай установе імя Антонія Тызенгаўза... І, здаецца, ніхто не абмінуў заваблівы свет "Горада майстроў" ды шэраг выставак у Доме рамёстваў "Стары млын".

Сёлета ў Паставы з'ехалася некалькі соцень гасцей, у тым ліку з Казахстана, Латвіі, Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны, Эстоніі. Міжкультурныя перазовы расквечваюць атмасферу фестывалю, які цягам гадоў ператвараецца з лакальнага свята народнай інструментальнай музыкі ў прэстыжны нацыянальны форум з добрай міжнароднай рэпутацыяй.

*Повязі*

# Кадры азербайджанскага кіно

**Фотавыстаўка "Летапіс азербайджанскага кіно" прайшла ў Музеі гісторыі беларускага кіно. Яе арганізатарамі выступілі Міністэрства культуры і турызму і Дзяржфільмфонд Азербайджана.**

**Дар'я ШОЦІК, фота аўтара**

Асаблівая ўвага кінематографу ў Азербайджане была нададзена ў 1898 годзе. У гэтыя часы мясцовы фатограф Аляксандр Мішон стварае хроніку бакінскага жыцця — першыя нямыя кінасюжэты. Сярод іх "Народныя гулянні ў гарадскім садзе", "Прыбыццё цягніка на станцыю", "Ранняя раніца на кірмашовай вуліцы" ды іншыя. Азербайджанскі кінематограф пачаў інтэнсіўна развівацца, і важным напрамкам дзейнасці стала мадэрнізацыя кінавытворчасці, будаўніцтва новых кінатэатраў, развіццё кінапракату…

На адкрыццё выстаўкі завіталі дырэктар Дзяржфільмфонду Азербайджана Джаміль Гуліеў, дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва кінафотафонадакументаў Віктар Баландзін, кінарэжысёр Уладзімір Арлоў.

— У 2010 годзе Дзяржфільмфонд Азербайджана заключыў мемарандум з Беларускім дзяржаўным архівам кінафотафонадакументаў аб сяброўстве, супрацоўніцтве і ўзаемадапамозе, — зазначыў Джаміль Гуліеў. — І як вынік пагаднення — фотавыстаўка, прысвечаная гісторыі азербайджанскага кіно. Экспазіцыя распавядае пра гісторыі стварэння самых вядомых фільмаў 1923 — 1995 гадоў.

Пра культурныя стасункі паміж беларускім і азербайджанскім народамі, пра абмен досведам у кінавытворчасці распавёў Віктар Баландзін.

А 7 чэрвеня ў Музеі гісторыі беларускага кіно адбыўся прагляд мастацкага фільма "Я любил вас больше жизни" (1985), рэжысёр якога — Расім Ісмайлаў. Карціну здымалі на кінастудыі "Азербайджанфільм" сумесна з "Беларусьфільмам". Яна прысвечана двойчы Герою Савецкага Саюза генерал-маёру Азі Асланаву, які змагаўся за вызваленне нашай краіны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.



*Кадр з фільма "Я любил вас больше жизни".*

*З-пад пяра*

➤ У рамках Міжнароднага фестывалю этнакультур у Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі прайшоў канцэрт творчых калектываў грузінскай і армянскай дыяспар "Рытмы Каўказа". Арганізатарамі вечарыны выступілі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі. Танцавальны ансамбль народнага танца Грузіі "Сонечная Грузія" (мастацкія кіраўнікі — заслужаныя артысты Грузіі Натэла і Суліко Іоселіяні) ды фальклорны ансамбль "Эрэбуні" пры Мінскім гарадскім культурна-асветніцкім таварыстве "Айастан" праз творчасць імкнуліся перадаць звычаі і традыцыі народа.

**Дар'я БЕКІШ**

➤ Алена Брава, пісьменніца з Барысава, добра вядома чытачам літаратурна-мастацкіх часопісаў "Маладосць", "Нёман", газеты "Літаратура і мастацтва". У апошні час творы беларускага празаіка ў перакладзе на рускую мову выходзяць на больш шырокую прастору. У прыватнасці, летась аповесць А. Брава "Дараванне" надрукавана ў часопісе "Сибирские огни". А сёлета згаданы твор, прысвечаны тэме Другой сусветнай вайны, асэнсаванню яе падзей у беларускім і нямецкім грамадстве, вылучаны ў доўгі спіс расійскай літаратурнай прэміі "Ясная Поляна". Будзем спадзявацца, што аповесць патрапіць і ў кароткі спіс узнагароды, заснаванай Домам-музеем Л. М. Талстога. А ў часопісе "Сибирские огни" ў бліжэйшы час пабачыць свет аповесць Алены Брава "Каменданцкі час для ластавак".

**Сяргей ШЫЧКО**

➤ Магілёўскай абласной бібліятэкай імя У. І. Леніна падрыхтаваны чарговы выпуск інфармацыйна-аналітычнага бюлетэня "Веснік бібліятэк". Галоўная тэма нумара — стан і перспектывы развіцця дзіцячых кніжніц. Іх у вобласці 36. У бюлетэні паказваюцца найбольш цікавыя знаходкі. Так, аналізуецца праца Кіраўскай раённай дзіцячай бібліятэкі па прафарыентацыі, прававой асвеце і выхаванні моладзі. Распавядаецца таксама пра досвед па стварэнні пры кніжніцах лялечных тэатраў і гурткоў (да прыкладу, пра тэатр лялек "Бусляня" пры Шклоўскай дзіцячай бібліятэцы, які летась атрымаў званне ўзорнага). Працягвае тэму матэрыял з Асіповіцкай бібліятэчнай сеткі "Праз салон лялек — у свет кнігі". А Быхаўскі раён прапануе вандроўку "З любоўю да роднага слова".

**Ярына РЫТАМІНСКАЯ**

➤ Апошні ўрок беларускай літаратуры ў гэтым навучальным годзе ў Патапаўскай сярэдняй школе Буда-Кашалёўскага раёна, які правяла Любоў Янчанка, быў адкрытым. Прысвячаўся ён творчасці земляка, выпускніка школы 1972 года, пісьменніка Анатоля Зэкава. На ўроку прысутнічалі дырэктар школы Леанід Семянякін, настаўнікі, лепшыя вучні і, вядома, сам паэт. Школьнікі чыталі вершы і ўрыўкі з яго празаічных, публіцыстычных і аўтабіяграфічных твораў. Асабліва кранальна гучалі яны з вуснаў дзяцей, унукаў і нават праўнукаў тых, пра каго пісаў Анатоль Зэкаў, каму прысвяціў свае паэтычныя і празаічныя радкі. А потым, як бы ў працяг гэтаму, адбыўся другі ўрок, які правёў для вучняў і настаўнікаў роднай школы сам пісьменнік-зямляк.

**Марыя БЯРНАЦКАЯ**

# ЛіМ: 1948

Вольга ПАСІЯК

*“Кінастудыя “Беларусьфільм” выпусціць новыя поўнаметражныя фільмы “Канстанцін Заслонаў” — сцэнарый А. Маўзона і “Палескія рабінзоны” (па матывах аповесці Я.Маўра) — сцэнарый Ф. Блажэвіча”* (“ЛіМ”, 1948, 1 студзеня). Такія планы беларускага кіно на 1948 год. Але эпіцэнтрам культурнага жыцця стала літаратура, і яе праграма ўражвае: *“Народны паэт БССР Якуб Колас будзе працаваць над апошняй кнігай трылогіі жыцця Палесся, М.Лынькоў — над новым раманам. А. Стаховіч будзе далей працаваць над раманам “Пад мірным небам”, Я. Брыль — над раманам “Граніца”, І. Шамякін — над другой часткай аповесці “Глыбокая плынь”, І. Мележ — над аповесцю “Мінскі напрамак”. Новыя творы напішуць К. Крапіва, П.Броўка, А. Куляшоў, А. Бялевіч, П. Глебка, М. Танк, П. Панчанка, М. Клімковіч, У. Краўчанка, В. Вітка, І. Грамовіч, К. Кірэнка, П. Кавалёў і інш.”* (“ЛіМ”, 1948, 1 студзеня). І тэм для дыскусій тут аказалася нямала.


ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

Да стагоддзя „Маніфеста Камуністычнай партыі“

Аб оперы „Вялікая дружба“ В. Мурадэлі

Пастанова ЦК ВКП(б) ад 10 лютага 1948 г.

КОМУНІСТЫ

Першым літаратурным пытаннем, якое актыўна ўзнімалася на старонках прэсы, стаў актыўны адбор “правільнай” і “шкоднай” літаратуры для самых непадрыхтаваных чытачоў — школьнікаў. *“Цэнтральны Камітэт КП(б) Беларусі адзначыў, што ў гэтых хрэстаматыях і вучэбных дапаможніках, зацверджаных Міністэрствам асветы БССР у 1945 — 46 гадах, маюцца значныя памылкі ідэалагічнага характару, а іменна — асобныя хрэстаматыі (у асаблівасці для VIII класа) складзены такім чынам, што гісторыя беларускай літаратуры выглядае ў іх як “адзіная плынь”, адарваная ад рускай літаратуры, без класавай барацьбы ў асяроддзі беларускай нацыі, без адлюстравання гэтай барацьбы ў беларускай культуры. У некаторых тэкстах, уключаных у хрэстаматыі, заваяванне Беларусі Літоўскай феадальнай дзяржавай у XIV стагоддзі разглядаецца як добраахвотнае далучэнне Беларусі да Літвы, а жыццё беларусаў у літоўскай дзяржаве — як “залаты век” (прамова Ф. Багушэвіча да “Дудкі беларускай”). Апрача гэтага, у паасобных творах ідэалізуюцца адносіны паміж панамі і прыгоннымі сялянамі (“Тапон” Дуніна-Марцынкевіча і інш.)* (“ЛіМ”, 1948, 17 студзеня). Перагляд літаратурнай спадчыны падштурхнуў па-іншаму зірнуць у тым ліку і на яе гістарычны аспект: *“Хрэстаматы запоўнены псеўдагістарычнымі матэрыяламі (“Ефрасіння Полацкая”, “Уладзімір і Рагнеда” В. Вольскага), многа месца адводзіцца антымастацкім і безыдэйным творам, старажытным псеўданароднымі казкам і прыказкам, а таксама творам, якія маюць пошла-эратычныя матывы”* (“ЛіМ”, 1948, 17 студзеня). Як кажуць, ні прыбавіць, ні адняць.

Само сабой узнікае пытанне: якая літаратура павінна цікавіць маладое пасляваеннае пакаленне? На старонках “ЛіМа” з лёгкасцю знаходзім адказ. *“У хрэстаматы не ўключаны лепшыя творы беларускай літаратуры, як напрыклад, “Торад Барысаў”, “Тарасава доля”, творы аб Вялікай Айчыннай вайне Я. Купалы і інш., Якуба Коласа — “Дрыгва” і “Адплата”, Кандрата Крапівы “Партызаны”* (“ЛіМ”, 1948, 17 студзеня). Але калі наконт класікаў айчыннай літаратуры не паспрачаешся, то другі аспект тагачаснай прапаганды выклікае некаторыя пытанні. *“У хрэстаматыях для VI класа няма нават успамінаў аб пасляваеннай сталінскай пяцігодцы, не ўключаны творы вядучых пісьменнікаў Беларусі”* (“ЛіМ”, 1948, 17 студзеня). Менавіта гэта пазіцыя становіцца важкім аргументам з боку савецкай крытыкі, каб абвінаваціць стваральнікаў школьных падручнікаў у неадпаведнасці сучаснасці і, што тут скажаш, вярнуць развіццё нашай літаратуры на некалькі крокаў назад. І зноў на перадавую прасунуты адназначныя аргументы: *“Гісторыю, — вучыць нас таварыш Сталін, — нельга ні паляпшаць, ні пагаршаць”. Толькі з пазіцый марксізма-ленінізма магчыма правільна зразумець жыццё і дзейнасць выдатных людзей мінулага і праўдзіва ацаніць іх сілу і веліч, іх слабасці і памылкі”* (“ЛіМ”, 1948, 17 студзеня).

Якой павінна была стаць літаратура, каб не выклікаць пытанняў з боку ідэолагаў ЦК партыі і адпавядаць прынцыпам сацыялістычнага рэалізму? *“Кніга аб трактарным заводзе павінна быць створана. Час не чакае, яго засталося роўна столькі, каб паспець справіцца з велізарнай работай. Кнігу чакае ад нас увесь беларускі народ, мы абавязаны даць яе”* (“ЛіМ”, 1948, 31 студзеня). Не адрозніваюцца і патрабаванні да паэзіі. Сярод творчасці Кастуся Кірэенкі прыкладам паэтычнага слова прызнаецца зусім не паэтычнае вершаскладанне:

*Калі партыя*
*з ласкай прымала мяне*
*У рады свае слаўныя,*
*у ясны свой свет*
*Папрасіў я ў сяброў,*
*каб як сонца вясна —*
*Мне пакінулі мой*
*камсамольскі білет*
(“ЛіМ”, 1948, 30 кастрычніка).

Дый ці могуць быць іншымі меркаванні, калі свет пабачыў першы том твораў І. Сталіна ў перакладзе на беларускую мову, які аб’ядноўваў трыццаць работ, напісаных у перыяд з 1901 да красавіка 1907 года? Тут ужо крытыкі не скупяцца на пахвалы, прыпісваючы аўтару нечаканыя творчыя дасягненні: *“...Сталін крытыкуе ідэалізм і дуалізм, вульгарны матэрыялізм, развівае марксісцкае матэрыялістычнае разуменне прыроды і грамадства”* (“ЛіМ”, 1948, 8 мая).

Пацвярджэннем цікавасці менавіта да такога камуністычна-ідэалагічнага слова ў савецкай прэсе традыцыйна станавіўся зварот да лістоў чытачоў. Сёння можна па-рознаму адносіцца да такіх публікацый, але аднаго ў іх не адняць — яны надавалі бязлікім старонкам савецкіх газет эмоцыі, хай нярэдка і створаныя штучна. Вось К.Папкоўскі з Лагойскага раёна крытыкуе аповесць Усевалада Краўчанкі “Рыгор Шыбай”: *“У аповесці не бачна кіруючай і натхняючай ролі камуністаў і камсамольцаў”* (“ЛіМ”, 1948, 31 студзеня). І тут жа некалькі лістоў ад апанентаў, якія з такімі абвінавачваннямі не згодны. А побач разварнулася другая дыскусія — пра “Глыбокую плынь” Івана Шамякіна. Між іншым С.Клеманскі з Брэсцкай вобласці заўважае: *“Я думаю, што героям нашых аповесцяў у адпаведнасці з жыццёвай праўдай павінна быць характэрна не тое, што яны змагаюцца за асабістае жыццё, а тое, што яны змагаюцца за інтарэсы совецкага народа”* (“ЛіМ”, 1948, 31 студзеня).

Гартаем старонку за старонкай чарговых нумароў “ЛіМа” за 1948 год. Шмат падзей, імёнаў, дасягненняў. Большасць з іх — у літаратуры. І зразумела, што нават у атмасферы навязвання “чытацкага спісу” нараджаліся шэдэўры, да знаёмства з якімі газета падштурхоўвала сваіх чытачоў. Наўрад ці прадстаўнік сучаснага пакалення ў вольную хвіліну будзе гартаць том сачыненняў Сталіна, але ў той жа час хто з нас не пранікаўся перажываннямі герояў “Глыбокай плыні”.

# Сінтэз трох мастацтваў

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

**Персанальная выстаўка скульптуры Хізры Асадулаева прайшла ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры.**

Калі нехта скажа, што скульптура — гэта штосьці нерухома-халоднае, не верце яму. Скульптуры Хізры Асадулаева — увасабленне руху, тэмпераменту, страсці, парыву. Па эмацыянальным уздзеянні некаторыя з іх падобныя да шквалу, урагану, бурлівага вадаспаду. Фігуры спартсменаў і танцоўшчыкаў, музыкаў і закаханых насуперак статычнасці матэрыялу, з якога яны выцягнуты рукою майстра, працягваюць рух, апантана і захоплена, натхнёна і радасна аддаючыся мелодыі, рытму, покліч мускулаў, песні, страсці...

Але скульптар можа, згодна з задумай, пагрузіць сваю работу і ў жалобнае маўчанне, і ў філасофскую запаволенасць. Абрыс велізарнай ваўчыцы абдымае дзіцячая фігурка — без рукі і без нагі. Гэтая праца — напамін пра чачэнскую вайну. Патрыятызм і разбурэнне ідэалаў, жорсткасць і крушэнне ілюзій… Ваўчыца — сімвал шматпакутнай Чачні ці таго, кім нярэдка чалавек для чалавека становіцца падчас войнаў? Ёсць дзеля чаго спыніцца, ёсць пра што падумаць.

Іншая праца — постаць крыжападобна раскінула рукі, зацiснуўшы ў кожнай па пясочным гадзінніку. І ў правай руцэ пясок толькі пачынае бегчы з верхняга яруса гадзінніка ўніз. А ў левай бег гэты амаль што скончаны. Яшчэ некалькі хвілін, і апошняя пясчынка злавесна ўпадзе долу. Што тады здарыцца? Прыйдзе канец свету ці то смерць ахіне сваімі крыламі аднаго чалавека? А можа, для яго ўсяго толькі скончыцца чарговы этап жыцця, за якім — новыя далягляды, новыя радасці, расчараванні і — новае пакутлівае чаканне невядомасці, якую нараджае пясок у антычным гадзінніку?

Дагестанец Хізры Асадулаеў вось ужо трыццаць гадоў жыве на беларускай зямлі. Тут ён пачаў рэалізоўваць сябе як творца, дадаўшы ў беларускае мастацтва каўказскай страснасці і энергічнасці. А не так даўно мы адкрылі для сябе Хізры-паэта, незвычайна мудрага і сур’ёзнага, і Хізры-перакладчыка, які даў магчымасць вершам нашых класікаў Янкі Купалы і Якуба Коласа загучаць на яго роднай карацінскай мове. Пасля выхаду ў 2009 годзе паэтычнага зборніка “Торо” Хізры Газіевіч быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі.

Яшчэ адзін рэалізаваны талент творцы — музычны. Ён сам піша музыку да сваіх вершаў, і песні гэтыя цяпер нярэдка гучаць на канцэртах і па радыё. Сінтэз паэзіі, музыкі і выяўленчага мастацтва і нарадзіў незвычайна пластычныя, яркія, напоўненыя высокім філасофскім сэнсам скульптуры майстра. Выстаўка прыцягнула ўвагу аматараў прыгожага. Безумоўна, яна не будзе апошняй.

# Журналістыка — адказнасць за кожнае слова

Дар’я ШОЦІК

**На базе Інстытута журналістыкі БДУ прайшло традыцыйнае мерапрыемства — “Летняя школа журналістыкі”, якое ладзіцца ў рамках VII Беларускага міжнароднага медыяфоруму “Партнёрства ў імя будучыні: мадэлі новай эпохі”. Сваімі думкамі пра адказнасць журналістаў, творчы падыход, інтэрнэт-журналістыку і іншае дзяліцца ўдзельнікі “круглага стала” “Маладыя — маладым. Тэрыторыя поспеху”.**

**Эльдар Муртазін, заснавальнік і кіраўнік анлайн-праекта Mobile-Review.ru, аднаго з самых папулярных у Расіі інфармацыйна-аналітычных рэсурсаў, прысвечаных IT-індустрыі і гаджэтам (Расія):**

— Не сакрэт, што сёння журналістыка павінна быць карыснай, яна лавіруе паміж інтарэсамі розных людзей. Але вельмі часта яе карыснасць губляецца.

Многія маладыя журналісты шукаюць нейкі фармат унікальнасці, не прымаюць усё, што было раней. Сцвярджаюць, што толькі эпатаж патрэбен. На мой погляд, быць карысным для іншых людзей складана, аднак гэта прыносіць больш дывідэндаў.

Мы працуем ва ўмовах, калі з аднаго боку — чытачы, з другога — наша рэкламная мадэль. У журналіста адна магчымасць быць незалежным — адстойваць свой пункт гледжання.

**Серджыў Куляк, вядучы навін, аўтар інфармацыйных праграм і ток-шоу на тэлеканале Publica TV (Малдова):**

— Галоўныя героі нашых навін — людзі. Для нас навіна не тое, што прэзідэнт сустрэўся з грамадзянамі, а тое, што грамадзяне атрымалі ад гэтай сустрэчы. Калі ёсць дзесяць навін у дзень і адна з іх пра адключэнне ацяплення ў нейкім раёне — гэта самая каштоўная інфармацыя, бо яна звязана з інтарэсамі людзей, якія жывуць у краіне, горадзе. Навіны ў праграме могуць паўтарацца, асноўнае — важнасць і актуальнасць.

**Марына Арсёнава, намеснік галоўнага рэдактара часопіса “Допинг” (Украіна):**

— На мой погляд, інтэрв’ю — самы складаны і папулярны жанр у журналістыцы. Калі журналіст займаецца расследаваннем, то ў яго ёсць тыдзень-два — пакуль не будзе выніку. А інтэрв’ю — гэта тут і цяпер: у цябе ёсць 20 — 30 хвілін, за гэты час трэба даведацца пра важнае, цікавае.

Не рэкамендую рабіць інтэрв’ю па электроннай пошце, бо атрымліваецца заўсёды слаба: чалавек адказвае вяла, сцісла. У выніку — няма ніякай гутаркі, толькі набор пытанняў з незразумелымі адказамі. Галоўнае, каб чалавек, у якога бераце інтэрв’ю, быў цікавым суразмоўцам для вас, тады матэрыял атрымаецца жывым, займальным…

**Артур Саруханаў, начальнік інтэрнэт-аддзела штодзённай дзелавой газеты “РБК-daily” (Расія):**

— Мы стартавалі ў 2003 годзе з анлайн-версіі. На маю думку, інтэрнэт-журналістыка — больш структураваная. Фактычна, анлайн-медыя ўяўляе нейкі гібрыд паміж інфармацыйным агенцтвам і штодзённай газетай. Наша анлайн-версія акрамя фотагалерэі, відэа змяшчае блогі, якія пішуць розныя эксперты. Таксама ў сацыяльных сетках завялі сваю старонку, дзе публікуем кароткія навіны.

**Васіль Матвееў, рэдактар аддзела сацыяльных навін газеты “Рэспубліка” (Беларусь):**

— Сацыяльная тэматыка — гэта тое, з чым да журналістаў прыходзяць людзі, калі прайшлі розныя інстанцыі. У рэдакцыю дасылаюць шмат лістоў, у якіх звяртаюцца: “Дапамажыце, адна надзея на вас”. Часам даводзіцца праводзіць журналісцкае расследаванне. І тут мала проста канстатаваць факт, неабходна разабрацца ў праблеме, дакапацца да ісціны. Паехаць у іншы горад, пасядзець у архівах, пагаварыць з людзьмі, якія трапілі ў такую сітуацыю — тады будзе вынік.

# Сёння — дзеці, заўтра — народ

**У мінулым месяцы вядомае не толькі ў нашай краіне, а і далёка за межамі Беларусі выдавецтва "Пачатковая школа" адзначыла сваё дзесяцігоддзе. Да святкавання гэтай юбілейнай даты быў прымеркаваны "круглы стол", тэмай якога стаў вопыт плённай працоўнай дзейнасці "Пачатковай школы", пра што казала і сама яго назва: "На крок паперад часу: сучаснае выдавецтва ва ўмовах развіцця інфармацыйных тэхналогій".**

**Раіса БАРАВІКОВА**

У "круглым стале" бралі ўдзел калегі па выдавецкай справе, пісьменнікі, навукоўцы. Перад прысутнымі выступіў міністр адукацыі Рэспублікі Беларусь Сяргей Маскевіч.

Для мяне ж асабіста "круглы стол" стаў штуршком да літаратурнай вандроўкі па ўсім дзесяцігадовым шляху гэтага, цяпер ужо аднаго з буйнейшых у краіне, выдавецтва. Зразумела, што ў вандроўцы маёй спадарожніцай стала дырэктар "Пачатковай школы" Наталля Ваніна. Але перш чым распачаць нашу вандроўку, мне хочацца згадаць 2000 год, у якім я калісьці атрымала прапанову ўзначаліць часопіс "Алеся". Было шмат сумненняў, і ўсе, з кім імі тады дзялілася, у адзін голас раілі пазнаёміцца з Н. Ванінай, якая на той час была галоўным рэдактарам часопіса "Пачатковая школа", маўляў, у яе ёсць чаму павучыцца, што пераняць, каб і тыраж быў вялікім, і штомесячна расла папулярнасць выдання. У тым годзе мы і пазнаёміліся. У "Пачатковай школы" сапраўды быў зайздросны тыраж, які дазваляў часопісу быць самаакупным, а вось як і чаму ўзнікла ідэя на яго базе стварыць аднайменнае выдавецтва, пытаюся ў Наталлі Генадзьеўны цяпер, на самым пачатку нашай літаратурнай вандроўкі.

— Каб адказаць на гэтае пытанне, мне трэба, напэўна, удакладніць, што часопіс "Пачатковая школа" з'яўляўся і з'яўляецца навукова-метадычным выданнем. Ён па-ранейшаму вельмі запатрабаваны, карыстаецца заслужаным аўтарытэтам у педагогаў і арганізатараў сістэмы адукацыі, таксама і ў бацькоў… Але часопіс — гэта часопіс. Тут асабліва не разгорнешся, жыццё ўжо тады патрабавала іншых маштабаў як у выданні навукова-метадычных дапаможнікаў, так і ўвогуле большай разнастайнасці ў кнігавыданні для дзяцей. Якраз тым часам на наш кніжны рынак хлынуў вал так званай камерцыйнай літаратуры, трэба было, каб нешта зусім іншае супрацьстаяла яму. Вядома, на пустым месцы, што называецца з нуля, выдавецтва цяжка стварыць, а вось маючы такую базу, як часопіс "Пачатковая школа", рэальна. Толькі патрабавалася прыкласці трошкі намаганняў, як след загарэцца гэтым і працаваць, працаваць усім калектывам, усёй камандай… Спачатку павялічылі выпуск навучальнай і навучальна-метадычнай літаратуры па ўсім спектры пачатковай адукацыі — метадычныя дапаможнікі і распрацоўкі для настаўнікаў, метадыстаў, інспектараў пачатковай школы, рабочыя сшыткі і тэсты для вучняў… Мы распрацавалі і выпусцілі букварны комплекс вядомага ў нашай краіне аўтара-букварыста Н. Старажавай. Акрамя гэтага, выдалі кніжку для навучання чытанню 5 — 6-гадовых дзетак "Краіна Букварыя". Паколькі мы працуем у адукацыйнай сферы, са школаю, настаўнікамі, дзецьмі і падлеткамі, іх бацькамі, нас, безумоўна, хвалявалі, як хвалююць і цяпер, пытанні выхавання. І гэта праблематыка стала адным з галоўных напрамкаў нашай выдавецкай дзейнасці.



**— Мне запомнілася адна тэлеперадача з удзелам знакамітага пісьменніка Сяргея Міхалкова, які шмат напісаў для дзяцей, дзе ён сказаў пра іх: "Сёння — дзеці, заўтра — народ"… І гэта сапраўды так! Відаць, таму на самых прэстыжных Міжнародных кніжных выстаўках переважае дзіцячая літаратура. У любой краіне хочуць выхаваць нармальнае, здаровае ва ўсіх адносінах, стваральнае пакаленне, і выхоўваць яго, вядома ж, трэба з маленькага ўзросту. Звычайна думаецца як? Дзіця ідзе ў школу, каб навучыцца там чытаць, пісаць, лічыць… Але яго трэба навучыць і прыгожым пачуццям, выхаваць яго душу.**

— Нашы выданні якраз у гэтым плане і дапамагаюць бацькам і настаўнікам — каб дзіця з маленькага ўзросту вырастала ва ўсіх адносінах годным чалавекам і найперш патрыётам сваёй зямлі, сапраўдным грамадзянінам сваёй краіны. Тут магу згадаць тры кніжкі, якія мы выдалі і якія лагічна працягваюць адна адну. Гэта "Беларусь — наша Радзіма. Падарунак Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі першакласніку", "Беларусь — краіна тваёй будучыні. Кніга для выпускніка" (адзін з кампанентаў навучальнага комплексу да курса "Чалавек. Грамадства. Дзяржава") і "Я — грамадзянін Рэспублікі Беларусь" — камплектнае падарункавае выданне. Яно выйшла ў 2007 годзе ў рамках рэалізацыі Прэзідэнцкай праграмы "Дзеці Беларусі" і з'яўляецца найбуйнейшым выдавецкім праектам у нашай краіне за апошняе дзесяцігоддзе. Па выніках конкурсу "Мастацтва кнігі" ў 2008 годзе камплект прызнаны лепшым масавапалітычным выданнем года. Акрамя таго, кніга "Я — грамадзянін Рэспублікі Беларусь" атрымала Спецыяльны дыплом на адным з конкурсаў сярод краін СНД.

І яшчэ пра адно хачу тут сказаць… Каб наша моладзь па-сапраўднаму змагла палюбіць сваю Айчыну, адкрыць для сябе непаўторнасць і хараство нашай зямлі, яе трэба пазнаёміць з усімі куточкамі і гістарычнымі мясцінамі Беларусі. Зыходзячы з гэтага, мы і пачалі выдаваць серыю "Гарады і гістарычныя мясціны Беларусі". Над праектам працую я сама ў суаўтарстве з вядомым пісьменнікам Навумам Гальпяровічам. Першая кніга з гэтай серыі "Полацк — бацька гарадоў беларускіх" выйшла ў свет у жніўні 2010 года. І праз год з'явілася наступнае выданне — "Мінск — сталіца Беларусі", а літаральна днямі пабачыла свет і трэцяя кніжка — пра Гродна. Разам з Навумам Якаўлевічам мы прэзентавалі яе на Фестывалі нацыянальных культур у Гродне. А наперадзе ў нас новыя выданні з гэтай серыі — пра Магілёў, Віцебск, Гомель…

**— Зусім нядаўна прамільгнула ў друку, што разам з Навумам Гальпяровічам вы бралі ўдзел у святкаванні 1150-годдзя нашага слаўнага старажытнага Полацка. Канечне ж, прэзентавалі там кнігу "Полацк — бацька гарадоў беларускіх"?**

— Не толькі яе… Мы з Навумам Якаўлевічам яшчэ і аўтары кніжкі "Полоцк — Смоленск. Вехи общей судьбы", якую сёлета выдала наша выдавецтва пры падтрымцы Саюзнай дзяржавы. Кніга непасрэдна прысвечана 1150-годдзю Полацка і Смаленска, яна не проста знаёміць чытачоў са старажытнымі славянскімі гарадамі, а і дазваляе прасачыць гістарычную сувязь гэтых гарадоў, шляхі развіцця Полацка і Смаленска ад першага ўпамінання ў летапісах да нашых дзён, азнаёміць з найбольш значнымі помнікамі даўніны, архітэктурай, музейнымі калекцыямі. Кніга, безумоўна, стане добрым дапаможнікам настаўнікам у арганізацыі экскурсій школьнікаў, што нярэдка наладжваюцца і ў Полацк, і ў Смаленск. А ў тым, што ў самых розных чытачоў ёсць вялікая цікавасць да гэтай кніжкі, мы якраз і пераканаліся на яе прэзентацыі падчас вельмі прыгожага святкавання 1150-годдзя Полацка.

**— Наталля Генадзьеўна, ведаю, што вельмі папулярныя сярод дзяцей і вашы часопісы. Памятаеце, калі толькі пачынаў ствараць "Рукзачок", у мяне нават было жаданне з "Маладосці" перайсці на працу ў аддзел літаратуры. Часопіс яшчэ не быў зарэгістраваны, а ўжо рыхтаваўся першы нумар і ўсё паказвала на тое, што яго з цікавасцю чакае дзятва. З якога меркавання вы зыходзілі, калі пачыналі яго выдаваць?**

— Я ўжо часткова адказала на гэтае пытанне: на наш кніжны рынак хлынуў вал камерцыйнай дзіцячай літаратуры… Было яшчэ і нешта асабістае: у мяне пачалі з'яўляцца ўнукі, а дзіцячых выданняў у нас і няшмат. Да таго ж, ніхто і нішто не раскажа нашым дзецям пра нас, нашу зямлю, яе гісторыю і культуру так, як можам расказаць пра гэта мы самі са старонак сваіх выданняў. Вось і нарадзіўся праект, пачаў выдавацца часопіс "Рюкзачок"… Нават цяжка паверыць, але кола яго чытачоў за гэты час вырасла да 10 тысяч. Дарэчы, гэта пакуль адзіны ў нашай краіне дзіцячы часопіс з электронным дыскам. У 2009 годзе па выніках V Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ "Залатая Ліцера" "Рюкзачок" быў прызнаны лепшым часопісам для дзяцей і падлеткаў. Але, як паказаў час, для нас ён быў толькі пачаткам. Мы значна пашырылі чытацкую аўдыторыю дзіцячых часопісаў і на сённяшні дзень выдаём для самых маленькіх — часопіс "Рюкзачишка", для падлеткаў — " Рюкзак", а яшчэ выпускаем і тэматычныя выданні: "Мир путешествий", "Весёлый зоопарк", "Мир компьютеров", на падыходзе яшчэ і спартыўны часопіс. Акрамя гэтага мы яшчэ выдаём і дзіцячыя кніжкі. Нярэдка кажуць, што ўсё новае — гэта добра забытае старое. Ад гэтага і адштурхнуліся. Нашы кніжкі маюць невялікі памер, але карыстаюцца надзвычай вялікім попытам, як калісьці з серыі "Мая першая кніжка". Мы ж сваю серыю назвалі "Новая дзіцячая кніга", і ўсе выданні з яе вельмі запатрабаваныя.




**— Наталля Генадзьеўна, вось вы сказалі, што "Рюкзачок" у вас выдаецца з электронным дыскам, а калі ў цэлым гаварыць пра сучаснае выдавецтва, вядома ж, яно ўжо працуе ва ўмовах развіцця інфармацыйных тэхналогій. Дык раскажыце, калі ласка, больш падрабязна пра гэты ваш вопыт.**

— Выпуск электронных кніг і самых розных дапаможнікаў — гэта асобны кірунак у працы нашага выдавецтва. І не толькі "Рюкзачок" дапоўнены электроннымі дыскамі, але і часопіс "Пачатковая школа" таксама. У іх настаўнікі знаходзяць відэаўрокі, сустрэчы з дзіцячымі беларускімі пісьменнікамі і іншымі вядомымі людзьмі краіны, слайд-прэзентацыі па ўсіх прадметах пачатковай школы. А ў электронным дадатку да "Рюкзачка" нашы падпісчыкі могуць пачуць лепшыя сучасныя і класічныя музычныя творы для дзяцей, урокі англійскай мовы, аудыёказкі ў выкананні вядомых беларускіх артыстаў і аўтараў, галасы птушак і жывёл… Самыя значныя нашы выданні "Я — грамадзянін Рэспублікі Беларусь", "Беларусь — краіна тваёй будучыні", "Мой родны горад Мінск" таксама маюць электронныя дадаткі, якія пашыраюць змест кніг, робяць выданне больш прывабным і прыцягальным для моладзі. А ў 2010 годзе па прапанове Міністэрства адукацыі ў нашым выдавецтве выйшаў у свет і электронны сродак навучання да кнігі "Беларусь — наша Радзіма. Падарунак Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі першакласніку".

**— І апошняе пытанне, Наталля Генадзьеўна. Вы столькі гадоў звязаны з выдавецкай справай, якая, практычна, стала вашым жыццём, вашым лёсам. Вось і пра кніжкі, створаныя ў суаўтарстве з Навумам Гальпяровічам, расказалі… А ці не з'яўлялася ў вас задума, вялікае жаданне напісаць кнігу ўласнай душы? Пра што яна была б?**

— Думаю, пра Беларусь… Кожны чалавек па-свойму бачыць і любіць сваю зямлю, свой край, і ў кожнага ў душы свае фарбы, праз якія ён бачыць непаўторнасць гэтага краю. Калі я аднойчы вярталася з далёкага падарожжа самалётам дамоў і з вышыні пабачыла, што вось яна, нарэшце, Беларусь, штосьці так моцна ўскалыхнулася ў сэрцы, да слёз, да дрыжыкаў… Пачуцці, якія тады захліснулі, цяжка перадаць словамі. І ўсё ж мне хацелася б гэта зрабіць, напісаць для дзяцей пра Беларусь, якая жыве ў маім сэрцы, як у свой час напісаў Уладзімір Караткевіч "Зямлю пад белымі крыламі" ці, скажам, Янка Сіпакоў — "Зялёны лісток на планеце Зямля"…

Вячаслаў РАГОЙША

# Пераклічка геніяў

**Пачнём з парадоксу. У лютым 1937 г. да 100-годдзя з дня гібелі Аляксандра Пушкіна Янка Купала выказаўся невялікім допісам "Любімы паэт". Шчырая любоў да вялікага рускага паэта ўвасобілася не толькі ў змесце гэтага выказвання, але навat у яго форме, што нагадвае паэтычны твор — версэт. Гэтае "прызнанне ў любові" адразу ж — 10 лютага 1937 года — растыражавалася не толькі ў беларускамоўнай рэспубліканскай "Звяздзе", але і ў рускамоўных газетах "Рабочий" і "Советская Белоруссия" (у апошняй яно друкавалася пад назвай "Певец свободы").**

Але дзе ж парадокс?

Справа ў тым, што дзевяццю гадамі раней, 21 верасня 1928 года, у лісце да свайго ленінградскага біёграфа Льва Клейнбарта, згадваючы маладосць і адказваючы на пытанне пра літаратурныя ўплывы на ўласную творчасць, беларускі пясняр сказаў пра Пушкіна нешта зусім іншае: *"Какой автор тогда произвёл на меня большее впечатление — трудно сказать. Но в общем помню хорошо, что книга, где говорилось о тяжкой доле бедного люда, всегда меня захватывала. Из этого, конечно, следует, что такие авторы, как Кондратович, Конопницкая, Ожешко (польские) и Некрасов, Кольцов (русские), меня больше всего интересовали. Впоследствии я увлекался Лермонтовым, Надсоном, Пушкиным (не особенно). То место, где он где-то вспоминает о "черни", мне очень не нравилось, оскорбляло. Разумеется, это выражение я поверхностно тогда понимал. Из польских авторов на меня большое впечатление производили Выспянский, Словацкий, Мицкевич, отчасти Крашевский своими историческими романами".* Далей паэт дадае: *"Из русских должен отметить М. Горького, который произвел на меня сильное впечатление. "Бывшие люди", "На дне" и "Дети солнца" больше всего меня захватили. Потом отдал дань времени и увлёкся, что называется, символистами — Андреевым, Сологубом и др., из польских — Пшибышевским. Из иностранной литературы: Байрон, Шекспир, Шиллер, Сервантес ("Дон Кихот"), Гауптман, Гамсун ("У врат царства") и (автор выскочил из памяти) — сочинения его "Бранд", "Строитель Сольнес", "Женщина с моря" и др.".*

Як бачым, з усіх пералічаных пісьменнікаў лаўраў Пушкіну дасталося найменш. Хоць і называе яго Янка Купала сярод тых, чыімі творамі "*увлекался*", але з удакладненнем: "*не особенно*"…

Калі пясняр быў шчырым, у першым ці ў другім выпадку? Думаецца, у абодвух. Як паэт, Янка Купала, гадаванец "шарачковай шляхты", цвёрда стаяў на баку бедных і абяздоленых, "паноў сахі і касы". Ён быў голасам сацыяльнага асяроддзя "прыніжаных і абражаных", якія жадалі спачатку толькі аднаго — "людзьмі звацца". Многія раннія творы Янкі Купалы напісаныя то "пад Кальцова", то "пад Някрасава" з катэгарычным сцвярджэннем апошняга: "Поэтом можешь ты не быть, но гражданином быть обязан!" Несумненна, такія пушкінскія вершы, як "Деревня" з яе пафасам выкрыцця "барства дикого без чувства, без закона", не маглі не імпанаваць беларускаму паэту. Не перабольшваў Якуб Колас, калі сцвярджаў, што "Янка Купала наследаваў высокія пушкінскія традыцыі ў лепшых сваіх творах: ён пачынаў тварыць у эпоху, якая паводле жудаснага прыгнёту рэакцыі адрознівалася ад пушкінскай бадай толькі тым, што пасля імені "Мікалай" стаяла не адна, а дзве палачкі, нібы сімвалізуючы ўзмацненне палачнага рэжыму. У дарэвалюцыйнай сваёй творчасці Купала наследаваў у Пушкіна тую вялікую любоў да радзімы, якая па сутнасці азначала барацьбу з самаўладствам і прыгонніцкім ладам". Тым не менш — купалаўскае "не особенно"…

Аднак па меры таго, як ішло паэтычнае і светапогляднае сталенне беларускага паэта (а ішло яно надзвычай хутка), ён усё больш і больш захапляўся Пушкіным. Само сабой, да Пушкіна патрэбна было "дарастаць". Хаця б для таго, каб засвоіць класічную пушкінскую паэтыку, той жа чатырохстопны ямб, як, увогуле, і ўсю рускую сілаба-тоніку, больш арганічную для паэтычнага слыху беларуса, чым польская сілабіка. Да Пушкіна неабходна было дацягвацца. Узнасіцца, быццам на неба.

"Узнясенне" да Пушкіна працягвалася ў Янкі Купалы, па сутнасці, столькі ж, колькі доўжылася актыўнае творчае жыццё і самога генія рускай паэзіі — дзесьці каля дваццаці гадоў. Майстар не толькі інтымнай, пейзажнай, філасофскай, але і грамадзянскай, сатырычнай лірыкі, аўтар рамантычных паэм ("Курган", "Бандароўна", "Магіла льва", "Яна і я"), арыгінальны драматург ("Паўлінка", "Раскіданае гняздо", "Тутэйшыя"), палкі публіцыст, крытык, перакладчык, Янка Купала быў найперш "заражаны" пушкінскай ідэяй служэння самому мастацтву, айчыннай і ўсечалавечай культуры. Часам свядома арыентуючыся на рускага пабраціма, а часцей за ўсё ідучы тымі ж шляхамі, якімі і да яго па прасторах рускай культуры крочыў аўтар "Цыган" і "Медного всадника", Янка Купала ў беларускай літаратуры выконваў, па сутнасці, тую ж ролю, што і Пушкін у рускай. Ён паступова станавіўся выразнікам дум і настрояў не аднаго сацыяльнага слоя, а ўсяго беларускага народа, больш за тое — чалавека наогул, для якога паняцці гуманнасці і свабоды — не пустыя словы. Валодаючы агромністым літаратурным талентам, ён ствараў (разам з Якубам Коласам, М. Багдановічам, М. Гарэцкім і інш.) эстэтычную сістэму сучаснага беларускага прыгожага пісьменства, літаратурнай мовы. Як шырокавядомы і аўтарытэтны пісьменнік з яскрава выяўленай грамадзянскай пазіцыяй, ён актыўна займаўся нацыятворчасцю, дзяржаватворчасцю. Чаго, уласна, ад Пушкіна не патрабавалася — яго Расія здаўна была адной з вядучых дзяржаў свету. І тут Янка Купала знаходзіў апору не ў рускіх паэтаў, а ў песняроў суседніх, паняволеных расійскім царызмам народаў — ва ўкраінца Тараса Шаўчэнкі, у палякаў Адама Міцкевіча, Марыі Канапніцкай, Элізы Ажэшкі…

У канцы жыццёвага шляху ў вершы "Я памятник себе воздвиг нерукотворный…" (1836) А. Пушкін так выразіў асноўны пафас сваёй творчасці:

*И долго буду*
*тем любезен я народу,*
*Что чувства добрые*
*я лирой пробуждал,*
*Что в мой жестокий век*
*восславил я свободу*
*И милость*
*к падшим призывал.*

У гэтых словах — асноўнае творчае крэда Пушкіна, у якім арганічна з'ядналіся яго ідэалы — маральна-этычны ("чувства добрые я лирой пробуждал") і сацыяльна-палітычны ("в мой жестокий век восславил я свободу"). Толькі генію пад сілу эстэтычна аб'яднаць у сваёй творчасці адно і другое, не дапускаючы перакосу ў той ці іншы бок.

У 1926 годзе, падводзячы вынік сваёй дваццацігадовай літаратурнай дзейнасці, Янка Купала ў вершы "За ўсё" пісаў:

*Я адплаціў народу,*
*Чым моц мая магла:*
*Зваў з путаў на свабоду,*
*Зваў з цемры да святла.*

> *"Аднак па меры таго, як ішло паэтычнае і светапогляднае сталенне Янкі Купалы (а ішло яно надзвычай хутка), ён усё больш і больш захапляўся Пушкіным. Само сабой, да Пушкіна патрэбна было "дарастаць". Хаця б для таго, каб засвоіць класічную пушкінскую паэтыку, той жа чатырохстопны ямб, як, увогуле, і ўсю рускую сілаба-тоніку, больш арганічную для паэтычнага слыху беларуса, чым польская сілабіка.*

Няўжо не чуцён у гэтых словах водгалас боскай пушкінскай ліры? І не ў сэнсе пераймання, паўтарэння, эпігонства, а — узнясення да Пушкіна на вышыні дабра, гуманізму, свабоды…

Саракачатырохгадовы Янка Купала, як некалі трыццацішасцігадовы Аляксандр Пушкін, шчыра спавядаўся за зробленае дзеля роднага народа і любімай Айчыны. Прычым, яны, прарокі, месіі, ведалі сабе цану. Адзін "памятник себе воздвиг нерукотворный", які "вознёсся выше… главою непокорной Александрийского столпа". Другі безапеляцыйна заяўляў: "Цяпер беларускай я песні ўладар".

Аднак, на жаль, у гэтым свеце ўладараць не толькі, нават не столькі паэтычныя геніі з іх ідэаламі. Ад непакорных, непадатлівых пазбаўляюцца. Адным махам — як ад Пушкіна ў лютым 1837 года. Ці паступова — як ад Янкі Купалы: спачатку ў 1930 годзе, давёўшы паэта да спробы самагубства, і канчаткова — у 1942 годзе…

Але паміж гэтымі датамі была яшчэ адна падзея, ужо згаданая намі. Гэта грандыёзнае па маштабах ушанаванне Пушкіна ў 1937-м, самым крывавым годзе сталінскіх рэпрэсій. Атмасфера была жудасная. Галоўнае: і слова ў сваю абарону, у абарону іншых сказаць было нельга. А трэба было. І вось з'явіўся зручны момант.

Авалодаўшы моваю палітычнага інакшамоўлення яшчэ ў дарэвалюцыйны час, Янка Купала выкарыстаў яе і ў трагічныя для савецкага народа 30-я гады мінулага стагоддзя, а менавіта — у сотую гадавіну з дня пушкінскай смерці. Па-першае, маючы непасрэдны доступ да размеркавання твораў Пушкіна для перакладу на беларускую мову (а тады перакладаліся практычна ўсе лепшыя творы рускага пісьменніка), Янка Купала пакінуў за сабою — і, безумоўна, невыпадкова — знакамітую "пецярбургскую аповесць" "Медный всадник". За "грозным царём", "державцем полумира", "горделивым истуканом" выразна праглядваўся васпаваты твар самога Сталіна, чыёй "волей роковой" і здзяйсняліся ў той час розныя нядобрыя справы. У пушкінскай паэме, як помнім, "горделивый истукан" растоптвае лёс асобнага "маленькага" чалавека, пачынаючы ад ягонага спакою, кахання, шчасця, розуму і заканчваючы яго фізічным існаваннем. Тое ж рабілі з сучаснікамі Янкі Купалы. Нельга не згадзіцца з думкай літаратуразнаўца Цімафея Ліакумовіча: "Переводя пушкинскую поэму в душной атмосфере сталинских преследований, Купала не мог не думать о трагических судьбах современников, не лелеять потаённой мысли о восстановлении исторической справедливости и попранных человеческих прав".

У тым жа 1937 годзе, калі на старонках "Полымя рэвалюцыі" (№ 6), а пазней і асобным выданнем выйшаў "Медны коннік" у перакладзе Янкі Купалы, з'явіўся і згаданы юбілейны водгук песняра пра Пушкіна "Любімы паэт". За што ж урэшце палюбіў беларускі пясняр аўтара "Медного всадника"? *"Люблю я Пушкіна за яго прыгожы, чароўны верш. Люблю за яго багацце думак, за сюжэтнасць, за зразумеласць яго мовы для ўсіх — ад малога да вялікага"*. Затым — згадка пра пашыраную ў дарэвалюцыйнай Беларусі безыменную, але Пушкіну прыналежную, песню "Гляжу я, безумный, на черную шаль, и хладную душу терзает печаль…" (заўважым, што яе яшчэ ў 1912 г. Янка Купала ўклаў у вусны Адольфа Быкоўскага ў некалькі перайначаным выглядзе; у Пушкіна было: "Гляжу, как безумный, на черную шаль, и хладную душу терзает печаль"). І вось пасля такіх агульных трохчатырох фраз — сапраўднае "ўзнясенне" Янкі Купалы да Пушкіна, які ў "жестокий век" "восславил свободу". "Дозволенными цензурою" словамі пра Пушкіна прамаўляў у савецкай імперыі пра неабходнасць свабоды і Янка Купала:

*"Люблю я Пушкіна за яго гордасць, за свядомасць чалавечай дастойнасці, Пушкіна, акружанага прыдворнай камарыллай. Ён смела бічаваў вершамі і эпіграмамі ўладальнікаў таго часу. Ён не баяўся цароў і генералаў. Ён пісаў супроць імператара і яго прыслужнікаў, і пісаў шчыра-бунтарскі, не баючыся за сваё жыццё.*

*Люблю я Пушкіна за тое, што ў дэспатычным жандарскім акружэнні ён, адзінокі, быў страшным для царскіх сатрапаў. Імператар быў бяссільны са сваёй ахранай, прыдворнай гвардыяй і казематамі перад Пушкіным — паэтам. Вальнадумства Пушкіна было не толькі ў вершах і эпіграмах. Яго вальнадумства ішло ў нагу з дзекабрыстамі. Імператар, які загнаў на вечную катаргу — у Сібір лепшых барацьбітоў за свабоду — дзекабрыстаў, не пасмеў кранунць безабароннага паэта. У цара хапіла храбрасці толькі спадцішка забіць вялікага песняра".*

Ці не адчуваецца ў гэтых выказваннях выразная пераклічка з тагачаснай савецкай рэальнасцю? Адчуваецца, і яшчэ як. І не толькі намі, сённяшнімі, але адчувалася і жыхарам ужо далёкіх 30-х гг. XX ст., спакушаным у эзопавай мове дарэвалюцыйных і савецкіх літаратараў.

І ў канцы гэтага купалаўскага выказвання — не як падагульненне, а як "асучасненне", своеасаблівае "ажыўленне" Пушкіна, з'яўляецца фраза, якая ўсё ставіць на сваё месца: *"Я люблю Пушкіна за тое, што ён у дні вялікай сталінскай эпохі паўстаў як жывы барацьбіт за свабоду, за шчасце чалавецтва… Мне хацелася б так пісаць, як пісаў любімы мною А. С. Пушкін"*.

"Жывы барацьбіт за свабоду, за шчасце чалавецтва…" Несумненна, усё, сказанае Янкам Купалам, лёгка экстрапаліравалася на тагачасную савецкую рэчаіснасць, на "дні вялікай сталінскай эпохі". У тым ліку словы, што самому Янку Купалу "хацелася б" (ды, як усе разумелі, нельга было!) пісаць так, як пісаў яго любімы Пушкін, калі "бічаваў вершамі і эпіграмамі" уладароў таго часу, "цароў і генералаў", прычым "не баючыся за сваё жыццё"… Усё-такі эпоха Сталіна, у якой існаваў Янка Купала, была больш жорсткай, чым эпоха Мікалая I, у якую жыў Аляксандр Пушкін.

Цяжка сказаць, ці дайшлі Купалавы словы да тых, хто сядзеў у цямніцах унутранай турмы НКВД, у гэтак званай "амерыканцы" (афіцыйныя газеты ім часам давалі чытаць). Але, несумненна, Купалава праслаўленне — з дапамогай Пушкіна — такіх чалавечых якасцей, як свабодалюбства, гордасць, нязломнасць, пачуццё чалавечай годнасці, дзеля якіх можна было пайсці і на смерць, былі адэкватна ўспрынятыя 10 лютага 1937 г. чытачамі "Звязды", "Советской Белоруссии", "Рабочего". Гаворачы пра Пушкіна, Янка Купала выказваў і свае запаветныя думкі, якія іншым чынам у тагачасным падцэнзурным друку выказаць было нельга. Ён, як і раней, "зваў з путаў на свабоду, зваў з цемры да святла…"

# У звычайным убачыць незвычайнае

**У свой час пры сустрэчах вядомы беларускі пісьменнік і журналіст, цяпер ужо нябожчык, Яраслаў Пархута вучыў мяне: “Каб напісаць добры твор, асабліва гумарыстычны, трэба ў звычайным убачыць незвычайнае, асэнсаваць яго і... напісаць”. Успамінаю гэтыя словы часта. Успомніў і цяпер, чытаючы кнігу Ірыны Тулупавай “Шчасце на парозе тваім” (Мінск, “Літаратура і Мастацтва”, 2011). Таму што аўтару ўласцівы менавіта такі падыход да творчасці. І становіцца дзіўна, што сам не заўважыў у жыцці і сярод людзей таго, на што звярнула ўвагу пісьменніца.**

Міхась КАВАЛЁЎ




У кнізе змешчана адзінаццаць апавяданняў і невялікая аповесць. Тэмы твораў розныя. Як пісаў польскі даследчык літаратуры Ян Парандоўскі, у любога іншага мастацтва сфера тэм абмежаваная, адна толькі літаратура не ведае межаў. Яе тэмай можа стацца што заўгодна. Ірыну Тулупаву цікавіць найперш сам чалавек. І адной з тэм пісьменніца абірае даследаванне чалавечага эгаізму. Дэманструючы, як герой апавядання дзеля сваёй карысці ганьбіць самыя лепшыя пачуцці іншых і нават само паняцце дабрыні, яна разам з тым паказвае, што сярод людзей па-ранейшаму жывуць спагада, узаемадапамога, шчырасць.

Ёсць у кнізе і творы пра каханне, чалавечае шчасце, поспехі і няўдачы, адказнасць перад грамадствам і асобным чалавекам, перад сучаснікамі і будучым. Не пакідае без увагі пісьменніца такія праявы характару, як ганарлівасць, зайздрасць, імкненне прынізіць слабейшага. Тут дарэчы словы Аляксандра Пушкіна пра тое, што для пісьменніка апісваць слабасці, памылкі і недахопы чалавечыя зусім не амаральна, таму што анатомія не ёсць забойства... Ірына Тулупава па-майстэрску паказвае чалавека такім, якім ён ёсць на самай справе.

Расповед вядзецца ад імя жанчыны — нашай сучасніцы, разумнай і адукаванай, якая працуе ў розных установах, сутыкаецца не толькі з рабочымі праблемамі, але і з чалавечымі недахопамі, бо мае стасункі з рознымі людзьмі, у кожнага з якіх свае характар, жаданні, памкненні, уяўленні пра дабро і зло. І варта адзначыць, што яркай прыкметай творчасці Ірыны Тулупавай з’яўляецца “паказ жыцця ў непадзельнай еднасці станоўчага і адмоўнага, прыгожага і пачварнага, уменне арганічна спалучыць акрэслены малюнак колеру з багатай разнастайнасцю яго адценняў і паўтонаў” (Васіль Жураўлёў).

Заўважна, што аўтар — гараджанка не толькі па месцы пражывання, але і па паходжанні. Мова і стыль твораў вылучаюць яе з шэрагу іншых жанчын-пісьменніц. Тым не менш у апавяданні “Аля-вядзьмарка” і аповесці “Антось — пан Даманкевіч” выдатна перададзеныя светапогляд, учынкі вясковых жанчын, узаемаадносіны вяскоўцаў. Што характэрна: да сучаснасці дадаецца гістарычная, фальклорная абмалёўка, а гэта дазваляе чытачу перанесціся з нашых дзён у даўніну.

У гераінях твораў часта ўгадваецца сама пісьменніца. Відаць, яна многіх герояў сваіх будучых твораў сустракала ў жыцці, вывучала іх, як кажуць, у натуры. Таму і цікавыя, яркія, запамінальныя яны атрымаліся.

Як заўважае Уладзімір Гніламёдаў, звяртаючыся да пісьменнікаў, не трэба баяцца самавыяўлення, эстэтычныя законы літаратуры вас абароняць. Што б вы ні напісалі, яно будзе пакрыта флёрам мастацкага вымыслу, пісьменніцкай распрацоўкі. Ніхто не мае права катэгарычна сцвярджаць, што гэта — сам аўтар. Не, перад намі герой, мастацкі вобраз...

Усе творы, змешчаныя ў кнізе, чытаецца з захапленнем і цікавасцю: а што там будзе далей? І часта цяжка здагадацца, чым закончыцца тая ці іншая гісторыя. Большасць апавяданняў успрымаецца як лірычныя навелы. Так і хочацца сказаць: аўтар — жанчына, галоўныя гераіні — жанчыны, дык што гэта — жаночая проза? Не, жаночая лірыка ў прозе! І, прачытаўшы, адчуваеш у сэрцы і душы вялікую асалоду, радасць, быццам сам акунаешся ў вірлівае маладое жыццё...

Як піша ў прадмове да кнігі Генрых Далідовіч, “...знаёмцеся з кнігай прозы Ірыны Тулупавай, дзе гучыць яркі жаночы голас пра месца, радасці і турботы жанчын у нашы дні. Зрэшты, і мы, мужчыны, таксама не абыдзены ўвагай, і за тое-сёе нам, як кажуць, перападае... За што? Пачытайце!”

# «Дзе радасць вершамі разліта»




**Радкі, вынесеныя ў загаловак, — са зборніка вершаў і прозы Уладзіміра Мазго “Сакавіны”, які выйшаў у выдавецтве “Чатыры чвэрці”. Яны вельмі добра дапасуюцца да зместу ўсёй кнігі, бо агульны тон яе — светлы, радасны. Радасць — адно з ключавых слоў у ёй і галоўная эмацыянальная акраса зместу. Паэт радуецца праявам жыцця, убачанаму ў падарожжах, сустрэчах, ён занатоўвае свае ўражанні ад вандровак, святкаванняў, вечарын і кожны раз заўважае нешта добрае і светлае.**

Міхась КЕНЬКА

А яшчэ яго вершы музычныя. Нездарма Уладзімір Мазго даўно сябруе з кампазітарамі, яны ўжо не адзін ягоны верш паклалі на музыку, зрабілі песнямі.

У зборніку нямала афарыстычных выказванняў, радкоў, якія так і хочацца запомніць:

*Спяшаемся жыць,*
*мы спяшаемся жыць,*
*Баімся,*
*што час міма нас*
*прабяжыць…*

Або вось гэтае:

*Я памяць паклікаў —*
*І кажа былое:*
*Радзімы вялікай*
*Няма без малое.*

Сустракаюцца і вершы-афарызмы, у якіх згушчана выказаная думка пра нешта вынашанае, запаветнае:

*Нішто не заменіць*
*Мора,*
*Нішто не заменіць*
*Горы…*
*Але ж і гэтыя дзівы*
*Нам не заменяць*
*Радзімы.*

Тэма вяртання ў родныя мясціны, тугі па вясковым дзяцінстве, якога не вярнуць, увесь час прысутнічае ў кнізе. Яна паступова падводзіць паэта да роздуму пра сэнс жыцця, пра пражытыя гады, пра незваротнае. Уладзімір Мазго ў гэтым зборніку — паэт, што ўступіў у пару творчай сталасці, пару роздуму, новага спасціжэння раней знаёмага, ён зноўку прыглядаецца да таго, што ўжо не раз бачыў, але неабыякавы і да таго, што адкрывае ўпершыню. Яго радуе экзотыка, ён прыкмячае нешта цікавае, нязвыклае ў Вактэбелі, Новым Афоне, Рызе, але болей вабяць яго гарады і вёскі Беларусі, ім ён прысвячае асабліва пранікнёныя радкі. Ды найбольш пяшчотна згадвае пра сваю Зэльвеншчыну, дзе нарадзіўся і рос. Ёй прысвечаны не толькі многія вершы, але і празаічныя радкі, сярод якіх вылучаецца адмысловы краязнаўчы нарыс “Мой зялёны гарадок”, дзе У. Мазго захоплена апавядае пра горад, яго ваколіцы, людзей, якія праславілі край. Настолькі захоплена, што час ад часу ўплятае ў празаічныя радкі вершаваныя. Мініяцюры пад агульнай назвай “Водблісі” — добры дадатак да таго, што выказана паэтам у вершах, нават не дадатак, а асаблівы спосаб самараскрыцця, выяўлення пачуццяў, штрыхі да аўтабіяграфіі. Нататка “Спачатку было слова”, якая завяршае зборнік, — гэта светлы ўспамін пра пісьменніка Уладзіміра Юрэвіча, даніна ўдзячнасці яму за падтрымку, сяброўства.

Чым для мяне важная, чым запамінаецца паэзія, дык гэта нечым такім, што кладзецца на душу, што хвалюе як перажытае, добра знаёмае. У зборніку У. Мазго запомнілася вось што:

*У доме за ракой*
*Лагода і спакой.*
*У доме за ракой —*
*Падушка пад шчакой.*
*У доме за ракой*
*Няўлежна ад надзей.*
*У доме за ракой*
*Свіятае новы дзень.*
*У доме за ракой*
*Я піў святло зары...*
*...У доме за ракой*
*Цяпер жывуць вятры.*

У вершах Уладзіміра Мазго не кідаецца ў вочы нязвычная метафарычнасць, ускладненасць, яны кранаюць пачуццём, але ўсё ж не мінаеш увагай і добрыя знаходкі ў вобразнасці, як вось у гэтых радках:

*Гады набягаюць,*
*як хвалі,*
*Што згадкі глыбока схавалі.*
*А ты,*
*нібы ветразь на хвалях,*
*Трапечаш у выстылых далях,*
*Табе дараваных вятрамі,*
*Дзе думкі святлеюць,*
*што ў храме.*

Дзеля справядлівасці хочацца адзначыць, што ў зборніку сустракаюцца асобныя вершы, дзе дэкларатыўнасць пераважае над пачуццём, адчуваецца нейкая павярхоўнасць. Але яны не псуюць агульнага добрага ўражання. Уладзімір Мазго адказна ставіцца да свайго паэтычнага таленту і, трэба спадзявацца, будзе і надалей сяліць яго.

# Сто галасоў аднаго зборніка

**Тры дзесяцігоддзі Пётр Макарэвіч захапляецца перакладамі на беларускую мову твораў класікаў і знакамітых сучасных паэтаў Расіі. Пераклады увайшлі ў яго паэтычныя зборнікі “Злітак” і “Расінкі беларускіх слоў”. Штуршок гэтаму захапленню даў літаратурны зборнік “Братэрства” за 1982 год, абвясціўшы конкурс на лепшы пераклад на беларускую мову верша Ф. Цютчава “Вясновая навальніца”. П. Макарэвіч рызыкнуў паўдзельнічаць, і атрымалася так, што яго першы ў жыцці пераклад трапіў у лік пераможцаў.**

Уладзімір ВАСЬКО

П. Макарэвічу тым больш удаюцца пераклады, што ён сам паэт (дэбютаваў у 1974 годзе ў часопісе “Нёман”), добра адчувае слова, значэнне ў вершах вобразаў, ход думак аўтараў, глыбіню твораў. Акрамя таго, начытанасці і эрудыцыі П. Макарэвіча можна толькі пазайздросціць. Усё яго жыццё звязана з кнігай. І прафесію ён выбраў адпаведную: скончыў Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя М. Горкага па спецыяльнасці бібліятэкар-бібліёграф вышэйшай кваліфікацыі.

П. Макарэвіч — прыхільнік класічнага стылю, цэніць простыя, зразумелыя і ў той жа час глыбакадумныя вершы. Менавіта такія творы ён выбірае для сваіх перакладаў, у якіх імкнецца максімальна адэкватна перадаць аўтарскую вобразнасць і арыгінальную думку.

Звычайна П. Макарэвіч перакладае з рускай мовы на беларускую, аднак летась паспрабаваў зрабіць наадварот. Атрымалася цэлая кніга “Птушка свабоды” — анталогія аднаго верша ста беларускіх паэтаў XX і пачатку XXI стагоддзя. У цэлым пераклады зроблены на досыць высокім узроўні.

Магчыма, не ўсе ведаюць маладых аўтараў, якіх перакладчык уключыў у сваю анталогію, але класікаў, творы якіх мы вывучалі ў школе і помнім на памяць, пазнаюць адразу, як, напрыклад, верш П. Броўкі “Пахне чабор”:

*Вечеру этому*
*век не забыться...*
*...Солнце за лесом*
*жар-птицей*
*садится,*
*Песнь напевает*
*тихую бор,*
*Пахнет чабор,*
*Пахнет чабор...*

Усё лепшае працытаваць немагчыма, але цяжка ўстрымацца, каб пакінуць без увагі радкі М. Стральцова:

*Вот здесь,*
*подальше от столицы,*
*Вблизи от истин*
*вековых,*
*Живу, как изгнанный*
*патриций,*
*Грибник просторов*
*боровых.*

Перакладаць з адной мовы на другую, асабліва блізкую, родную, — справа складаная. Цэлы год забрала ў П. Макарэвіча гэтая праца. Пры гэтым перакладчык выбіраў лепшае з лепшага, што знаходзіў у беларускай паэзіі. П. Макарэвіч не збянтэжыўся перад аўтарытэтамі сваіх папярэднікаў — выдатных перакладчыкаў, а ўступіў у творчае спаборніцтва з імі. І ў многіх выпадках вельмі паспяхова.



Васіль Макарэвіч

# У вянок народнага песняра

## 1. Размова з Янкам Купалам

*Гарачае лета.*
*Задуха з задух.*
*Салоўка каленца ў скверыку выкіне.*
*Пад засенню гнуткіх бяроз-папрадух*
*Давайце прысядзем,*
*Іван Дамінікавіч!*

*Наткалі паэм*
*Столькі Вы для вякоў,*
*Што можам душою на іх мы аперціся.*
*Ды рыфмаў на тонкія пальцы радкоў*
*Адзелі Вы безліч, як з жэмчугам*
*Персценяў.*

*І ў сённяшніх творцаў*
*Строф — быццам карчоў,*
*Ды ледзьве не ўсе яны з астмай калішняю.*
*А рыфма! Для модных прайдох-лаўкачоў,*
*Магчыма, яна нават болей*
*Чым лішняя.*

*І сорам душу*
*Ім ні троху не грыз,*
*Калі, далікатную, з песняй тутэйшаю,*
*Яе выраблялі прымушалі стрыптыз,*
*Хацелі зрабіць паслухмянаю*
*Гейшаю.*

## 2. Музей

*Зірнеш — музей*
*Не толькі ён музей!*
*А можа стаць і зорным планетарыем.*
*З-за свету людзі йдуць, бы ў Калізей,*
*Шкрабуць асфальта цёмную*
*Пралаліну.*

*Не трэба ім*
*Прамоў ні эскапад,*
*А хоць бы і да зор прызыўна клікалі.*
*Тут нават дробны, з зерне, экспанат —*
*Жыцця паэта сведка*
*І рэліквія.*

*Крыху цішэй,*
*Наш найшаноўны гід,*
*Пра лёс Купалы і шляхі расстайныя!*
*Ці ж не відаць, што даты спрэс і быт*
*На стэлажах раскладзены*
*Й расстаўлены.*

*Прыкметаў часу*
*Больш тут, чым стае —*
*І нават пахне броварам ды гутаю.*
*А вунь блішчыць і пёрка на стале,*
*У лапцік рыфмы спеўнае*
*Абутае.*

*З далёкіх дзён,*
*Як гарбунок-канёк, —*
*Разьбой абвіты з славай незабытаю,*
*Прыткнуўся ў кут здарожаны кіёк,*
*З пятой аб вёрсты зрэзанай*
*І збітаю.*

*А ўзблісне сонца*
*Сярод хмар слязой*
*Ды пільна ў шыбу гляне, уладарнае, —*
*Відаць, дазнацца хоча — дзе лязо? —*
*Што каля сэрца песняра*
*Ударыла.*
*Ды пра яго —*
*Ні слова тут, маўчок!*
*Нашто і пратаколы, сведкі рэдкія?!*
*А ў скверы воддаль рупны павучок*
*Тчэ павуціну круглаю*
*Берэткаю.*

*І сярод дрэў,*
*Што ў ранішняй смузе*
*Уверх ідуць дзе мачтаю, дзе віламі,*
*Плыве-ўсплывае, як з вякоў, музей,*
*Падобны так да замкаў*
*Радзівілавых!*

## 3. Дзверы

*Каму з дзецюкоў*
*Гневам двух кулакоў*
*Грымець у аглухлыя дзверы не собіла?!*
*А гэтыя дзверы*
*ў прастольнай з крукоў*
*Звінцілі мы ўмомант,*
*Як дзверы асобыя.*

*Не з тое прычыны,*
*Што бляск яны льюць*
*Не гэтак, як недзе у Оршы ці Хойніках.*
*І ў рай прапускалі пад назваю "Люкс",*
*Дзе можна было і ўтапіцца*
*Ў пуховіках.*

*За вокнамі пах*
*Чэрвень чадны цадзіў.*
*А з музай Купала, як з веснаю вішняю,*
*Пад локаць праз гэтыя дзверы хадзіў,*
*Наперад пускаючы кульбу*
*Увішную.*

*Ніколі не знаў*
*Гэткіх дзіўных дзвярэй,*
*Калі на душы нават надта пагодзіла.*
*Бо дактыль альбо пяцістопны харэй*
*Яны для яго галасіста*
*Выводзілі.*

*Танула Масква*
*Ў сціртах шэрай імглы,*
*А дзверы гасцініцы самай прэстыжнае*
*Купалавы сон, як маглі, сцераглі,*
*І кактус яршысты, па модзе*
*Падстрыжаны.*

*І покуль не ўсчаўся*
*Скрозь вэрхал ды гром,*
*Не чуліся дызеля*
*выстралы-выхлапы, —*
*Музей, апярэдзіўшы рэзрух-пагром,*
*Ахвярныя дзверы, як з полымя,*
*Выхапіў.*

*Яны без разьбы.*
*Толькі кожнаму з нас*
*Зірнуць на іх нават*
*і зводдаль не церпіцца.*
*Хоць знаем, што дзверы сабой — не абраз,*
*На іх мы гатовы маліцца,*
*Бы ў цэркаўцы.*

## 4. Ляўкі

*Хоць прадракалі Салаўкі,*
*З дратой мярэжкамі і зонаю,*
*А шлях правёў яго ў Ляўкі,*
*На дачу з заваддзю азонавай.*

*І без ніякіх закавык*
*Яму, з пяром і музай спеўнаю,*
*Урад адшчодрыў легкавік*
*І вазака, з канторы пэўнае.*



*Вязынка. Хата, дзе нарадзіўся паэт.*
Фота Кастуся Дробава

*Ля ганка — водар саснякоў,*
*За тынам —*
*луг з расою скошаны.*
*А сам абкладзен ён з бакоў*
*Увагай пільнай і раскошаю.*

*Цень ноччу гнецца у дугу,*
*Глядзіць у шыбы патарочаю, —*
*Ва ўлад ці станецца ў даўгу*
*Купала з музаю прарочаю?*

*Ды ў тым, што ўмела ён снуе,*
*Дзе фарбы густа перамешвае, —*
*Ледзь-ледзь назаўтра пазнае*
*Сябе бунтоўнага, ранейшага.*

*Няўжо і зух, сярдзіты гром,*
*Бурчыць у небе аж пад купалам,*
*Бы муза ценькая з пяром*
*Самою ведзьмаю падкуплены?*

*І крытык — хіба не кур'ёз? —*
*З акадэмічнай хваткай боўдзіла,*
*Раўняць сабраўся і ўсур'ёз*
*Ляўкі і пушкінскае Болдзіна.*

*Купала лёгкі, быццам лунь,*
*Што дрэмле ноччу на заваліне,*
*Так грымне кульбай у валун —*
*Той ледзь надвое не разваліцца.*

*А вечарам у хвайнякоў,*
*На ўскрайку старыцы і моклішча,*
*Пазычыць харчу — смалякоў —*
*І разгавеецца на вогнішча.*

*Касцёр аб цемры антрацыт*
*Шчакою трэцца непаголенай.*
*А ён глядзіць — агонь трымціць*
*Ці муза б'ецца у агоніі?*

## 5. Мядзёлка

*А варта ёй было*
*Вудоўі ўзняць павек*
*І полымем вачэй шугнуць, нібы ў парыльні,*
*Як высмагнуць маглі не меней сотні рэк*
*І выкіпець крыніц паўтысячы*
*Ля Вільні.*

*І сотня дзецюкоў*
*За гожай — талакой,*
*Ды сотня, як адзін, за вечар надакучыць.*
*Ёй надта ўжо карціць, гарэзе вось такой,*
*Паэта падражніць ды і пры ўсіх*
*Памучыць.*

*Наядаю плыве*
*З усіх марскіх наяд,*
*Увішная сама, як звонкая прыпеўка.*
*А ў бездані вачэй спакусы слодыч-яд,*
*Ратунак ад бяды і напаўнеба*
*Пелька.*

*Здавалася, што міг*
*І — з голасам грудным*
*Зарыецца ў яго абдымкі, бы ў вугалле.*
*Ды крутанецца ўміг, нібыта лёгкі дым,*
*І чуецца ўжо смех наводдаль,*
*Завуголлем.*

*Са словам-птушанём*
*Што хочаш мог зрабіць,*
*Ды апасля трывог і нейкіх там варункаў,*
*Хоць прагнуў, а не мог і не ўмеў заліць*
*Рот Ніягарай ёй пякельных*
*Пацалункаў.*

*Ды спешна у купэ,*
*Бы ў распісным вазку,*
*Перш выдраўшы яго, як корч, з былое Вільні,*
*Выгнанне праз дажджы панесла у Маскву,*
*Каб падалей ён быў ад фронту*
*Лесапільні.*

*Такая крутаверць.*
*Напэўна, без любві*
*Жаніўся найхутчэй там з бухты ды барахты.*
*Нявеста — хто не знаў?*
*— французскае крыві,*
*І з гонарам — каго?*
*— ды засцянкоўскай шляхты.*

*Стараўся ён забыць,*
*Ды па начах праз сон*
*Гукаў і зваў яе, Мядзёлку, быццам чайку.*
*Як білася над ім з распушчанай касой*
*Ад рэўнасці нямой яна,*
*Станкевічанка!*

*Хто ведае,*
*Хацеў таго ці не хацеў,*
*Ды ноччу летняй той, пахмураю і волкай,*
*Калі з паверха ўніз, між лесвіц, ён ляцеў,*
*То выдыхнуў імя пяшчотнае*
*Мядзёлкі.*



Віктар Шніп

# Ад сэрца да сэрца…

**1**

ад рук матуліных і ад калыскі
у ліпені пачалася дарога Паэта
ад сэрца да сэрца
ад Беларусі і да Беларусі
па свеце белым
па цвеце белым
па снезе белым
дзе чорнага заўсёды хапала
як чорнай зямлі
як чорнага дыму
як чорных груганоў
і чырвонай крыві
у свеце белым
у цвеце белым
у снезе белым
і ў Беларусі

**2**

у Вязынцы хата Янкі Купалы
як беларускі каўчэг
які плыве па траве як па вечнасці
асвятляючы шлях да Беларусі

**3**

збіраюць пчолы мёд
як тутэйшае золата
якое і ў вершах Янкі Купалы
заўсёды было і будзе
як Беларусь

**4**

у Вязынцы Купалле
і плывуць па рацэ вяночкі
як нізкі вершаў
якія не паспеў запісаць Янка Купала

**5**

у Вязынцы хуткасныя цягнікі
не спыняліся і не спыняюцца
але ўсе беларускія дарогі
вядуць у Вязынку
як у нашу Мекку
і я іду да Янкі Купалы па сцежцы
што ў траве не знікла
і гэтая сцежка
ніколі не знікне як вечнасць
дзе нас чакае Янка Купала
як наш Прарок

**6**

на лузе копы сена
як шаломы тутэйшых вояў
якіх нідзе не бачна
але яны ёсць і яны заўсёды гатовыя
бараніць родную зямлю
як заклікаў Янка Купала

**7**

у купалаўскім садзе
светла ад яблыкаў
якія створаны сонцам
і беларускай зямлёю
у купалаўскім садзе
светла ад вершаў
што створаны Янкам Купалам
душой і крывёю

**8**

купалаўскія ліпы
і купалаўскія творы
трымаюць неба над Вязынкай
і над Беларуссю

# «Цяжкі крыж, але вельмі пачэсны…»

**У выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшаў першы том Збору твораў Уладзіміра Караткевіча ў 25 тамах. Напісаў прадмову "Рыцар сумлення і свабоды" і артыкул "Радавод Уладзіміра Караткевіча", падрыхтаваў тэксты і каментарыі аўтар гэтых радкоў (ён жа кіраўнік усяго выдання). Рэдактар тома — Вячаслаў Рагойша. Тыраж выдання — 2000 экзэмпляраў. Працэс падрыхтоўкі Збору твораў Уладзіміра Караткевіча каардынуе філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.**

**Анатоль ВЕРАБЕЙ**

Гэты том адкрыў першае найбольш поўнае навукова каменціраванае выданне творчай спадчыны Уладзіміра Караткевіча. У папярэдняе выданне (Збор твораў у 8 т., 1987 — 1991) уключана пераважная большасць мастацкіх твораў пісьменніка, значная частка літаратурна-крытычных і публіцыстычных артыкулаў. Вопыт падрыхтоўкі згаданага выдання, а таксама зборніка перакладаў Уладзіміра Караткевіча "Галасы маіх сяброў" (1993), кнігі "Творы" (1996), куды было ўключана тое, што не друкавалася пры жыцці пісьменніка, кнігі яго малюнкаў "Свет вачыма Караткевіча" (2006), кнігі "Уладзімір Караткевіч: вядомы і невядомы" (2010), яго эпісталярнай спадчыны і дзённікаў будзе творча пераасэнсаваны і выкарыстаны ў новым Зборы твораў з улікам дасягненняў сучаснага літаратуразнаўства, тэарэтычнай і эдыцыйнай практыкі апошніх гадоў.

У выніку нанова праведзенай навуковай працы, збору і вывучэння разнастайнага матэрыялу, франтальнай зверкі ўсіх вядомых на гэты час рукапісных і друкаваных крыніц дваццаціпяцітомны Збор твораў будзе значна папоўнены творамі, што засталіся неапублікаваныя ці друкаваліся ў




асобных і перыядычных выданнях. Асабліва павялічыцца корпус выдання за кошт тэле- і радыёвыступленняў, перакладаў, эпісталярыя, сцэнарыяў дакументальных і мастацкіх фільмаў, лібрэта, малюнкаў, дзённікаў, дарчых надпісаў, варыянтаў і розначытанняў, разгорнутага і змястоўнага каментарыя.

Так, у першы том Збору твораў Уладзіміра Караткевіча, што ўжо пабачыў свет, увайшлі вершы са зборнікаў "Матчына душа" (1958) і "Вячэрнія ветразі" (1960). Асобны раздзел склалі творы 1950-х гадоў і 1960 года, якія не ўвайшлі ў кнігі паэзіі, яны друкаваліся ў перыядычных выданнях ці былі выяўлены ў архівах і падаюцца ў храналагічным парадку. У гэты раздзел уключаны паэтычныя творы на беларускай і рускай мовах. Некаторыя з іх (вершы "І зашумяць асіны над ракою…", "Энтузіясту", "Калумбы зямлі незнаёмай", "Калі ў жамчужніцу пылінка трапіць…", верш у прозе "Слова Міцкевічу", паэмы "Зямля дзядоў", "Родина" і інш.) пры жыцці пісьменніка не друкаваліся. Некаторыя друкуюцца ўпершыню: на беларускай мове — вершы "Каханне маё чарнавокае…", "Ода Радзіме", паэма "Ліста нямае" і іншыя, на рускай мове — верш у прозе "Каштаны", вершы "Патриоты", "Сны", "Баллада о чудном мгновении" і іншыя. Адзначым, што аб'ём гэтага раздзела на 90 старонак большы за два раздзелы, якія склалі зборнікі "Матчына душа" і "Вячэрнія ветразі".

> *"Адметнасць гэтага выдання ў тым, што да яго прыкладаюцца два кампакт-дыскі: на першым змешчаны вершы і песні ў выкананні Уладзіміра Караткевіча, на другім — яго выступленні на радыё і тэлебачанні, у Саюзе пісьменнікаў Беларусі, здымкі ў мастацкім фільме "Жыцце і ўзнясенне Юрася Братчыка ("Хрыстос прызямліўся ў Гародні").*

У раздзеле "Іншыя рэдакцыі і варыянты" змешчаны тэксты ранейшых рукапісных варыянтаў вершаў "Орша" і "Матчына душа", пададзены адрозненні паміж варыянтамі вершаў "Заяц варыць піва", "Паўлюк Багрым", "Балада пра паўстанца Ваўкалаку", "Машэка", "У дняпроўскіх хвалях, бы ў калысцы…", "Буслы вучаць дзяцей", "Дзіва на Нерлі", "Трызненне мужыцкага Брэйгеля", паэмы "Слова пра чалавечнасць" і іншыя.

Пры ўстанаўленні аўтэнтычнага тэксту і напісанні каментарыяў выкарыстаны галоўным чынам рукапісныя, машынапісныя і друкаваныя матэрыялы, якія захоўваюцца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі, Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва, Цэнтральным маскоўскім архіве-музеі асабістых збораў (ф. 113).

У канцы тома пададзены ўмовы прыватнай падпіскі на наступны, другі том.

За асноўны тэкст прыняты пераважна прыжыццёвыя выданні твораў Уладзіміра Караткевіча. Неапублікаваныя пры жыцці аўтара творы друкуюцца па рукапісах.

Што да наступных тамоў Збору твораў, то пры падрыхтоўцы выдання будуць удакладнены даты напісання і крыніцы першай публікацыі твораў, выпраўлены недакладнасці, значна пашыраны гісторыка-тэксталагічны і рэальны каментарый. У разгорнутай прадмове да выдання і пасляслоўях да адпаведных тамоў будзе дадзена характарыстыка творчасці Уладзіміра Караткевіча, раскрыта ідэйна-тэматычная і жанрава-стылёвая разнастайнасць яго твораў, вызначана месца пісьменніка ў беларускай і сусветнай літаратуры.

## *У падтрымку чытання*



**Лідар этнатрыа «Троіца» Іван Кірчук:**

## Музыка і вершы рамантыкаў

— Даўно, яшчэ да службы ў войску, я вывучыў на памяць шмат санетаў Уільяма Шэкспіра, яны мне былі даспадобы. Тады ж я спрабаваў пісаць музыку на вершы Вольфганга Гётэ, Джорджа Байрана, Фрыдрыха Шылера.

Пазней, калі пачаў займацца фальклорам, то літаратура, што праходзіла праз мае рукі і маю свядомасць, была якраз гэтага кірунку — зборнікі замоў, песень, абрадаў, свят. Тут магу адзначыць усе выданні серыі "Беларуская народная творчасць".

Пра мастацкую літаратуру цяпер мне складана расказваць, але ў мамы вялікая бібліятэка, і ў той час, калі яна збіралася, чыталася ўсё: кнігі пра індзейцаў, піратаў, творы Майн Рыда. Цяпер цікаўлюся рознымі выданнямі, у тым ліку і кнігамі па медыцыне.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

***Фота з інтэрнэт-сайта diafragma.by***

## *Прэзентацыя*

**Васіль СНУСЦІК**

# Адкрыццё Вілейскай старонкі

**Макарэвіч, С. Край мой верасовы: краязнаўчыя эсэ, эпісталярый / Сяргей Макарэвіч. — Мінск: Кнігазбор, 2012. — 136 с.**

"Край мой верасовы, дзе радзіўся я, // Сёння прабудзіўся песняй салаўя, // Ты са мной у сэрцы, любая мая — // Родная бацькоўская зямля", — гэтыя радкі завяршаюць песню Івана Лашуткі "Край мой верасовы", якая і дала назву кнізе дасведчанага краязнаўцы Сяргея Макарэвіча. Абсягі выдання патлумачвае выдавецкая анатацыя: "У кнізе распавядаецца пра жыццёвыя шляхі творчых асобаў з роднай для аўтара Вілейшчыны. Краязнаўчыя эсэ прадстаўляюць партрэты нашых сучаснікаў і людзей з мінулага: пісьменнікаў, мастакоў, краязнаўцаў… Уздымы і падзенні, спраўджаныя і не да канца спраўджаныя спадзяванні, якія на іх ускладаліся. Яны розныя, але ім усім пашчасціла нарадзіцца ці працаваць у краі верасоў".




Кніга напісана журналістам. Пра гэта сведчыць і арсенал жанраў, якія выкарыстоўвае С. Макарэвіч у сваім зборніку: інтэрв'ю, карэспандэнцыя, нарыс. І ўсё ж выданне носіць манаграфічны характар. Аўтар здолеў напоўніцу раскрыць тэму літаратурна-мастацкай гісторыі Вілейшчыны. Можна смела адзначыць, што ў гэтым клопаце Сяргей Макарэвіч пайшоў шмат далей за сваіх папярэднікаў. І цяпер, калі б рабілася новае выданне гісторыка-дакументальнай хронікі Вілейскага раёна "Памяць", то без кнігі "Край мой верасовы" ўжо нельга было б абысціся.

З цікавасцю чытаецца артыкул "Вілейка і рэдакцыйныя будні Максіма Танка". Увогуле з гэтым краем класік беларускай літаратуры звязаны яшчэ з сярэдзіны 1920-х: "Восень 1926 года прывяла будучага паэта Максіма Танка, а тады яшчэ маладога Яўгена Скурко, у Вілейку, куды ён паступіў у 3-і клас рускай прыватнай гімназіі…" Падрабязна распавядаючы пра працу М. Танка ў вілейскай газеце, Сяргей Макарэвіч яшчэ і выбудоўвае шэраг тэм, над якімі, магчыма, следам папрацуюць гісторыкі літаратуры, танказнаўцы. Малады даследчык звяртае ўвагу на шэраг дэталяў і акалічнасцей, якія раней проста абыходзіліся ўвагай. Нельга без хвалявання чытаць і другі нарыс, які фактычна прадаўжае танкаўскую тэму, — "Адчуваю сябе лішняй сярод пісьменнікаў…" Ганна Новік". "З першымі вершамі Ганна Аляксееўна выступіла ў 1937 годзе на старонках "Беларускага летапісу" і "Калоссяў". Тады яна завочна пазнаёмілася і з Максімам Танкам, які стаў яе хросным бацькам у літаратуры", — піша Сяргей Макарэвіч, пачынаючы расповед пра пакутлівы лёс заходнебеларускай паэткі. Пакутлівы і таму, што, доўгія гады займаючыся літаратурай, яна так і не змагла рэалізаваць сябе ў творчым, ды і ў жыццёвым плане. Услед за нарысам С. Макарэвіч змяшчае ў кнізе лісты Ганны Новік да Максіма Танка. Эпісталярый напоўнены драматычнымі ўнутранымі перажываннямі, болем, слязьмі, няпростымі ноткамі сумненняў, нават — высокай трагедыйнасцю. "Дарагі таварыш Танк! Прабачце, што турбую Вас, але напала нейкая хандра, панізіўся маральны стан і к таму закралася сумненне адносна ацэнкі першай маёй аповесці, якой Вы, магчыма, яшчэ й не чыталі. А я аб ёй думаю", — піша Ганна Новік 23 лютага 1956 года.

Прыцягваюць увагу і іншыя старонкі краязнаўчага зборніка. Сяргей Макарэвіч кнігай "Край мой верасовы" дазваляе па-новаму ўгледзецца ў творчыя, жыццёвыя біяграфіі Івана Лашуткі, Уладзіміра Папковіча, Анатоля Рогача. Многія імёны ўвогуле становяцца вядомымі якраз дзякуючы Сяргею Макарэвічу.

Не выклікае ніякіх сумненняў і тое, што ў кнігі пра літаратурна-мастацкую памяць Вілейшчыны павінен быць працяг. Таму чакаем наступных краязнаўчых зборнікаў таленавітага вандроўніка па роднай Вілейшчыне і ўсёй Беларусі Сяргея Макарэвіча.

# Боль зламаных крылаў

**“Сёння сімвал свету для мяне — зламаныя крылы”. Так сказаў пра свой час чалавек, які спалучаў талент паэта, мудрасць філосафа, мужнасць салдата і які не раз спазнаў боль “зламаных крылаў”. Гэтыя словы вялікага кубінца Хасэ Марці (1853 — 1895) вобразна характарызуюць не толькі другую палову XIX стагоддзя, а ў пэўным сэнсе і ўсё яго жыццё. Ураджэнец беднай сям’і турэмнага наглядальніка, юны Хасэ ледзь не пайшоў па шляху свайго бацькі, які вельмі жадаў убачыць у сыне свайго пераемніка. На вялікае шчасце для сусветнай культуры, гэтага не здарылася.**

Дзіна БАБРЫЦКАЯ

Амаль чатыры стагоддзі Куба была калоніяй Іспаніі, “выспай цукру і рабоў”. 1868 — 1878 гады — гэта час Дзесяцігадовай вайны кубінскага народа за волю і незалежнасць. Хасэ — з тымі, хто змагаецца; ён піша палітычныя вершы і супрацоўнічае з газетай La Patria Libre (“Вольная Радзіма”). Ужо ў 16 гадоў ён падвяргаецца арышту за свае палітычныя перакананні. Некалькі месяцаў праводзіць у катаржных каменяломнях, затым трапляе на выспу вязняў Пінас, у 1871 годзе іспанскія ўлады высылаюць яго на Пірэнейскі паўвостраў.



Тут, у метраполіі, Хасэ Марці імкнецца як мага больш прадуктыўна выкарыстаць вымушанае адлучэнне ад радзімы. Ужо ў маі 1871 года ён паступае ў Мадрыдскі ўніверсітэт, праз два гады пераязджае ў Сарагосу і ў 1874-м заканчвае адразу два факультэты Сарагоскага ўніверсітэта: юрыдычны і факультэт філасофіі і літаратуры. Яшчэ ў Мадрыдзе выходзіць яго першая публіцыстычная брашура “Палітычны астрог на Кубе” — пра жахлівы стан вязняў. Пасля абвяшчэння Іспанскай рэспублікі ў лютым 1873 года ён піша кнігу “Іспанская рэспубліка і кубінская рэвалюцыя”, дзе заяўляе: “Куба дэкларуе сваю незалежнасць па тым жа самым праве, па якім Іспанія абвяшчае сябе рэспублікай”.

Пасля Дзесяцігадовай вайны, якая так і не вызваліла Кубу ад каланіяльнай залежнасці, Хасэ Марці атрымлівае дазвол на вяртанне на радзіму, тут ён адразу ж уключаецца ў палітычную барацьбу. Палымяныя прамовы ў абарону кубінскага народа робяць яго імя надзвычай папулярным.

Вальтэр пісаў, што чалавек нараджаецца, каб жыць у канвульсіях трывог ці ў летаргіі нудоты. Хасэ Марці ніколі не шукаў спакою. Яго ўвесь час вабілі палітычная барацьба і падрыхтоўка да вырашальнага змагання за нацыянальнае вызваленне, але гэтая жарсць да волі спалучалася ў яго душы з іншай, не менш моцнай стыхіяй, імя якой — паэзія.

Усё сваё жыццё Марці высока цаніў літаратуру Францыі, заставаўся сапраўдным паэтам у сваіх літаратурна-крытычных артыкулах. Віктора Гюго ён прыпадабняў да сонца ў зеніце, асляпляльна яркага, якое прыцягвае зачараваныя погляды ўсіх. Пра братоў Ганкураў пісаў, што іх вылучае “рафінаваная вытанчанасць, водар салона, напоўненага парфумай, таямнічая гульня святлаценю…” Флабэру, “які апранаўся як маўр і чаканіў слова, як гот”, на яго погляд, уласціва чароўная грунтоўнасць.

Не дзіўна, што сам Марці знаходзіўся пад вялікім уплывам французскіх пісьменнікаў, асабліва сімвалістаў і парнасцаў. Менавіта ад іх у яго творчасць прыходзіць вобразнасць: ён імкнуўся перанесці ў літаратуру прыёмы жывапісу і музыкі. Неабходнасць выкарыстання гэтых прыёмаў Марці па-свойму абгрунтаваў у адным з вершаў у прозе: “У мове ёсць нешта пластычнае, слова мае свой цялесны вiдарыс, свае законы прыгажосці, сваю перспектыву, свае святло і свае цені, сваю скульптурную форму і свае фарбы. Усё гэта магчыма спасцігнуць толькі тады, калі ўглядаешся ў словы, паварочваеш іх у той ці іншы бок, узважваеш іх, мілуеш іх, шліфуеш іх. У кожным вялікім пісьменніку жыве вялікі жывапісец, вялікі скульптар і вялікі музыка”.

Менавіта такім пісьменнікам быў і сам Марці, хоць вандроўнае жыццё палітэмігранта і актыўны ўдзел у барацьбе за незалежнасць Кубы пакідалі няшмат часу для творчасці. Пры яго жыцці ўбачылі свет толькі чатыры паэтычныя зборнікі: “Ісмаэліллё”, “Вольныя вершы”, “Кветкі выгнання” і “Простыя вершы”.

На жаль, асабістае жыццё паэта не склалася ды і наўрад ці магло скласціся. Яго душа была аддадзена перш за ўсё цудоўнаму востраву Куба. Вядомы верш Марці “Радзіма і жанчына” стаў своеасаблівай споведдзю яго як паэта і патрыёта, чалавека і рэвалюцыянера. Калі гаворка заходзіла пра Кубу, ён заўсёды быў непахісны: “няма такога гора, прыніжэння, нягоды, нахабства, якіх бы я не вытрымаў дзеля Радзімы”.

Марці цікавы і значны не толькі ў паэзіі, але і ў прозе, і ў літаратурнай крытыцы, і на ніве гістарычных даследаванняў. Ён валодаў неверагоднай працаздольнасцю і творчым запалам. І калі б не лёс выгнанніка, цяжар побыту і неабходнасць зарабляць на жыццё то ў якасці карэспандэнта шэрагу лацінаамерыканскіх газет, то на пасадзе консула Уругвая, Парагвая і Аргенціны ў ЗША, ён бы змог стварыць значна больш цудоўных і яркіх работ.

У пачатку 1880-х гадоў Хасэ Марці разам з Антоніа Масэа і Максімэ Гомесам становіцца на чале нацыянальна-вызваленчага руху. У гэты час “вярхушка” кубінскага грамадства, якая валодала значнымі капіталамі і баялася радыкальнай сацыяльнай перабудовы, імкнулася не да незалежнасці, а толькі да аўтаноміі, у межах якой яна спадзявалася ажыццяўляць рэформы эканамічнага і палітычнага характару. Марці, крытыкуючы аўтанамістаў, заявіў: “Чалавек, які кліча ў бой, значна даражэйшы за чалавека, які ўсяго толькі ўгаворвае; правы не выклянчваюцца, а бяруцца, іх не выпрошваюць, а вырываюць”.

Такая бескампрамісная рэвалюцыйнасць прыводзіць Марці да чарговага выгнання ў Іспанію. Але цяпер Хасэ затрымліваецца тут зусім ненадоўга. І ў хуткім часе пачынаюцца яго шматгадовыя вандроўкі па краінах Цэнтральнай Амерыкі і Карыбскага басейна. Ён збірае сродкі і гуртуе кубінцаў, якія там жывуць, распрацоўвае планы ўзброенага паўстання на Кубе.

У 1880-я Марці падоўгу жыве ў ЗША. Дзякуючы свайму дапытліваму розуму, ён не можа не заўважыць, як афіцыйны Вашынгтон імкнецца падпарадкаваць свайму ўплыву лацінаамерыканскія дзяржавы і прыбраць да рук Кубу. Захопніцкія намеры вялікага паўночнага суседа прымушаюць Марці задумацца над пытаннем: ці змогуць аб’яднацца ў жыццёва неабходны саюз народы Амерыкі? Ідэі пра салідарнасць і агульнасць мовы, веравызнання, культуры і гісторыі становяцца галоўным аргументам на карысць стварэння гэтага саюза, які Хасэ Марці называе “Наша Амерыка”.

Хасэ Марці стаў арганізатарам і галоўным ідэолагам другой вайны за незалежнасць кубінскага народа (1895 — 1898), пачатак якой паклалі патрыёты 24 лютага 1895 г. у правінцыі Ар’ентэ. Сучаснікі называлі яго найбольш радыкальным рэвалюцыянерам свайго часу, які імкнуўся перш за ўсё да таго, каб незалежная дзяржава Куба “забяспечыла б сваім сынам шчаслівае жыццё на працягу многіх гадоў”, як казаў сам Хасэ Марці. Дзеля гэтага ён змагаўся, дзеля гэтага гатовы быў памерці.

Для непасрэднага ўдзелу ў паўстанні Хасэ Марці прыбыў на Кубу разам з Максімэ Гомесам 11 красавіка 1895 г. з Дамініканскай рэспублікі. Пачалася зусім новая паласа яго жыцця ў паўстанцкіх атрадах, калі “ўся маёмасць за поясам”, калі пад галаву падкладваецца “небяспека замест падушкі”, калі “ўпасці пераможаным у вялікім баі — гэта ўжо перамога”.

Неяк, звяртаючыся да сваёй Музы, Марці пісаў:

Калі ёсць вышэйшы суд,
то толькі з табою
Я паўстану перад гэтым судом:
Альбо нас асудзяць абаіх,
Альбо мы ўратуемся ўдвох.

Хасэ Марці па-геройску загінуў у самым першым сваім баі 19 мая 1895 года.

Хасэ МАРЦІ

## Дзяўчына з Гуантанама

Я чалавек шчыры,
Я адтуль, дзе растуць пальмы.
І перш, чым памерці, хачу
У вершах душу раскрыць маю.

Паненка з Гуантанама,
Дзяўчына-сялянка з Гуантанама.
Паненка з Гуантанама,
Дзяўчына-сялянка з Гуантанама.

Мой верш — светла-зялёнага колеру
З адценнем чырвані палымнеючай,
Мой верш — як паранены алень,
Што шукае прытулку ў гарах.

Я вырошчваю белую ружу
Як у ліпені, так і ў студзені,
Для сябра вернага,
Што працягне мне
сваю надзейную руку.

Я вырошчваю яе
і для чалавека злога,
Які сэрца маё вырваць гатовы.
Я вырошчваю
не дзядоўнік і не крапіву,
Я вырошчваю белую ружу.

З абяздоленымі і бяспраўнымі
Хачу лёс мой падзяліць.
Бруенне горнага раўчука
Мне мілей за шум мора.

Паненка з Гуантанама,
Дзяўчына-сялянка
з Гуантанама,
Паненка з Гуантанама,
Дзяўчына-сялянка
з Гуантанама.

# 4.33, альбо Не праспі эпоху

Эміль ЯНАЎ




Што ёсць паэзія? Ці можна ў наш час адкрыць штонебудзь новае ў ёй? Можна. І адкрываюць — таленавіта і нязвыкла. Узяць, да прыкладу, маладога, але даволі ўжо вядомага паэта Адама Шостака і ягоную кніжку “4.33”, што пабачыла свет сёлета ў выдавецтве ”Харвест” (серыя “Маладая паэзія Беларусі”). Гэта другая яго кніга. Першая “Спатканне Не” — выйшла 6 гадоў таму.

4.33, як напісана ва ўступным слове, “знакаміты твор амерыканскага авангарднага кампазітара і піяніста Джона Кейджа, падчас якога піяніст выходзіць на сцэну, сядае за раяль, сядзіць бязгучна 4 хвіліны і 33 секунды, устае, без словаў кланяецца і сыходзіць са сцэны”. Такія паводзіны можна запісаць і на рахунак самога аўтара. Калі б паэт выйшаў на сцэну, прастаяў бы колькі хвілін — 1, 2 ці 3.17 — гэта цалкам адпавядала б ягонаму ўнутранаму настрою. Бо Адам — не толькі паэт, а яшчэ і адзін з заснавальнікаў суполкі перформераў “Яна-тры-ён”. Таму не дзіўна, што ён абраў для зборніка менавіта такую назву.

Кніга адкрываецца нізкай “Твае сляды” па назве аднаго з вершаў. Гэты раздзел прысвечаны нараджэнню вялікага і складанага пачуцця, якое звычайна называюць каханнем. У Адама Шостака яно вельмі патаемнае, прыхаванае, не напаказ, не бурапеннае і шалёнажарснае, бо такое даволі часта бывае катастрафічна-знішчальным, а вельмі ўстойлівае і моцнае, уяўляе тонкую і адначасова з тым вельмі трывалую нітку пяшчоты і ўзаемапавагі, прапушчаную праз іголку высокай інтэлігентнасці. Аўтар паказвае чалавека, які прабіраецца да ложка, дзе спіць каханне, на дыбачках, каб, крый Божа, не пабудзіць яго, і гатовы гадзінамі стаяць і замілавана глядзець на ягоны казачны сон.

*Я цалую твае сляды,*
*бы адбіткі тваіх падарожжаў*

Вельмі лёгка, нязмушана, але ж разам з тым радкі пульсуюць і адбіваюцца ў памяці, трымаюць чытача ў напружанні. Гэта кленчанне перад каханай. Жанчынай. Маці.

Вялікі сэнс аўтар надае такім філасофскім паняткам, як час і прастора. Але ж час тут выступае абстрактным дапаможнікам, як у кнізе Эклезіяста, час раскідаць камяні і час збіраць камяні. Лірычны герой існуе нібыта па-за часам, па-за мітуснёй, выглядае сузіральнікам таго, што адбываецца навокал. Разам з паэтам у ягонай прасторы знаходзяцца розныя людзі, якія таксама апынаюцца па-за вар’яцкім рытмам жыцця, да прыкладу, саксафаніст у пераходзе метро:

*проста снег*
*вырывае ссіпелыя гукі*
*з яго саксафону*

Час, нібыта застылая гліна, сфармаваная і апрацаваная нябачным майстрам — так выглядаюць эпізоды з жыцця аўтара і жыцця стагоддзя:

*радзіма*
*бы страчанае дзяцінства*
*мой фіялетава-аранжавы аўтобус*
*фіялак і дзьмухаўцоў*

Таго стагоддзя, дзе краіна, якой няма цяпер. Але ж яна захавалася ў памяці аўтара і з’яўляецца неад’емнай часткай прасторы галоўнага героя. Я б назваў гэта рэжысурай эпохі.

*мне прыснілася*
*што на слупах*
*мой фотаробат*
*і жыццё ўсё*
*ў негатывах*
*жыццё цэлай эпохі*
*а я на экране*
*я ў эфіры*

У гэтым вершы, што мае назву “Фільмы Дзігі Вертава”, паэт яшчэ і яшчэ раз даводзіць, што ён нібы карэспандэнт, які вядзе рэпартаж з не зусім далёкага мінулага. А галоўны верш, які даў назву кнізе, увогуле пераносіць нас у пачатак XX стагоддзя, дзе аўтар вачыма Джона Кейджа ўглядаецца ў твары гледачоў і дае нам магчымасць таксама паназіраць за эпохай, якая прабегла так хутка, нібыта доўжылася ўсяго 4 хвіліны 33 секунды.

# «Темнота впереди, подожди!»

Юзефа ВОЛК

28 июня 1970 г. Владимир Высоцкий заполнял анкету по задумке артиста театра им. Вахтангова Анатолия Меньшикова. На вопрос "Чего ты хочешь добиться в жизни?" он ответил коротко: "Чтобы помнили". И добился-таки своего. Темнота забытья, настигающая человека после смерти, послушалась и подождала. Доказательство тому — личные ассоциации (а они есть у каждого) при упоминании имени Владимира Высоцкого.




…Песня "Чуть помедленнее, кони!" льётся из колонок папиного магнитофона "Астра", который прокручивает кассеты на бабинах; на уроке русской литературы рассказываю стихотворение "Я не люблю", выученное наизусть; днём ранее зачитываюсь стихами из сборника "Чёрное золото"; слышу знакомые строки "Спасите наши души! / Мы бредим от удушья. / Спасите наши души! / Спешите к нам!" в машине Юрася Панкевича, руководителя группы средневековой музыки Testamentum Terrae… И вот теперь — читаю новые книги, изданные при участии ООО "Харвест".

Да, Высоцкого помнят. Смотрят его фильмы, слушают песни, изучают актёрскую игру, читают стихи, прозу. Он был разноплановой личностью и в поэтическом творчестве, хотя, скорее, не поэтическом, а песенном. Не зря же сам Владимир Семёнович писал: "У меня гитара есть — расступитесь, стены" и жанр своих произведений определял как песни. А песни Высоцкого очень и очень разные. Порой даже сложно узнать, что их автор — один человек. И только знакомый с детства "голос за кадром", звучащий в каждом стихотворении-песне, не даёт запутаться в собственных ощущениях.

Если бы речь шла об отдельно изданной книге стихов, где все песни тщательно подобраны, то всё было бы гораздо проще. Но издание **"Владимир Высоцкий. Все произведения"** сложнее идентифицировать с точки зрения характеристики личности поэта, понимания: какой он. Поэтому проще воспринимать каждое стихотворение по отдельности. И запоминать, цитировать.

Здесь есть философская критика мира, социального устройства:

*А мы живём*
*в мертвящей пустоте, —*
*Попробуй надави —*
*так брызнет гноем, —*
*И страх мертвящий*
*заглушаем воем —*
*И те, что первые,*
*и люди, что в хвосте.*

И попытки понять себя как творца:

*Я весь в свету,*
*доступен всем глазам, —*
*Я приступил*
*к привычной процедуре:*
*Я к микрофону встал*
*как к образам…*
*Нет-нет, сегодня точно*
*— к амбразуре.*

И боль от утраты любимого человека:

*Мне каждый вечер*
*зажигают свечи,*
*И образ твой окуривает дым, —*
*И не хочу я знать,*
*что время лечит,*
*Что всё проходит*
*вместе с ним.*

И обращение к теме войны:

*Почему всё не так?*
*Вроде — всё как всегда:*
*То же небо — опять голубое,*
*Тот же лес, тот же воздух*
*и та же вода…*
*Только — он не вернулся*
*из боя.*

Здесь есть и шуточные стихи "Про любовь в каменном веке", в Древнем Риме; "Про любовь в Средние века", в эпоху Возрождения; есть и антисказка "Лукоморья больше нет", и произведения для детей, и проза, и драматургия, и песни для дископектакля "Алиса в Стране чудес"… Не зря же сам автор заметил: "Сказал себе я: брось писать, — / Но руки сами просятся".




Несомненно, внимания заслуживает и проза Высоцкого, в частности, роман **"Чёрная свеча"**, написанный Владимиром Семёновичем в соавторстве с Леонидом Мончинским. Он также вошёл в собрание всех произведений автора и вышел отдельной книгой. Вот как Л. Мончинский описывает процесс работы над романом: "Совместно работали урывками. Иногда — неделю, иногда — ночь. Многое согласовывали по телефону. Поэт, конечно, он был замечательный, огромный поэт, в прозе слегка тороплив".

О чём книга? Однажды Высоцкий приехал в Иркутск и познакомился с работой артели старателей (рабочих на золотых приисках) "Лена". Интерес поэта привлёк тот факт, что большинство старателей — бывшие зэки, отбывавшие наказание на Колыме. "Воскресение личности произвело на Высоцкого сильное впечатление, — отмечает Леонид Мончинский. — Правда, он настаивал на сценарии, по которому мечтал поставить фильм в США и сыграть главную роль. Мне удалось его уговорить: вначале будет роман".




Высоцкого не стало, когда первая часть романа — "Побег" — была практически готова. Сама книга вышла только через несколько лет…

Через семь лет после смерти поэта увидела свет ещё одна книга прозы, но уже на французском языке. Её автор — супруга Высоцкого, известная французская актриса русского происхождения **Марина Влади** (наст. Екатерина Марина Владимировна Полякова-Байдарова). "До тебя невозможно дотронуться — бьёт электричеством," — пишет она о муже в воспоминаниях **"Владимир, или Прерванный полёт"**. Удивительно, но обращение на "ты" к уже мёртвому Высоцкому, которое соблюдается на протяжении всей книги и звучит практически в каждом предложении, совсем не смущает читателя. Совсем наоборот, оно придаёт повествованию черты интимности, искренности и доверительности.

"Ты работаешь день и ночь. Утром ты уезжаешь в театр на репетицию, днём ты снимаешься или у тебя концерт, вечером ты играешь спектакль, ночью ты пишешь стихи. Ты спишь самое большее четыре часа, но, кажется, тебя не утомляет этот адский ритм, жизнь так и кипит в тебе".

В книге есть и безмерное счастье от жизни с любимым человеком, и разрывы, и примирения, бесконечные телефонные разговоры между Парижем и разными уголками России, и путешествия в Беларусь, Францию, США, и дружеские посиделки в разных компаниях.

"Любая рассказанная тобой история становится комическим номером. Сначала я тоже смеюсь, прошу рассказать снова. Я люблю, когда ты рассказываешь, искоса поглядывая на меня, изображаешь разных людей, с которыми где только не знакомился. Я люблю, когда ты словно светишься от радости".

Безусловно, сразу же после выхода книга полюбилась читателям, как поклонникам Высоцкого со стажем, так и тем, кто только начал знакомство с его творчеством. Полюбила публика и одноимённый моноспектакль Марины Влади, премьера которого состоялась в 2009 году в Москве.

# Всё в одном, или Проницательный человечек…

Екатерина БЕДУЛИНА

Когда-то давно жил один забавный и очень интересный человек, который стремился всю жизнь узнать, кто же он, собственно, такой. Родители ничего ему не говорили и не объясняли ему. А друзья вечно над ним "прикалывались". Не понимали его странных выходок. "А что же он там такое делает?" А он строго отвечал: "Не понимаешь, так и молчи…" Хотите знать, о ком это и кто этот "забавный человек", которому на протяжении всей жизни давали разные характеристики? Всё это вы можете узнать из книги **Артура Конан Дойла "Все приключения Шерлока Холмса в одном томе"**, которая вышла при поддержке ООО "Харвест".



Строгая, но видная обложка, чёткий шрифт, хорошая бумага… Дневниковые очерки и воспоминания автора… Здесь и юмор, и ужасы, и верность, и любовь, и преданность, и характер... И главы автор назвал интересно: тоже со скрытым смыслом. В общем, всё о том, как воспитывать силу воли и характер.

Так кто же он всё-таки такой? Словно магнитом тянет узнать тайну… Несмотря на то, что книга имеет очень большой объём и напоминает "Войну и мир" Льва Толстого. Множество страниц… Множество глав… Хотите узнать, сколько? А вы попытайтесь сами сыграть в сыщика.

Холмс — великий спорщик и очень любит всем показывать то, чего люди не видят и не хотят видеть… Но делает это аккуратно, словно бы зная заранее об опасности. Не сдаётся никогда и, несмотря на жесткие условия, он готов работать до конца. Он предан своему делу, поскольку понимает, что если не узнает тайну, то вновь всё пойдёт по бесконечной спирали.

Те, кто его окружает, иногда просто не выдерживают… Он всё думает, думает. Вечный философ. То краток, как Гёте, то чуток, как алхимик, то предельно осторожен. И так иногда хочется его пожалеть… Но Холмс-то умный, он и сам поймёт, что делать, ведь он у нас проворный, ловкий и такой "каскадёр", что все просто поражаются… Как же у него так получается?

И почему же его подставляли, предавали, почему у него совсем не было друзей? Даже случайные знакомые вскоре отворачивались. А он всегда мудро отвечал: "Ай, и ладно. Не понимают — и всё".

В книге — лучшие воспоминания, записки и наблюдения автора, она будто "энциклопедия преступлений".

Но в то же время — забавно, ведь читаешь, читаешь… На одном дыхании… И бережно перелистываешь страничку за страничкой. Помня наставления Холмса: "Будь предельно осторожным и аккуратным. Не заляпай…"

А потом… Хоп! А вот оно что!!! Приходит прозрение! И ты понимаешь: не зануда он был, этот Холмс, просто очень проницательный человечек.

## Мастак і кніга

# 49 цудаў



**Серыя “Сем цудаў Беларусі”, аўтарам якой з'яўляецца Анатоль Бутэвіч, уключае сем кніг: “У гасцях у вечнасці” (2001), “Званы Нямігі” (2002), “За наміткай гісторыі” (2003), “Адвечны покліч Радзімы” (2004), “Славутыя родам сваім” (2006), “Перуновага племені дзеці” (2008), разам з Уладзімірам Ягоўдзікам “На далонях вечнасці” (2010). Увасобіць рукатворныя і прыродныя цуды Беларусі, людзей, імёны якіх — гонар нашай гісторыі, удалося мастаку Паўлу Татарнікаву, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь за 2010 год, двойчы адзначанаму вышэйшай узнагародай Браціслаўскай біенале кніжнага мастацтва “Залаты яблык”.**

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА



*Павел Татарнікаў “Возера Нарач”.*

**— Дзесяць гадоў цягнулася праца над серыяй. Якімі запомніліся вам гэтыя гады?**

— З вялікім задавальненнем працаваў над гэтым праектам. Прыкладна раз у год з'яўлялася новая літаратурная форма, трэба было падумаць не спяшаючыся і аздобіць новую кніжку. Можа, з пункту гледжання маркетолагаў, лепей было б, каб усе кніжкі серыі адразу з'явіліся на прылаўку, але насамрэч творчым людзям цяжка “пячы піражкі”: тут ставіліся сур'ёзныя творчыя задачы, таму патрабаваўся доўгі час. Я працаваў з задавальненнем. Ведаў: штогод будзе 7 эсэ, апавяданняў. Было цікава, а што ж на гэты раз выбраў Анатоль Іванавіч у якасці сямі цудаў: якія асобы, знаныя для нашай гісторыі, чый лёс звязаны з пераломнымі перыядамі з жыцця нашага народа, знакамітыя з'явы ці аб'екты (Каложская царква, Полацкі сафійскі сабор, Мірскі замак, Маламажэйкаўская царква-крэпасць і г.д.), што абуджаюць у душы пачуццё гонару за Беларусь, стануць героямі маіх малюнкаў. Насамрэч, цудаў у серыі сорак дзевяць: сем кніг, у кожнай кнізе па сем эсэ.

Шчаслівы, што лёс так склаўся і я быў далучаны да гэтага праекта. Адзначу, што з Анатолем Бутэвічам працаваць было лёгка. Ён глыбока адукаваны і вельмі далікатны чалавек.

**— Ці было нешта, што стала для вас адкрыццём?**

— Безумоўна.

**— На старонках серыі ёсць і ўзоры старажытных тэкстаў, і чарцяжы. Скажыце, калі ласка, наколькі дакладныя на вашых малюнках чарцяжы лодкі Казіміра Чарноўскага?**

—У любога ілюстратара ёсць свой мастацкі метад і выяўленчыя сродкі — праца з кнігай патрабуе пэўнага адбору, а ў дадзеным выпадку — літаратуры, якая мае дачыненне да гісторыі. Мастаку абавязкова трэба ўліцца ў адзіную з тэкстам структуру, пабудаваць вобраз, які немагчыма перадаць толькі словамі. Безумоўна, мастак-ілюстратар, звязаны з гістарычнай літаратурай, павінен падкрэсліць, знайсці некаторыя рэчы, якія немагчыма перадаць з дапамогай тэксту. Візуалізацыя гістарычнага вобраза дазваляе мастаку знайсці шмат дэталяў, непатрэбных для тэксту падрабязнасцей, стварыць прыгожую кнігу.

Словамі можна расказаць, што наш славуты зямляк распрацаваў чарцёж падводнай лодкі, але як ён выглядаў, трэба даведацца. Падчас працы ў мяне быў арыгінал чарцяжа Чарноўскага. На малюнку — дастаткова дакладны яго адбітак. Немагчыма, ды і няма сэнсу, вытрымліваць поўную дакладнасць.

**— А тэкст кітаба і іншых старажытных помнікаў?**

— Гэта таксама не дакумент, а мастацкі твор. Сёння ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі можна знайсці любыя старажытныя тэксты — і Каран, і кітаб, можна скапіраваць любы тэкст, а раней, тое, што я бачыў, — маленькія фотаздымкі з гістарычных кніжак.

**— У серыі перад вамі сталі розныя задачы. Напрыклад, стварыць выявы язычніцкіх багоў. Ці паўплывалі на вас, да прыкладу, вобразы, створаныя Валерыем Славуком?**

— Адна справа знайсці чарцёж ці са словаў Анатоля Іванавіча даведацца, як выглядалі Ярыла ці Вялес. Іншае — прыдумаць іх. Паўтарыць тое, як робіць Валерый Пятровіч, немагчыма. У сваёй сістэме вобразаў шукаеш нешта сваё. Заўсёды ёсць асацыяцыі. Чалавек жыве ў свеце архетыпаў, якія закладваюцца ў падкорку галаўнога мозгу, відаць, яшчэ да нараджэння. Таму нейкія рэчы для нас абсалютна дакладныя. Напрыклад, чуем слова “дах” — і ўяўляем двухскатную страху. Цікавы выпадак: нашы мастакі давалі майстар-клас грэчаскім дзецям на нейкім востраве ў Эгейскім моры. Дзеці ніколі не былі на кантыненце ў Еўропе, дамы іх бацькоў — з плоскімі дахамі. Але калі ім сказалі намаляваць хаткі — усе без выключэння малявалі двухскатныя дахі. Таму што гэта еўрапейскі архетыпічны дах, закладзены, відаць, калі яшчэ нашы продкі шалашы для жытла будавалі. Так што нейкае ўяўленне пра старажытных багоў у кожнага з нас ёсць.

Яшчэ пра архетыпы: калі ідзе гаворка пра істоту з рагамі, перш за ўсё ўяўляюцца рогі каровы ці казы.

**— А можа, нашым продкам уяўляліся рогі тура ці зубра?**

— Тур і зубр — таксама лясная карова.

**— На старонках кніг серыі ёсць і сцэна палявання на зубра. Вам даводзілася назіраць за гэтай жывёлай?**

— Я ж нарадзіўся ў Брэсце, зубра бачыў яшчэ зусім маленькім — у вальерах. Магу расказаць нават, чым адрозніваецца зубр белавежскі ад бярэзінскага. Больш таго, маляваў і тура, ён адрозніваецца ад зубра, зубр — лагодная рахманая жывёліна, а герой паэмы Міколы Гусоўскага менавіта тур, мяркуючы па характары.

**— Адно з эсэ Анатоля Бутэвіча прысвечана легендарнаму мору Герадота.**

— Кожную вясну я гэта мора бачыў у сваім дзяцінстве! Паўтаруся, нарадзіўся і пражыў дзіцячыя гады ў Бярэсці. І як толькі Прыпяць набрыняла і вада разлівалася, увесь час памятаю, як у горад прыходзіла даволі шмат уцекачоў з Палесся, што прасіліся на пастой. Мы жылі ў прыватным доме, і кожную вясну па пары тыдняў давалі прытулак палескім сем'ям. Але ж яны ўсё роўна вярталіся на ранейшыя месцы, як толькі вада сыходзіла. Сёння і дамбаў больш, і іншых прыстасаванняў, і меліярацыя прайшла, але на сваях дамкі там-сям можна ўбачыць. І калі разлітае Палессе — да гарызонта бачыш ваду, што нетыпова для Беларусі. Безумоўна, гэта нагадвае мора. На картах XVII стагоддзя мы бачым азёры памерам большыя за Нарач, можа, картограф складаў іх падчас такога разліву, ці па звестках, якія ў гэты час былі атрыманыя. І ў пазнейшай гісторыі знойдуцца звесткі пра развітае суднаходства. Ледзь не да Івацэвічаў даходзіла вада.

**— Чытач знойдзе сярод ілюстрацый і выявы абразоў. Ці патрабаваўся асаблівы стан душы для гэтых старонак?**

— Як мастак і як хрысціянін з вялікай павагаю стаўлюся да гэтай тэмы і ведаю, як трэба да яе падыходзіць. Неаднойчы быў ля цудатворных абразоў. Але ў кнігах выявы Жыровіцкай і Мінскай Божай Маці — не кананічнае пісьмо, а ілюстрацыі, у якіх выкарыстаны сакральныя выявы. Абразамі іх назваць нельга, бо на іх нельга маліцца.

**— Павел, іншым часам творцы расказваюць, што атрымліваюць пэўныя знакі, нібыта праца ўхвалена нябёсамі. Ці адбывалася нешта накшталт падчас стварэння серыі “Сем цудаў Беларусі”?**

— Творцы ўвесь час жывуць у свеце знакаў, сімвалаў, вобразаў. Тое, што адзін чалавек не палічыць знакам, мастак заўважыць. Як слупамі дарожнымі, жыццё адзначана гэтымі сімваламі.

Для мяне знакам была ўжо сама прапанова, што з'явілася такая ідэя, адчуванне ўнутранае, што я такога чакаў — акунуцца ў беларускую гісторыю. І я ўдзячны Анатолю Іванавічу, што ён даў мне такую магчымасць.



*Павел Татарнікаў “Князі Чартарыйскія”*

## Пад вокладкай

Юзэфа ВОЎК



**Кастрючин, В.А. Оленье “спасибо” / Валерий Кастрючин; худож. Юрий Алисевич. — Минск: Літаратура і Мастацтва, 2012. — 128 с.**

У кнізе аўтар прадстае перад чытачом то ў вобразе маленькага хлопчыка, які ловіць рукамі рыбу ў рацэ дзяцінства, то ўжо дарослым чалавекам, які адкрывае для сябе раней не вядомыя землі. Выданне склалі творы розных жанраў: аповесці, апавяданні, мініяцюры, эсэ, усе яны аб'яднаныя галоўнай тэмай — любоўю да прыроды. Безумоўна, кніга дапаможа не толькі лепш пазнаёміцца з прыгажосцю свету, але і адчуць радасць ад судакранання з прыродай.



**Гніламёдаў, У. В. Янка Купала: жыццё і творчасць / У. В. Гніламёдаў. — 2-е выд., дапрац. і дап. — Мінск: Беларуская навука, 2012. — 252 с.**

Першае выданне гэтай кнігі ўжо стала настольным для студэнтаў-філолагаў, магістрантаў і аспірантаў. І гэта не выпадкова, дадзеная літаратуразнаўчая праца сапраўды вартая шырокага прызнання і ўвагі. Тут аналізуюцца жыццё і творчая спадчына Янкі Купалы — ад першых вершаў і паэм да апошніх выступленняў. Пераасэнсоўваюцца такія яго буйныя творы, як “Адвечная песня”, “Сон на кургане”, “Магіла льва”, “Над ракой Арэсай”, “Безназоўнае”, “Тутэйшыя” і іншыя. Значна і тое, што ў сваім даследаванні аўтар імкнецца пераадолець ідэалагічныя штампы, скажэнні, недагаворанасць, якія да гэтага часу перашкаджалі зразумець сапраўднага Янку Купалу.



**Латышкевіч, М. Ю. Пульс навальніц / Маргарыта Латышкевіч. — Мінск: Чатыры чвэрці, 2012. — 60 с.**

Нягледзячы на тое, што гэта кніга маладой паэткі, імя Маргарыты Латышкевіч ужо добра вядомае чытачам “ЛіМа” і часопіса “Маладосць”. Творы, сабраныя ў зборніку, прысвечаны розным тэмам: тут можна знайсці і філасофскія развагі, і пейзажныя замалёўкі, і ўрбаністычную лірыку, нават жартоўныя вершы. І паўсюль паэтка, кажучы яе ўласнымі словамі, — “Байран на свой манер”, кожны яе твор скіраваны на дыялог, ці то з чытачом, ці то з папярэднікамі, з мэтрамі, з класікамі. Адметна і тое, што прадмову да першай паэтычнай кнігі маладой аўтаркі напісала лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы Раіса Баравікова, а цёплы водгук майстра — ужо частка поспеху.



**Уайльд, О. Портрет Дориана Грея / Оскар Уайльд; пер. с англ. М. Абкиной. — Москва: Астрель: АСТ, 2012. — 316 с.**

1891 год нездарма лічыцца знакавым у развіцці англійскай літаратуры. Адна за адной выходзяць кнігі-легенды Віктарыянскай эпохі. Гэта ўтопія Уільяма Морыса “Весткі ніадкуль”, раман Томаса Хардзі “Тэс з роду д'Эрбервіляў” і, бадай, самая знакамітая з іх ліку — “Партрэт Дорыяна Грэя” Оскара Уайльда. Яго з задавальненнем чытаюць на занятках па замежнай літаратуры, а апошняя па часе экранізацыя (2009 год, рэж. Олівер Паркер) стала сапраўдным камерцыйным поспехам. Значыць, у рамане “нешта ёсць”, ды не “нешта”, а шмат усяго! Тут выявілася знакамітая “нянавісць XIX ст да рэалізму і рамантызму”, заганы і цноты грамадства гэтага часу, а таксама пацвердзілася тэза самога ж Уайльда: мастацтва бескарыснае, а мастак — не мараліст.

***Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by***

**Кнігі для агляду прадастаўлены магазінам “Кніжны салон”. Тэл. 385-60-89.**




# Гаспадыня Балотных Ялін

## Апавяданне

Вецер выў над вухам немым воўкам. Трэба было легчы, захутаўшыся ў кажух, тады было б хоць трохі ўтульней. Але яна не магла сабе гэта дазволіць. Як гэта — ляжаць на павозцы, якой кіруе мужчына? Сівы дзядзька ў куфайцы з высмаленымі, відаць, попелам з папярос дзірачкамі, у шапцы з апушчанымі вушамі прыехаў па яе на вакзал, што за дзесяць кіламетраў ад "пункта назначэння", сустрэў з цягніка, дапамог несці рэчы і вось цяпер кіруе павозкай, запрэжанай жвавым пярэстым конікам.

Пакуль ішлі да павозкі, трохі пагаварылі. Стала вядома, што дзядзьку завуць "проста, па-вясковаму — Кандрат". Што жыве ў Яноўцы "даўно, ужо забыўся, калі". Што працуе, "як прыйдзецца" — то конюхам, то пастухом, то "на транспардзэры", то "во, паненак па станцыях трэба збіраць". Яна ішла і ўсміхалася: такім вясёлым і шчырым падаўся ёй гэты дзядзька.

— А ты мо думала, што ў нас глухамань? Нябось, не хацелася ехаць у вёску? Відаць жа, што гараджанка. Вунь паліто якое спраўнае. Ты, дачка, не румзай, бяды вялікай, адробіш сваё да паедзеш, куды табе захочацца. А мо выйдзеш тут у нас замуж дый будзеш жыць ціхенька. Нам дактары патрэбны.

— Я фельчар, — прамовіла яна. — А хто ў вас тут раней, да мяне, працаваў?

— Фершалам ці як? Фершалам то ніхто не працаваў, — засяроджана прагаварыў дзядзька Кандрат. — Самі ўміралі.

Яна думала, ён усміхнецца, але ж не паспелася — падшылі да каня.

"Тумар у дзядзькі — што трэба", — прамармытала яна, уладкоўваючыся.

— Там цябе сустракаць збіраліся. Усёй вёскай. Свята ладзіцца, бо фершалка едзе. Но! Пайшоў!

І яны паехалі. Спачатку перад вачыма плылі дамы, потым — кашлатыя елкі. А вецер, не сціхаючы, выў і выў над вухам.

Вось і пачынаецца новае жыццё. Тое, пра якое марыла. Пра якое пісалі некалі ў кніжках і здымалі добрыя фільмы. Фельчар — сельскі доктар, паважаны чалавек. Адзін ратавальнік на некалькі вёсак — каго ад "раматусу", каго ад ангіны, каму прывіўку зрабіць. З раніцы — чарга людзей, да якіх у сэрцы хаваецца цеплыня, якім так жадаецца хоць нечым дапамагчы, а можа і проста пашкадаваць і нават у нечым прасвятліць. З якімі можна і пра жыццё пагаварыць, бо яно ў іх, канечне ж, цікавае. Эх, дзядзька Кандрат, ты толькі ведаеш, як бягуць ад вёскі, а што ты ведаеш пра тых, хто імкнецца да яе? Нічога ты пра іх, відаць, не ведаеш. Магла б, між іншым, застацца ў горадзе, дзе, як казалі знаёмыя і родныя, "цяпло, дабро і мухі не кусаюць".

Елкі бягуць і бягуць уздоўж дарогі. Старыя, калматыя, высачэзныя. Калі ўжо тая Яноўка?

— Ну што, Надзея Раманаўна, лічы, прыехалі!

Сапраўды, кашлатыя елкі неяк раптоўна саступілі месца доўгаму шэраму плоту і хатам з высокімі комінамі і невялікімі акенцамі ў фіранках. Пры кожнай хаце на лаўках сядзелі людзі, некаторыя стаялі за плотам, цікаўна пазіраючы на павозку, быццам пытаючыся: "Ну, якая ты, наша дакторка?" Праўду дзядзька Кандрат гаварыў, падрыхтавалі сустрэчу.

— Ты, Раманаўна, не хвалюйся. Я цябе спачатку ў маёнтак закіну, агледзішся там, а пасля ўжо завядуць куды трэба. Во і маёнтак твой.

Дзядзька Кандрат кінуў рукою ў бок будынка з высокім ганкам, абсаджанага елкамі. Гэта былі, як на дзіва, зусім іншыя елкі. Старыя, відаць, што старыя, але не высокія, як тыя, што беглі ўздоўж дарогі, а прыземістыя. Быццам недалягала ім чаго.

— Ведаеш, як цябе тутака ўжо людзі празвалі? — дзядзька Кандрат зірнуў хітравата і з цікаўнасцю, быццам хацеў наперад дапедаецца, што скажа на яго словы "фершалка". — Ты ў нас будзеш гаспадыня Балотных Ялін. Тут балота некалі было, цяпер-то трохі палепшала, а раней — матухна мая! — прорва, а не месца. Да гэтага во маёнтка было не дабрацца.

— А тут што, пан жыў?

— А хіба не пан? Няўжо ж мужык будзе сабе такое будаваць?

— Дык чаму ж на балоце? Лепшага месца не знайшлося?

— Відаць, не знайшлося. З панамі, я табе скажу, цёмная гісторыя выходзіць. Яны ўсе нейкія трохі з прыбамбахам былі. Дзякуй Богу, няма ў нас цяпер паноў. А ў маёнтку маладая дзяўчына будзе не інтрыгі плесці, а жыць і працаваць, бо адукаваная. Надзея Раманаўна — гучыць прыгожа. Чакай, я ж у цябе дыплом не стрэбаваў. От, халера ясная, забыўся. Задурыла ты мне галаву, Надзейка.

Дзядзька Кандрат у нейкай ненатуральнай роспачы пачухаў патыліцу.

— Як бы там ні было, а назад не павязу, — пастанавіў ён. І закрычаў што ёсць моцы ў бок ганка: — Сямёнаўна! Го, Сямёнаўна!

Дзверы адчыніліся, з іх выбегла старая, але жвавая кабета, кругленькая, як бочачка.

— Сямёнаўна, прымай гаспадыню. — І павярнуўшыся: — Гэта во Сямёнаўна, тутэйшая ахмістрыня.

— Медработнік, — паправіла дзядзьку Сямёнаўна. — Падлогі ды вокны павыціраць, струменты папарадкаваць, хворых падбадзёрыць, халаты перамыць, мо яшчэ якая справа знойдзецца.

— Там разбяромся, Сямёнаўна. Ты не мітусіся, а давай пакоі паказвай.

— А што іх паказваць? У гэнай палавіне жыць можна, а ў гэнай працаваць, — Сямёнаўна паказала направа, потым налева. — Толькі ж галоўнае — каб да старшыні зайшлі, бо пёкся надта, каб усё было добра.

— Да старшыні, кажаш? Да Дубатоўкі? То хіба яму рабіць няма чаго? Халера ясная, усё ж і без яго добра. Ці не? Надзейка, добра я цябе даставіў? З шыкам! Аж пырскі ляцелі з-пад колаў, так ехалі. От Дубатоўка, га? Не даўярае. Ну паглядзім, паглядзім.

* * *

Пакой справа здаваўся вялікім. Круглы стол, накрыты квятастай хусткай, з вазонам пасярэдзіне, а ў вазоне тым — галінкі елачак. Прыгожа. Канапа, два крэслы, невялічкі тэлевізар на тумбе. Што яшчэ? Два крэслы ля стала. Трэба будзе прыдбаць кніжную палічку, хаця б адну. У кніжках пра вясковых дактароў пішацца, што яны шмат чытаюць і нават вядуць дзённікі. Многія з іх становяцца праз нейкі час пісьменнікамі. Відаць, прафесія дакторская такая, што немагчыма стрымацца і не напісаць нешта новае, чаго дагэтуль не пісалася. Інжынеры чалавечых душ — гэта больш, напэўна, не пра настаўнікаў, а пра тых, хто лекарыць, сустракае і ратуе жыцці. Калі вучылася, шмат пра гэта чула ад старых выкладчыкаў лаціны і анатоміі. Лаціна — мова мёртвая, таму яна — тое ж самае, што і філасофія, і таму, канечне, нічога іншага сказана тут быць не магло. Але ж анатомія, навука, назва якой адзначае "рассякаць"… Прымітыўная, на першы погляд, справа. Рассякаць, умоўна дзяліць цела на часткі, каб ведаць яго будову дасканала. Але ж гэта для таго, каб дапамагчы потым гэтаму целу ў яго бядзе, каб зменшыць боль, — гэта таксама ўсё ж, відаць, філасофія…

— Як, як, ты кажаш, цябе зваць?

— Надзя. Надзея. Надзея Раманаўна.

— Пасцельнае ў шафе ў калідорчыку вазьмі. Я б на тваім месцы зрабіла гэта цяпер, неадкладна. Бо вяртацца будзем позна, — з гэтымі сухаватымі словамі Сямёнаўна паглядзела лагодна, як маці. — Цяпер пойдзем у хату да Андрэіхі. У яе прасторна, там усе пасядзем. Будзем есці сала з бульбай, спяваць песні застольныя беларускія, вясёлыя, харошыя. Ты ведаеш песні? Я цябе навучу спяваць "Рамашкі спряталісь". У нас яе Чарчыха заводзіць. Як завядзе, дык аж дрыжыкі бяруць. Размаўляць будзем. Пазнаёмішся з вяскоўцамі, з усімі адразу. Бо табе ж іх лячыць прыйдзецца.

— А часта ў вас тут хварэюць?

— Ой, дзіця маё, не ведаю нават, як табе сказаць.

— Скажыце, як ёсць, — ад Сямёнаўны зыходзіла такая прастата, такая спагадлівасць і зычлівасць, што хацелася ўжо размаўляць пра ўсё на свеце, не чакаючы ні Андрэіхінай хаты, ні сала з бульбай, ні песень пра "рамашкі".

— Кажуць, калі раніцай прачнешся і адчуеш, што нешта недзе хаця б трохі баліць, то, значыць, ты яшчэ жывая, — Сямёнаўна не засмяялася нават, а зарагатала, адкрыўшы да прагляду кожны свой зуб. — От і мы так. Але ж дзе ты будзеш прыслухоўвацца? Раніцай печ напалі, потым кароўку ў поле адпраў, потым мужыка на працу выпраў, свінчо пакармі, курам сыпні, абед звары, дык дзе яно балець не будзе? Але ж няма калі прыслухоўвацца. Таму соўгаемся, як Бог дае. Добра, што кароўкі цяпер пасталі ў хлявах, то трохі лягчэй. Але, з другога боку, сена цягаць трэба. Летам пусці ў поле ды няхай топчацца, а цяпер карміць трэба. Так вось і жывём, абы дзень да вечара.

Сямёнаўна, пакуль гаварыла, паспела сама дастаць з шафы пасцельнае, выняць з канапы коўдру з падушкай і ўсцягнуць на падушку навалачку.

— Лажусь на новым месце, прысніся жаніх нявесце. Прагаворыш так, як будзеш класціся нанач, — і прысніцца табе твой суджаны. Гэта праўда. Я свайго Міколу так і прысніла. Каб чаго лепшага. І хто мяне тады так гаварыць навучыў?..

Сямёнаўна зноў зарагатала. І было неяк радасна слухаць яе, усміхацца на яе рогат, верыць яе словам. Было ўвогуле прыемна і лёгка на сэрцы. Тое, што хутка чакае сустрэча з патэнцыяльнымі пацыентамі, трошкі, зразумела ж, хвалявала, але больш падбадзёрвала, чым прыгнятала. І гэта таксама здавалася дзіўным супраць даўняй і нічым дагэтуль не пераможанай звычкі саромецца перад незнаёмымі людзьмі. Чароўны нейкі дзень сёння.

— Ну, хадзем ужо. Чакай, Андрэіха, зараз пабачыш, якую спраўную фельчарыцу я ў тваю хату прывяду. Стаў на стол пачастункі!

Сямёнаўна прагаварыла так сама сабе пад нос, пераступаючы парог і спускаючыся па прыступках. Ад брамкі да ганка тым часам ішоў вялікі — высокі і тоўсты — чалавек у чорным доўгім паліто з рудымі вусамі літарай П.

— Гэта наш Дубатоўка. Старшыня калгаса, каб ты ведала, — сказала Сямёнаўна ціха. А потым перайшла на звычайную сваю манеру: — Што, Рыгорка, хвалюешся? Прыехала мая гаспадынька, на, паглядзі.

— Чакай, Сямёнаўна, дай жа вочы на нос уздзець.

Дубатоўка дастаў з кішэні паліто футляр з акулярамі, хукнуў на адно шкельца, потым на другое, працёр іх вялікай мужчынскай насоўкай, якую выцягнуў з той самай кішэні, начапіў акуляры на нос.

— Вось табе і на! — прабасіў ён. — Я думаў, прывезлі доктара як доктара, а гэта ж нешта недарэчнае, малое ды худое. І як яно лячыць будзе? Сямёнаўна, пастаў яе на адкорм. Харчоў не шкадуй, бяры ў сталоўцы па дзве порцыі. Дактарку трэба ўважыць. Яна, я ведаю, сама ў вёску прасілася.

— Праўда? — Сямёнаўна застыла з адкрытым ротам.

— Закрый, бо муха ўляціць, — заўважыў Дубатоўка.

— Не ўляціць, не сезон. А калі б уляцела, то хіба муха не мяса?

І яна зноў зарагатала.

* * *

— Налівай, бо не ядуць! — выкрыкваў Дубатоўка, звяртаючыся да дзядзькі Кандрата, які "заведаваў" пітвом. Пілі слабенькую, "як кампоцік", налівачку, зробленую Андрэіхай.

— Халера ясная, — прамаўляў у сваю чаргу дзядзька Кандрат. — Андрэіха, хай цябе чорт, нашто ты так яе разбавіла?

— То ж і добра, вечар доўгі, гаварыць ёсць пра што, дык каб не паўпіваліся, — заступалася за Андрэіху бабка, якую прадставілі Серафімай, але ўжо каторы раз назвалі Саркай.

— Бабка Сарка, як табе мае грушкі?

— А дзе? — бабка Сарка забегала вачамі па стале.

— А вуньдзека стаяць, у місе. Мядовыя. Пасытай. І ты, Надзейка, частуйся. У горадзе табе такіх ніхто б не падаў.

— Сапраўды, вельмі смачна, — прыязна ўсміхнулася тая, з-за якой сабралася за адным сталом уся вёска.

— А ты ж такая сціпленькая, а мая ж ты дачушка, — пляснула рукамі Андрэіха. — Не саромейся, мая даражэнькая, не саромейся, — і Андрэіха, абхапіўшы Надзею рукою за плечы, бо сядзела побач, моцна прыціснула да сябе.

— А мне такія вось сціпленькія больш, я табе скажу, падабаюцца, — прагаварыў Дубатоўка. Ён сядзеў насупраць і ўжо абсмоктваў смажаную рабрыну.

— Ёлупень ты стары, — не ўтрымалася бабка Сарка.

— Я ж у лепшым сэнсе.

— І мне от неяк не падабаюцца такія, як бываюць, фанабэрыстыя, холеныя, — гэта дзядзька Кандрат, смешна растапырваючы пальцы і робячы твар.

— Ад тых фанабэрак толку ніякага людзям. А мы каго заслужылі, таго і атрымалі. Добрым людзям добрую фелчарку прыслалі, — цётка з дальняга кута падчапіла на відэлец марынаваны грыб, ён не ўтрымаўся, саскочыў, тады яна пачала дзёўбаць суседні — і таксама безвынікова.

— Гэтых слізнякоў трэба лыжкай чэрпаць, а не відэльцам тыркацца. Глядзі во, як я зараз зраблю, — не стары яшчэ, але сіваваты ўжо дзядзька, што сядзеў побач, узяў місу з грыбамі, паднёс да сваёй талеркі і перакуліў іх у яе амаль усе. — Бяры, суседка, сабе астатак, бо ніхто больш, я гляджу, на гэтых слізнякоў не пакваліцца. А што дакторка скажа, карысная ежа грыбы?

— У грыбах шмат бялку, але ён цяжка пераварваецца, — прагаварыла Надзейка.

— Пад наліўку пераварыцца, — з задавальненнем канстатаваў дзядзька, сёрбаючы з краю талеркі.

— Ты не глядзі, дачушка, што некаторыя ў нас такія трохі… праставатыя, ці што, — шапнула не вельмі ціха Андрэіха. — У нас людзі добрыя, спагадлівыя. Дабра жадаюць. І ніхто ні табе, ні пра цябе нічога дрэннага ніколі не скажа. Гэта вёска такая.

— Гэта вёска, — дадала з другога боку Сямёнаўна. — А ты, дачушка, прывыкнеш да яе. І да нас прывыкнеш, як мы да цябе.

— Мы да цябе ўжо прывыклі, — пачуў гаворку дзядзька Кандрат. Ён разразаў відэльцам галубец, ды заблытаўся ў капусце. — Раскажы, як я цябе вёз. Праўда, добра? Аж пырскі ляцелі, халера ясная.

— Сядзі ўжо, халера. Прывёз, дык маўчы, а то быццам без цябе б не прыехала.

— Гэта жонка мая, — сказаў спакойна, звярнуўшыся да госці, дзядзька Кандрат. — Язык доўгі, як не трэба. Але ты слухай.

— От разумнік, — не стрымалася жонка.

Тым часам Сямёнаўна гладзіла Надзейку па галаве. Андрэіха падкладвала на талерку гарачую — толькі ўнесла — бульбу. Наверх уладкавала смажанае паўкольца сялянскай каўбасы.

— Во-во, правільна, — заўважыў Дубатоўка. — Яе трэба карміць, бо надта худзенькая. Аж блакітная ўся. Блакітная жанчына — гэта нядобра. Тут у нас, Надзейка, настаўнік адзін ёсць. Яго сёння няма, падаўся ў раён па справах. А заўтра вернецца. Ён-то здаровы як бык, таму да цябе на прыём не прыйдзе, але я абяцаю вас пазнаёміць. Сур'ёзны чалавек, не шалыган які.

— Хто сур'ёзны? Беларэцкі? Так, Беларэцкі — сапраўдны пан, — з павагай канстатавала Андрэіха.

— Пытаўся ў мяне, калі дакторка прыедзе, — жуючы салёны агурок, не сказаў, а хутчэй прамармытаў Дубатоўка. — Праўда, ну. Кажа: дзядзька Рыгор, а ці прыгожая тая дакторка, ці бачылі вы яе?

— Вой, дзядзька Рыгор, вы ўжо напіліся і налісія, калі такую лухту несяце.

— Ты, Сямёнаўна, мне не выкай. А я яму кажу: бачыў.

— Як бачыў, калі яна во толькі сёння прыехала?

— Не слухайце вы яго. Прадсядацель, галава. Ці мала клопатаў у чалавека. Можа і памыліцца.

— Я не памыляюся, ні-ко-лі, — Дубатоўка павадзіў тоўстым пальцам. — Ведаеце, як ён яе назваў? Гаспадыня. Калі, маўляў, гаспадыня Балотных Ялін прыедзе?

— Балотныя Яліны — гэта мы так маёнтак завём, — шапнула Андрэіха. — А і праўда было б добра, каб вы з гэтым панам Беларэцкім, з Андрэйкам, палюбіліся. Ён табе, далібог, пара. Налівай, Кандратка, вып'ем, каб усё ў нашай Надзейкі было добра. Ах, якое імя спраўнае бацькі табе далі — Надзея. Надзея — наша надзея…

Яны яшчэ доўга сядзелі і гаварылі "абы пра што". Пілі, елі, успаміналі мінулыя часы, марылі пра тое, што будзе некалі, жадалі адно аднаму здароўя, а яшчэ абмяркоўвалі, хто будзе сватам на вяселлі "нашай Надзейкі", бо ўжо да гэтага абмеркавалі і фасон сукенкі, і ў каго будуць заказваць каравай, і з якой хаты гаспадыню Балотных Ялін будзе выкупляць пан Беларэцкі.

— Абы грошай у яго хапіла, халера ясная, — выкрыкваў дзядзька Кандрат. — А я дамчу іх да сельсавета, аж пырскі будуць ляцець.

# Нюансы жывога пісьма



*“Напярэдадні” (палатно, алей, 1995).*

**Выстаўка жывапісных работ Уладзіміра Гардзеенкі, прысвечаная 75-годдзю майстра, 60-годдзю яго творчай працы і 50-годдзю педагагічнай дзейнасці, размясцілася ў залах галерэі “Універсітэт культуры”. Маштабная экспазіцыя прадстаўляе асноўныя жанравыя і тэматычныя напрамкі творчасці выдатнага мастака.**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота аўтара**

Яго карціны прываблiваюць лаканічнай і немудрагелістай манерай пісьма, праз якую раскрываецца багаты і трапны змест. Але распавядаць пра творчасць Уладзіміра Гардзеенкі даволі складана. Чаму? Таму што гэта — сапраўдны жывапіс. Тонкае і трапяткое мастацтва, якое напоўніцу раскрываецца толькі ў непасрэдным кантакце з гледачом: тут і зараз. Альбомы на мелаванай паперы, лічбавыя копіі палотнаў, тэхналогія жыклe — зусім не тое. Самыя дасканалыя рэпрадукцыі знішчаюць водар жывога пісьма, тонкія абертоны фарбаў. Углядацца ў арыгінал жывапіснага твора — гэта як слухаць жывое выкананне акустычнай музыкі. І магію жывапісу, як і магію жывога голасу музычнага інструмента, немагчыма перадаць словамі... Застаўшыся сам-насам з карцінамі ў цішыні галерэі, праз маўклівы дыялог з ужо знаёмымі раней і новымі маляўнічымі вобразамі пачынаеш адчуваць і разумець, **што** давялося зведаць, перажыць, асэнсаваць мастаку, які даў сваёй юбілейнай выстаўцы такую несвяточна-трывожную назву: “Перадольваючы боль...”.

Захопленасць вясновым абнаўленнем, радасць жыцця — у свежасці зялёнага мая, красе маладога ўтравелага лета, крохкасці касачоў, шляхетнай грацыі сонечных лілеяў (кампазіцыі з садовымі кветкамі, дзякуючы асаблівай жывапіснай тэхніцы і чысціні каларыту, часам нагадваюць пяшчотны батык, хаця выявы зробленыя на палатне).

Цікавасць да чалавека, да ўнутранага свету сучасніка — у рэалістычных,



*“Хойнікі” (палатно, алей, 1994).*

жывых партрэтах (“Партрэт студэнткі Дашы”, “Партрэт механізатара Міцкевіча А. В.”, “Чужога гора не бывае. Доктар Церах М. К.”, “Першыя складанасці”, “Партрэт Гедройца В. К.”). Прыхаваная туга па краіне дзяцінства, казачным кутку Палесся, дзе пакінула свой нябачны след чарнобыльская бяда, — у поліфаніі вядомых пейзажаў “Край майго маленства”, “Чырвоныя дрэвы”, “Дуб. Лакіраваная рэчаіснасць”, “Вярба. Вясновы гром”, “Сенажаць. У пойме Прыпяці”. Неадступная горыч — у вусцішным, напружаным спакоі карціны “Перасяленцы”.

Рэфлексіі ды філасофскія рэмінісцэнцыі — у сімбіёзе пейзажу і нацюрморта на нядаўніх палотнах. “Былое. Восень” — з метафарычным спляценнем знакаў радзімы, памяці, часу і долі, вобразаў пакінутага дома, непатрэбных, “асірацелых” рэчаў, незабытых чырвоных дрэў, калючага быльнёгу, несабраных яблыкаў ды календара, лісткі якога перабірае вецер. “Былое. Вясна” — з уздыбленай бараной на бяскрайнім, але бязлюдным полі, дзе прылада спрадвечнай працы беларускага аратага, пакінутая на ўжо ўздзіранелай зямлі, ператварылася ў помнік “мірнай” трагедыі: сталёвыя краты бараны нагадваюць крыжы, вострымі цернямі ашчэрылася зуб’е, а вярба, што прарасла наскрозь і расквітнелымі галінкамі пацягнулася да сонца, нібы апляла гэты помнік жывым вянком...

Выстаўку У. Гардзеенкі адкрывалі ўрачыста. Яго віталі калегі, вучні, сябры. Мастак атрымліваў віншаванні ад Міністэрства культуры і Міністэрства абароны Беларусі, ад Беларускага саюза мастакоў, ад кіраўніцтва дзвюх навучальных устаноў, дзе выкладае: БДУ культуры і мастацтваў ды Інстытута сучасных ведаў імя А. М. Шырокава. Афіцыйныя асобы адзначалі не толькі ўнёсак жывапісца ў айчыннае мастацтва, але і міжнародны поспех яго выставак, якія распавядаюць пра Беларусь у заходніх краінах. І прыемна было пачуць між іншым, што міністр замежных спраў Беларусі Сяргей Мартынаў ды міністр прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Уладзімір Цалка прыйшлі на вернісаж не па службовым абавязку, а як сябры — па закліку сэрца, з глыбокай павагі да Уладзіміра Цітавіча, цудоўнага чалавека і мастака, надзеленага асаблівым дарам патрыятызму — таго глыбіннага, непаказнога патрыятызму, які не крычыць пра сябе, а выяўляецца праз моцны мастацкі вобраз...

“Люблю яго простыя чалавечныя карціны”, — прызнаўся адзін з гасцей вернісажа. Ці мае значэнне, хто менавіта сказаў гэтыя словы? Іх, мабыць, ужо неаднойчы паўтарылі прыхільнікі жывапісу Уладзіміра Гардзеенкі.



# Душэўнае спатканне

**Віктар КАВАЛЁЎ, фота аўтара**

Гэтымі днямі сталічная галерэя “Мастацтва” прэзентуе выстаўку маладога беларускага жывапісца Наталлі Гедрановіч “На спатканне да цiхае ракі...”. У 2006 годзе яна скончыла Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў, аддзяленне станковага жывапісу. Працуе Наталля Гедрановіч у жанры пейзажу, нацюрморта і сюжэтнай кампазіцыі.

На адкрыцці экспазіцыі ўступнае слова бралі мастак, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Валерый Шкаруба, доктар мастацтвазнаўства, таксама лаўрэат Дзяржаўнай прэміі нашай краіны Валерый Жук, мастацтвазнаўца Алеся Раманюк. Валерый Жук, у прыватнасці, быў усцешаны тым, што маладыя мастакі заяўляюць пра сябе даволі хутка пасля заканчэння ВНУ і што ў наш мітуслівы век, калі многія імкнуцца нешта зрабіць на скандале, застаюцца творцы, якія нетаропка, удумліва працуюць, знаходзяць прыгажосць вакол нас, прымушаюць углядацца ў самыя простыя матывы, пейзажы. Кожная з работ Наталлі Гедрановіч адрозніваецца своеасаблівым бачаннем, у іх прасочваецца самастойная лінія.



*“Зімовая казка” (палатно, алей, 2010).*

У сваю чаргу Алеся Раманюк зазначыла, што ў нашым сапраўды вірлівым часе мы маем шмат з чаго выбіраць, бо ў мастацтве безліч кірункаў. Ва ўсёй разнастайнасці сённяшняга мастацтва і наогул — сённяшняга дня важна мець жыццёвыя арыенціры, як, напрыклад, бацькоўскі дом, куды мы можам заўсёды вярнуцца, і для нас там будзе ўсё зразумелае, даступнае нашаму ўспрыманню, роднае, блізкае і ад гэтага вельмі цёплае і душэўнае. Ці як памятнае дрэва, ці як рамонкі ў полі. Адметна, што ёсць мастакі, якія, нягледзячы на канкурэнцыю і попыт на творы пэўнага кшталту, здольныя вяртаць нас да гэтых лепшых, цёплых, простых, але вельмі блізкіх успамінаў нашага жыцця.



*“Зімовы спакой” (палатно, алей, 2006).*

Жывапіс Наталлі Гедрановіч грунтуецца на традыцыях рэалістычнай школы, адчувальны таксама ўплыў імпрэсіянізму. Мадэлюючы ў сваіх кампазіцыях вобраз рэальнага свету, яна насычае іх тонкім суб’ектыўным светаадчуваннем. Лірычная творчасць мастачкі выклікае тонкія перажыванні, падахвочвае гледача паразважаць пра сутнасць чалавечага існавання. У яе кампазіцыях відавочна асаблівая ўвага да каляровых і фактурных эфектаў. Кожная работа — гэта не толькі адлюстраванне эмацыянальнага ўзрушэння мастачкі ў пэўны непаўторны момант жыцця, але і вынік выразна прадуманай аўтарскай задачы.

“На спатканне да цiхае ракі...” — першы персанальны праект маладой мастачкі. На выстаўцы прадстаўлены, у асноўным, пейзажы. Святланосныя і адухоўленыя, яны выразна ўвасабляюць жывапісныя ўражанні ад беларускай прыроды і перадаюць гледачу захапленне прыгажосцю родных краявідаў. Асноўным матывам у пейзажах, якія экспануюцца ў галерэі, з’яўляецца вобраз ракі. Наталля Гедрановіч метафарычна суадносіць гэты вобраз з ходам чалавечага жыцця: “Рака цячэ, як само жыццё: то павольна, то з нейкімі ўсплёскамі”.

**Прапануем увазе чытача заключную частку тэатральных нататак Фрыдрыха Модаля, якія друкаваліся ў нумарах за 27 красавіка, 11 і 25 мая ды 8 чэрвеня.**

**Аддзел мастацтваў «ЛіМа»**

# Сучасная казка

## «Няма таго, што раньш было…» Маналог

**Фрыдрых МОДАЛЬ**

Настаўніцкая прафесія выпрацавала ўва мне звычку задаваць пытанні. І школьнікаў заўсёды вучыў патрабаваць ад мяне адказу на ўсялякія пытанні і стымуляваў гэта высокімі адзнакамі. Калі дзеткі ставілі ў тупік, гэта мяне нават цешыла.

На ўроку рускай літаратуры ў 9 класе мы "праходзілі", як кажуць, "Яўгенія Анегіна". Усё было звычайна, зразумела і нават сумна. Прымалася як належнае і тое, што Яўген Анегін быў "тэатра злы заканадавец, непастаянны паклоннік чароўных акцёрак". Ды Іра Зайцава ўзняла руку: "А чаму ён "ідзе між крэслаў па нагах"? Гэта Пушкін навошта напісаў? Каб паказаць яго культурны ўзровень, ці ўсе маладыя людзі ў яго час былі такія, ці ён адзін быў "прыемным" выключэннем?"

Усім адразу зрабілася цікава. І мне таксама. Бо коратка адказаць на пытанне адразу не змог. Для пачатку растлумачыў, што гледачы, якія не першы раз бываюць у тэатры, ведаюць: чалавека, які ідзе да свайго месца, прапускаюць, устаючы, бо гэтак прынята. І тое патлумачыў, што крэслы, месцы ў партэры, набліжаныя да сцэны і нятанныя, у пушкінскія часы маглі займаць досыць заможныя людзі, скажам, блізкія па становішчы да Анегіна. Аднак тэма традыцый тэатральнага этыкету вымагала часу, і я рашуча заявіў, што дапамагу ахвочым разабрацца ў ёй, але пасля ўрокаў. Памкнуліся да гэтага, зразумела, далёка не ўсе. Аднак размова пасля ўрокаў атрымалася працяглая. Заадно і ў тэатр вырашылі схадзіць. "На практыку", каб правілы этыкету замацаваць.

Той выпадак навёў мяне на разважанні пра ролю сцэнічнага мастацтва ў навучальна-выхаваўчым працэсе. Сапраўды, паэт меў рацыю, калі сказаў: "Нам не дано предугадать, как слово наше отзовётся". Паколькі я яшчэ выкладаў і ў пятым класе, мне падумалася: ці не варта пачаць падрыхтоўку дзяцей да ўспрымання тэатральнага мастацтва менавіта з пятага класа. Знаёмства з тэатральнымі тэрмінамі ды адпаведныя мікраапоВеды на ўроках рускай мовы і літаратуры былі сустрэтыя з увагай. Затым вучні, якія таго хацелі, разам са мной хадзілі на спектакль. Нялёгка было маленькіх жвавых дзяцей суправаджаць у тэатр і з тэатра. Але крок гэты быў зроблены паспяхова, і, на маё здзіўленне, наступныя гутаркі пра спектакль вельмі дапамаглі падчас навучальных заняткаў.

Далей — болей. Склалася сістэма падрыхтоўкі да наведвання тэатра і працы, якая ішла потым. Паступова дзеці перасталі лямантаваць, а пачалі больш стрымана выказваць свае эмоцыі. Хлопчыкі навучыліся прапускаць дзяўчынак пры пасадцы ў грамадскі транспарт і падаваць ім руку, калі тыя выходзілі. Гэта пэўным чынам адбілася і на паводзінах у школе: хлопчыкі прапускалі дзяўчынак у клас, а потым заходзілі самі. Разам пачалі задумвацца пра тое, што можна рухацца больш вытанчана, не пхацца. Наведванні тэатра дапамаглі дзецям палепшыць сваю гаворку. Рускую, беларускую. Яны вучыліся спрачацца, аргументаваць думку, разумець асаблівасці мастацтва…

У тэатрах нас пачалі пазнаваць, дапамагаць нам па шматлікіх пытаннях, ісці насустрач просьбам.

Адзін з галоўных рэжысёраў запрасіў мяне на педагагічную раду, якую ён наладзіў. Даволі вялікая група мінскіх настаўнікаў рэгулярна сустракалася ў яго кабінеце, адглядала ўсе прэм'ерныя спектаклі. З намі раіліся пра тое, што і як можна зрабіць для школьнага гледача. Урэшце, рэжысёр і акцёры пачалі прыходзіць у школу, сустракацца з дзецьмі, адказваць на іх пытанні, распавядаць пра сцэнічнае мастацтва.

Маленькія гледачы распавядалі пра свае ўражанні не толькі на ўроках. Не ведаю, што яны казалі адно аднаму, але шэрагі цікаўных і дапытлівых папаўняліся. Нават сёй-той з бацькоў пачаў хадзіць з намі і прапаноўваць сваю дапамогу. Адна з мам, вельмі актыўная, адукаваная і дасведчаная жанчына, угаварыла дзяцей схадзіць на сімфанічны канцэрт, дзе выконвалася музыка Альфрэда Шнітке! Прызнацца, на той час, да свайго сораму, пра яго не меў ніякага ўяўлення. На канцэрт пайшоў. І хаця ўпершыню слухаць такую музыку цяжка, дзеці слухалі. І ў антракце не пабеглі ў буфет, а сабраліся вакол эрудзіраванай мамы і праслухалі лекцыю пра кампазітара. З імі і я даведаўся, хто такі Альфрэд Шнітке.

Аднак казка калі-небудзь ды заканчваецца. Не памятаю, чаму, але я надоўга адышоў ад мастацтва. Пад націскам сваіх жа калег-артыстаў з тэатра сышоў рэжысёр, які наладзіў педагагічную раду. Калектыў яму папулярна растлумачыў, што дастаткова мастацкай рады, а настаўнікі няхай дзяцей у тэатр водзяць, а ўмешвацца ў творчы працэс ім не варта.

Міналі гады. І вось неяк я сустрэўся з Ігарам Андрэевым, тагачасным дырэктарам ТЮГа, даўнім знаёмым яшчэ з тых часоў, калі ён быў студэнтам. Пагаварылі пра сёе-тое, і ў выніку я зрабіўся педагогам тэатра юнага гледача, памочнікам галоўнага рэжысёра Мадэста Абрамава. Неўзабаве педагагічная частка, звычайная ва ўсіх тэатрах для дзяцей і юнацтва, нашымі агульнымі намаганнямі ператварылася ў псіхолага-педагагічную службу, у якой пачалі працаваць нават кандыдаты псіхалагічных і педагагічных навук. Усе нашы веды, тэарэтычны і практычны досвед пайшлі ў школы. З многімі ўстановамі ўсталявалі цесную ўзаемакарысную сувязь у сферы арганізацыі навучальнай і пазакласнай дзейнасці. Бывала, цэлы аўтобус лепшых артыстаў ТЮГа прыязджаў у школу, яны разыходзіліся па класах і на працягу ўрока размаўлялі пра тое, што цікавіла дзяцей. Калі ж вучні падчас прагляду спектакля пазнавалі на сцэне "свайго" артыста, з якім пазнаёміліся ў звычайным жыцці, яго сустракалі апладысментамі, яго чакалі пасля спектакля. Мне казалі тэатральныя людзі, што такія зносіны руйнуюць мастацкую ўмоўнасць, што дзеці ўжо не ўспрымаюць акцёра як персанаж казкі, бо ведаюць: гэта не Бармалей, а знаёмы ім дзядзечка. Ды практыка паказвала, што школьнікі нават сярэдніх класаў выдатна разумелі, што ўбачаць на сцэне не рэальнае жыццё, а спектакль, гульню ў жыццё. І гэта не замінала самаму галоўнаму: любові да тэатра, да відовішча, да людзей, якія гэты цуд ствараюць на нашых вачах.

Потым і гэтая казка скончылася. Але засталіся рэальныя людзі, якія зрабілі ў свой час усё магчымае, каб дзяцей адвесці ў храм Мельпамены. Гэта вядомыя ў сферы адукацыі і педагогікі спецыялісты Ала Фралова, Людміла Аляксеева, Леанід Абрамаў і яшчэ многія-многія энтузіясты…

Панове! Калі вы імкнецеся глядзець у будучыню, не грэбуйце магчымасцю ўзяць дзетак нашых за ручкі і павесці ў прастору культуры, розуму і самаўдасканалення, у свет высокіх памкненняў і ўчынкаў, дапамажыце ім спазнаць самі сябе, развіць моц незвычайную, унутраную. Кіруйцеся з імі ў Тэатр, запрашайце яго да сябе. І вы дапаможаце нашчадкам нашым узняцца ў творчых магчымасцях на прыступку вышэй. Хай спраўджваюцца казкі!

...Праз сон я пачуў нейкі гук і схапіў трубку тэлефона.

— Слухаю!

Маўчанне. Расплюшчыў вочы і ў чаканні паглядзеў на апарат. Ён маўчаў. А далей, ля сцяны, стаяла дзіўная жанчына ў нязвыклым адзенні, з вянком з нейкага лісця на галаве і таксама маўчала. Феміна не адрэагавала на маё пытанне. Наогул было ціха. Чамусьці пачалі ўспамінацца мае гутаркі з рознымі асобамі пра тэатр. Мы з суразмоўцамі быццам удзельнічалі ў нейкім спектаклі і старанна адыгрывалі свае ролі. Гэта была гульня. Аднак пытанні ўзнікалі сур'ёзныя. Прынамсі, неяк не знаходзіўся адказ на пытанне: "Глядач для тэатра ці тэатр для гледача?"

Успомніў, што напярэдадні я адшукаў у інтэрнэце выяву Мельпамены і раздрукаваў на прынтары. Потым павесіў на сцяну ля пісьмовага стала. Вось і разгадка дзіўнай жаночай постаці ў маім пакоі. Ніякай містыкі. У левай руцэ гэтай Мельпамены — маска трагедыі, у правай — меч… Я нахабна кінуўся ў маналог.

— Найцудоўнейшая вялікая Муза! Шырока расчыненыя дзверы твайго храма прыгажосці. У яго ўваходзяць не толькі асвечаныя, бо ўсялякаму люду рады Тэатр. Прыходзяць па забаву і каб адпачыць ад нягод рэальнага жыцця… Каб убачыць і хітрыкі Скапэна, і таго, хто смяецца апошнім, "Каварства і каханне" і песню пра Зубра… Цягнуцца ў яркую нерэальнасць, каб перажыць узрушэнне і катарсіс.

Найцудоўнейшая вялікая Муза! Хто больш прыемны ў тваім храме: дасведчаны мастацтвазнаўца ці глядач, які ўпершыню завітаў сюды?

Памятаю пушкінскае "Душой исполненный полёт", чытаў трыялет Багдановіча пра думку, якую пачула душа, радаваўся, гледзячы купалаўскую "Паўлінку"… І напаткаў рэкламу нейкага спектакля: "Брадвейскія тэхналогіі XXII стагоддзя!" Куды ж мне раіш пасунуцца, велічная: у XIX стагоддзе да Пушкіна, у XX стагоддзе да Купалы і Багдановіча? Ці на Брадвей?

Правая рука Мельпамены з мячом здрыганулася і напружылася. Мой Даўганосік імгненна заплюшчыў вочы і ўзрушана зашаптаў памрэжу:

— Заслона!

# Пра зухаватых гусараў і чароўных дам

**Колькі дасціпных анекдотаў ходзіць пра паручніка Ржэўскага — зухаватага гусара і ўлюбёнцу жанчын! Але якім насамрэч быў гэты легендарны персанаж? "Гуляка, весялун ды балбатун", — скажаце вы. І памыліцеся! Гэтаму цяжка даць веры, але Ржэўскі зусім не такі, якім яго ўяўляюць многія. Якая ж "Сапраўдная гісторыя паручніка Ржэўскага"? Чарговая прэм'ера Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра, якая адбудзецца 8 і 9 ліпеня, адкрые ўсю праўду пра героя жартаў ды пагалосак. Ставіць гусарскі вадэвіль "Сапраўдная гісторыя паручніка Ржэўскага" галоўны рэжысёр тэатра Сусана Цырук.**



*Артысты Віктар Цыркуновіч і Алег Прохараў у вобразах Абаленскага і паручніка Ржэўскага*

**Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ, фота Анжалікі Гракові ч**

**— Сусана Юр'еўна, п'еса пра паручніка Ржэўскага, напісаная расійскімі аўтарамі Алегам Соладам, Андрэем Максімкавым ды Ігарам Бедныхам, трапіла ў наш музычны тэатр не так даўно. І адразу ж была ўключана ў план пастановак на бліжэйшы час. Гэтак бывае рэдка, куды часцей аўтары гадамі чакаюць, каб іх твор быў пастаўлены. А тут усе загарэліся ідэяй і кінуліся яе ўвасабляць! Пэўна, матэрыял спадабаўся "з першага погляду"?**

— Так! Аўтары даслалі п'есу па электроннай пошце дырэктару нашага тэатра, Аляксандру Пятровічу. Ён прачытаў тэкст з вялікай цікавасцю і прапанаваў не марнуючы час узяцца за працу. Да таго ж, п'еса цудоўна раскладваецца на калектыў: з размеркаваннем на ролі ў мяне не было ніякіх праблем. Адразу вызначылася, што Ржэўскага будзе выконваць наш малады артыст Алег Прохараў, а карнета Абаленскага — Віктар Цыркуновіч. На ролю маці Ржэўскага мы запрасілі народную артыстку Беларусі Наталлю Гайду. Спецыяльна для яе персанажа дапісвалася любоўная лінія, якой у першапачатковым сюжэце не было. Мы папрасілі аўтараў прыдумаць рамантычную гісторыю для маці Ржэўскага і Базарава (бацькі каханай паручніка — Наталі) і стварыць сольны музычны нумар для Наталлі Гайды. Кампазітар Уладзімір Баскін адгукнуўся на нашу просьбу з вялікім задавальненнем. Ён пазнаёміўся з Наталляй Віктараўнай, усклікнуў: "Я усё зразумеў!" — і праз два дні ў нас ужо быў цудоўны раманс і тонка прапісаная лірычная лінія для гэтых персанажаў. І наогул, герояў "Сапраўднай гісторыі паручніка Ржэўскага" аб'ядноўвае тое, што ўсе яны мараць пра каханне. Толькі каханне кожны разумее па-свойму. Але ў выніку ўсе знаходзяць сваё шчасце. Яшчэ вельмі прыемна тое, што ўсе дамы ў гэтым спектаклі — чароўныя і абаяльныя. А мужчыны — мужныя ў самым лепшым сэнсе гэтага слова. Іх можна кахаць, захапляцца імі, дараваць ім маленькія недахопы.

**— Ці ёсць у вас у гэтым спектаклі ўлюбёны персанаж?**

— Напэўна, не. П'еса напісаная настолькі добра, што немагчыма камусьці з яе герояў аддаць перавагу. Усе яны раўназначныя, і ў спектаклі не будзе другасных роляў. Я сказала б, што для кожнага з артыстаў гэтая прэм'ера стане бенефіснай. Да таго ж, ім самім вельмі падабаецца матэрыял, таму рэпетыцыі праходзяць з добрым настроем і ў атмасферы весялосці.

**— Матэрыял сапраўды вельмі цікавы. Гэта цудоўная камедыя становішчаў, з дасціпнымі дыялогамі, дынамічным сюжэтам і хітовай музыкай расійскага кампазітара Уладзіміра Баскіна.**

— Дарэчы, п'еса даволі гульлівая, з мноствам падтэкстаў. Але тут я хацела б зняць капялюш перад аўтарамі: нават пры некаторай двухсэнсоўнасці пэўных тэкстаў, яны добра трымаюць ватэрлінію і не апускаюцца да пошласці. Рамантычныя сцэны чаргуюцца з востракамічнымі, а ў выніку — лёгкі займальны сюжэт. У спектаклі мы пастараемся адпавядаць аўтарскай задуме. А яшчэ ў такім выдатным ігравым матэрыяле важна захаваць баланс цвёрдай рэжысуры з добра падрыхтаванай акцёрскай імправізацыяй.

**— Як бы вызначылі вы асноўны пасыл новага спектакля?**

— Радасць! Я хачу, каб людзі выходзілі з глядзельнай залы са шчаслівымі ўсмешкамі на тварах. "Сапраўдная гісторыя паручніка Ржэўскага" атрымаецца цалкам пазітыўнай, а што датычыць фабулы спектакля, дык яна будзе проста нечаканая для гледачоў.

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі

Бібліятэчны сшытак

15 чэрвеня 2012 г.

# У сугуччы мінулага і будучага

**Вы лічыце, што музей і бібліятэка належаць да зусім розных катэгорый? У Магілёўскай абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна думаюць інакш. У 2011 годзе тут адкрыўся Музейны пакой гісторыі кнігі і бібліятэкі.**

**Галіна ДЗЯТЛАВА, галоўны бібліятэкар аддзела маркетынгу і бібліятэказнаўчай работы Магілёўскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна**

Багаты матэрыял з пісьмовых архіўных дакументаў, рэдкіх кніг і часопісаў, прадметаў матэрыяльнай культуры размешчаны ў тэматычных экспазіцыях: "Першыя крокі Ленінкі", "Сведкі мінулых часоў", "У памяці. У сэрцы. У кнігах" (забароненая літаратура), "На карысць справе" (метадычная дзейнасць), "Мінулае і сучаснасць бібліятэчнай справы вобласці" і інш.

Ладзяцца тут тэматычныя выстаўкі, прымеркаваныя да знамянальных дат і памятных падзей з жыцця краіны, рэгіёна, вядомых асоб. Пісьмовыя крыніцы дапаўняюцца музейнымі прадметамі, што служыць стварэнню гістарычнага каларыту і ўзмацненню эмацыянальнага ўздзеяння на наведвальнікаў.

Бібліятэкай рэгулярна арганізуюцца мерапрыемствы, прымеркаваныя і да дзяржаўных свят. Да прыкладу, у дзень Канстытуцыі адбылося ўрачыстае ўручэнне пашпартоў лепшым прадстаўнікам моладзі Магілёўшчыны. Юнакі і дзяўчаты атрымалі самы галоўны дакумент з рук старшыні Магілёўскага аблвыканкама Пятра Рудніка. Удзельнікі ўрачыстасцей наведалі Музейны пакой, дзе была арганізавана тэматычная экспазіцыя "Галоўны закон краіны", якая знаёміла не толькі з дзяржаўнымі сімваламі, але і з гісторыяй развіцця маладзёжнага руху краіны. Дапоўненая камсамольскімі атрыбутамі, у тым ліку асабістымі рэчамі 19-гадовага юнака, які загінуў у Афганскай вайне, выстаўка здолела перадаць патрыятычны настрой моладзі таго часу і выклікала сапраўдныя эмоцыі ў цяперашніх юнакоў і дзяўчат.

На базе Музейнага пакоя запланаваны шэраг мерапрыемстваў: тэматычныя экспазіцыі, прымеркаваныя да Дня роднай мовы "У вянок роднаму слову", Сусветнага дня кнігі "Книги — хранители вечности", Дня слоўнікаў і даведнікаў "Ад Даля да сучасных слоўнікаў", да юбілеяў друкаваных сацыяльна значных перыядычных выданняў: "Старонкі, родныя па духу" (газет "Звязда", "Літаратура і мастацтва", "Советская Белоруссия", часопіса "Полымя"). Цяпер тут арганізавана экспазіцыя "Цензурная история мировой литературы…", дзе прадстаўлены кнігі, забароненыя ў розны час у розных краінах па палітычных, сацыяльных, маральна-этычных і рэлігійных матывах. Цэнзура закранула і дзіцячую літаратуру: у СССР была забаронена казка К. Чукоўскага "Крокодил", а ў Кітаі — "Алиса в стране чудес" Л. Кэрала.




*Фрагмент выстаўкі "Цензурная история мировой литературы".*

Адкрыццё Музейнага пакоя гісторыі кнігі і бібліятэкі дало штуршок для стымулявання творчасці супрацоўнікаў не толькі абласной бібліятэкі: у снежні мінулага года падобны музейны куток пачаў дзейнічаць у Хоцімскай цэнтральнай раённай бібліятэцы.

# «Існасць» — шлях да Бога

Ужо дзявяты год Івянецкая гарпасялковая бібліятэка (Валожынскі раён) працуе па праграме "Існасць". Яе мэта — маральна-духоўнае выхаванне моладзі і падлеткаў. Працэс духоўнага выхавання пабудаваны на вывучэнні кніг "Закон Божы", "Дзіцячая біблія", "Купель", газет "Царкоўнае слова", "Преображение", часопісаў "Алеся", "Гаспадыня" і інш. Выкарыстоўваецца работа з друкаванымі выданнямі, праводзяцца інфармацыйныя рэвю і дайджэсты, агляды па старонках перыёдыкі, якая паступае ў бібліятэку.

Праграма "Існасць" прадугледжвае і розныя цікавыя сустрэчы ды мерапрыемствы:

пры бібліятэцы створаны і пастаянна дзейнічае маральна-духоўны інфармацыйны цэнтр "Дарога да Храма". Тут можна знайсці літаратуру пра храмы і святыя мясціны раёна, Беларусі, свету;

кнігі і друкаваныя выданні па пытаннях адносін у хрысціянскай сям'і, мацярынства, выхавання дзяцей і г.д.;

кнігі пра лёс і творчасць асоб, якія прысвяцілі сваё жыццё служэнню Богу і людзям;

інфармацыю пра час святкавання, традыцыі, значэнне таго ці іншага свята для вернікаў;

выданні мастацкай і папулярнай літаратуры хрысціянскага зместу, звесткі пра юбілеі пісьменнікаў, паэтаў і іх кнігі, цікавыя артыкулы з перыядычных выданняў.

Фонд бібліятэкі пастаянна папаўняецца выданнямі духоўнага напрамку.

**Святлана КЛІМАШЭЎСКАЯ**

# Галерэя з энергетыкай

**У маі гэтага года сталічная мастацкая галерэя "VILNIUS" пры бібліятэцы № 18 адзначыла 15 гадоў з дня адкрыцця.**

**Кацярына ЗВЕРАВА**

Упершыню дзверы галерэі адчыніліся 31 мая 1997 года. Гэта была выстаўка вядомых беларускіх мастакоў Марыны і Мікалая Ісаёнкаў. Хросным бацькам галерэі лічыцца народны мастак Беларусі Аляксандр Кішчанка, які быў натхняльнікам стварэння галерэі ў бібліятэцы. З тых часоў шмат чаго тут змянілася. Так, першапачаткова доўгая і вузкая выставачная зала ператварылася ў даволі шырокае светлае памяшканне — зручную прастору для знаёмства з прадстаўленымі працамі. Акрамя таго, галерэя пастаянна знаходзілася ў пошуку сваёй індывідуальнай канцэпцыі. У першую чаргу "VILNIUS" адкрыта для пачынаючых мастакоў. Яны ўжо вартыя таго, каб пазнаёміць са сваёй творчасцю гледачоў, але выстаўляцца ў дарагіх сталічных залах ім яшчэ рана. За 15 гадоў працы тут зрабілі свае першыя персанальныя выстаўкі такія мастакі, як Іван Рамановіч, Яўген Бахар, Андрэй Бондараў і многія іншыя. Але акрамя маладых аўтараў выстаўляліся і добра вядомыя беларускія мастакі, сярод якіх Алесь Марачкін, Леанід Леўчанка, Леанід Гандыш, Віталь Чарнабрысаў.



*У экспазіцыі — творы маладых мастакоў.*

За гады працы ў галерэі сфарміравалася унікальная калекцыя работ, якая прадстаўляе ўсе напрамкі і стылі беларускага сучаснага жывапісу. З гэтай калекцыяй можа пазнаёміцца кожны наведвальнік бібліятэкі і галерэі. Лепшыя працы з калекцыі прадстаўлены ў памяшканні чытальнай залы бібліятэкі як выстаўка, што дзейнічае ўвесь час. Вельмі прыемна тое, што ў калекцыі знаходзяцца адны з першых прац тых мастакоў, якія, на сённяшні дзень прызнаныя майстры не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі, з'яўляюцца членамі Беларускага саюза мастакоў і Міжнароднай гільдыі мастакоў.

Але галоўнай асаблівасцю галерэі з'яўляецца тое, што яна знаходзіцца ў бібліятэцы. Спачатку такі саюз можа здацца дзіўным. Кнігі і карціны: што тут агульнага? Але практыка паказала, што такое ўзаемадзеянне толькі дапаўняе і ўзбагачае дзейнасць і галерэі, і бібліятэкі. Так, на базе галерэі "VILNIUS" працуе Школа эстэтычнага выхавання, у рамках якой супрацоўнікі бібліятэкі праводзяць мерапрыемствы па гісторыі мастацтва, урокі па асновах тэорыі жывапісу, дапаўняючы тэарэтычны матэрыял дэманстрацыяй жывых палотнаў з калекцыі галерэі. Акрамя таго, "VILNIUS" — месца пастаянных сустрэч не толькі з мастакамі, але і з паэтамі, празаікамі. Тут праходзяць творчыя вечары, гучаць вершы і музыка. У наведвальнікаў ёсць унікальная магчымасць далучыцца да самых галоўных духоўных багаццяў, створаных людзьмі, да літаратуры і жывапісу.

У гонар 15-годдзя ў галерэі адбылася святочная сустрэча, у якой узялі ўдзел сябры "VILNIUS" — мастакі, мастацтвазнаўцы, пісьменнікі: Валянціна Паліканіна, Віталь Чарнабрысаў, Марыя і Мікалай Ісаёнкі, Галія Фатыхава і шмат іншых. У самой зале экспанавалася выстаўка маладых беларускіх мастакоў Юрыя Яскевіча, Дзмітрыя Пятроўскага і Аляксея Заікіна "Спыніцца час".

У планах шмат творчых праектаў. Будзем спадзявацца, што яшчэ з многімі цікавымі аўтарамі пазнаёміць нас гэтая ўтульная галерэя, пра якую адной так сказаў мастак Іван Рамановіч: "У гэтай галерэі ёсць свая прыемная энергетыка. Прыемныя людзі там працуюць, рабіць выстаўку там проста задавальненне, якое хочацца не адзін раз яшчэ адчуць".

# Выхававаць любоўю

Дзіцячая бібліятэка № 5 запрасіла на сустрэчу маленькіх чытачоў і іх бацькоў — каб дапамагчы знайсці цікавы занятак.

Невыпадкова на выстаўцы ў бібліятэцы былі прадстаўлены дзіцячыя кнігі і цікавыя казкі. А яшчэ — календарыкі розных часоў: ад 80-х гадоў мінулага стагоддзя да сучаснасці. Магчыма, хто-небудзь з наведвальнікаў зацікавіцца зборам паштовак ці календароў.

Пра сваё хобі — стварэнне лялек па матывах любімых дзіцячых казак і "мульцяшных" герояў — распавядае Іраіда Сітнікава:

— Ілюстрацыі ў кнізе і мульцікі — гэта штуршок для з'яўлення натхнення. Лялькі робіцца з розных матэрыялаў: тканіны, паралону, каляровых нітак, гузікаў. Інакш кажучы, з таго, што трапіць у рукі. Галоўнае — каб усё было створана з любоўю і шчырасцю. Нездарма ў кожным мульціку — свой герой, са сваім характарам, сваімі рысамі — быццам бы адлюстраванне дзіцячага позірку на жыццё.

Хто ў гэтым дапаможа? Канечне, бацькі, якія, упэўнена, успомнілі і пра свае колішнія захапленні ды натхніліся на сумесную творчасць.

**Кацярына БЯДУЛІНА**

# «Кнігазборы» сустрэліся ў Брэсце


Намесніку дырэктара Брэсцкай абласной бібліятэкі А. Мяснянкінай копію плана Белавежскай пушчы перадае К. Шчарбакова.

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ,
фота Мікалая Чаберкуса

**Адной з найбольш значных падзей гэтага года ў айчынным бібліятэчным свеце стала ІІ міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Берасцейскія кнігазборы: праблемы і перспектывы даследавання", якая прайшла ў горадзе над Бугам дзякуючы Брэсцкай абласной бібліятэцы імя Максіма Горкага і ўпраўленню культуры Брэсцкага аблвыканкама.**

## Адкуль выток, адкуль натхненне?

Першая па ліку канферэнцыя, якая мела гэткую ж назву, што і сёлета ("Берасцейскія кнігазборы: праблемы і перспектывы даследавання") прайшла ў Брэсце ў кастрычніку 2008 года. Па выніках яе працы ў 2010-м выйшаў зборнік матэрыялаў. Наступным крокам у справе вывучэння кнігазнаўства рэгіёна стала стварэнне пад эгідай Нацыянальнага камітэта па справах ЮНЕСКА электроннага рэсурсу "Кнігазбор рода Сапег" (Мінск, 2011), да з'яўлення якога спрычыніліся Расійская нацыянальная бібліятэка (Санкт-Пецярбург) і Нацыянальная бібліятэка Беларусі. Вызначэнне далейшых напрамкаў навуковай і практычнай дзейнасці ў галіне кнігазнаўства паспрыяла арганізацыі другіх па ліку "Кнігазбораў".

Сёлета форум атрымаўся надзвычай прадстаўнічым. Калі кіравацца сухой статыстыкай, у "Кнігазборах" узялі ўдзел 60 навукоўцаў з Беларусі, Украіны, Расіі, Польшчы, Літвы і Казахстана. За дзень да пачатку канферэнцыі ў музеі "Выратаваныя мастацкія каштоўнасці", што з'яўляецца філіялам Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея, адбылося адкрыццё выстаўкі каліграфії Генадзя Мацура "Рукатворы". Вядомы беларускі дызайнер і каліграф, ён аформіў шэраг выданняў, у тым ліку зборнік дакладаў з першых "Кнігазбораў" і "Гісторыю беларускай кнігі" (гаворка пра апошнюю чакае чытачоў ніжэй). Але галоўныя падзеі з удзелам навукоўцаў адбыліся на наступны дзень.

## Прывітанні… і падарункі

Адной з беларускіх традыцый з'яўляюцца прывітанні ад імя высокіх дзяржаўных асоб у адрас удзельнікаў палітычных, эканамічных і культурных мерапрыемстваў. "Берасцейскія кнігазборы" не сталі выключэннем. Ад імя Брэсцкага абласнога выканаўчага камітэта гасцей Берасцейшчыны, што сабраліся 1 чэрвеня на пленарнае пасяджэнне, павітаў намеснік старшыні аблвыканкама Леанід Цупрык, ад імя Генеральнага консульства Расійскай Федэрацыі ў Брэсце — консул-саветнік Юрый Бачкароў, ад імя Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА — яе старшыня Уладзімір Шчасны. Уладзімір Рыгоравіч падрабязна ахарактарызаваў дзейнасць сваёй арганізацыі ў бібліятэчнай сферы.

Даклад Рамана Матульскага меў назву "Книгопечатание и библиотечное дело в Западных регионах Беларуси в 1921 — 1939 гг.". На думку дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі краіны, у асвятленні гэтай тэмы дамінуюць дзве крайнасці: уяўленні, што польская ўлады нічога не рабілі для мясцовага насельніцтва, і адваротная сітуацыя — меркаванні, што яны рабілі ўсё для росквіту краю. Але дагэтуль тэма, заяўленая ў даклад, застаецца белай плямай, а звесткі — прыблізныя. Напрыклад, па звестках польскіх даследчыкаў у другой Рэчы Паспалітай у той час існавала каля 566 выдавецтваў, якія распаўсюджвалі сваю прадукцыю ў тым ліку на нашай тэрыторыі. У Заходняй Беларусі за два дзесяцігоддзі выйшла да 500 кніг на беларускай мове. Тыя ж цяжкасці сустракаюцца ў дачыненні да бібліятэк. У другой Рэчы Паспалітай іх дзейнічала каля 4 тысяч, з іх у Беларусі прыкладна 1,5 тысячы. Р.Матульскі заклікаў бібліятэкараў Берасцейшчыны вывучаць гісторыю сваіх устаноў, паколькі, на яго думку, гісторыю могуць пісаць толькі тыя, каму яна належыць.

Дырэктар Нацыянальнай кніжнай палаты Алена Іванова прапанавала слухачам выступленне на тэму "Брестский регион в зеркале государственной библиографии и статистики печати". Паводле яе меркавання, бібліяграфія з'яўляецца люстэркам, якое адлюстроўвае культуру, палітыку і інтэлект нацыі. Аналізуючы мінулую пяцігодку (2007 — 2011), А.Іванова канстатавала, што адбылося станаўленне сучаснай выдавецкай сістэмы, якая на 80 працэнтаў складаецца з камерцыйных устаноў. Аднак у бліжэйшы час у гэтай сферы могуць адбыцца змены. У прыватнасці, падрыхтаваны праекты законаў "Аб выдавецкай справе" і аб падтрымцы нацыянальнага кнігавыдання. Дырэктар Нацыянальнай кніжнай палаты звярнула ўвагу на супадзенні і адрозненні ў выдавецкай справе паміж Брэсцкай вобласцю і ўсёй Беларуссю. Напрыклад, за апошнія пяць гадоў па краіне адбывалася змяншэнне колькасці выдаваемых кніг. А вось на Берасцейшчыне, наадварот, назіралася іх павелічэнне. Што да накладаў, то ў абодвух выпадках мела месца іх падзенне. Зрэшты, на думку А. Івановай, карэктна казаць пра інфляцыю назваў, калі колькасць назваў прамерна перавышае наклады.

Тэма выступлення загадчыка аддзела рэдкіх кніг Расійскай нацыянальнай бібліятэкі Мікалая Нікалаева была пазначана так: "Род Сапегаў як феномен беларускай культуры". Зварот да праблематыкі тлумачыўся праблемным полем канферэнцыі і імкненнем некаторых прадстаўнікоў айчыннай інтэлектуальнай эліты аспрэчыць прыналежнасць Сапегаў да беларускай гісторыі. Для гэтага выступоўца свядома адмовіўся ад акадэмічнай манеры выкладання і прапанаваў слухачам гісторыю пра чараўніцтва, якая адбылася ў 1624 годзе ў Слоніме. Яе сюжэт, варты клавіятуры лепшых айчынных дэтэктыўшчыкаў, у чарговы раз пацвердзіў непарыўную сувязь паміж славутым магнацкім родам і Беларуссю.

У адрозненне ад свайго калегі, прафесар Інстытута навуковай інфармацыі і бібліятэказнаўства Вроцлаўскага ўніверсітэта Кшыштаф Міган захаваў у сваім дакладзе "Регинальное книговедение — типология и исследовательские программы" вернасць акадэмічнай манеры.

Выступленне загадчыка кафедры фізікі Брэсцкага дзяржаўнага тэхнічнага ўніверсітэта Анатоля Гладышчука пачалося сімвалічна. Кожны з членаў прэзідыума атрымаў у падарунак галінку дрэва, паколькі менавіта ад бераста (віду вяза), магчыма, пайшла назва горада. Выступленне "9 приоритетов Берестья XVI — XVII вв." было прысвечана адметнасцям горада: замку, ратушы, аптэцы... А.Гладышчук распавёў прысутным, як ён, выкарыстоўваючы метады сваёй навукі, высветліў месцазнаходжанне асобных аб'ектаў.

Эфектнай кропкай у пленарным пасяджэнні стала выступленне дацэнта кафедры грамадска-гуманітарных дысцыплін Маскоўскай школы эканомікі МДУ Кацярыны Шчарбаковай. Даследчыца падарыла Брэсцкай абласной бібліятэцы копію плана Белавежскай пушчы 1858 года з фондаў Дзяржаўнага гістарычнага музея горада Масквы.


Выступае намеснік старшыні Брэсцкага аблвыканкама Леанід Цупрык.

## Вяртаемся ў гісторыю

Пасля абедзеннага перапынку ў рамках канферэнцыі адбылася прэзентацыі дзвюх кніг: Рамана Матульскага "Из прошлого в будущее. Библиотеки Беларуси" (частка 1, Мінск, 2011) і Мікалая Нікалаева "Гісторыя беларускай кнігі" (том 2, Мінск, 2011). Заўважу, што ў ролі вядучага мерапрыемства бліскуча выступіў брэсцкі гісторык Аляксандр Вабішчэвіч, загадчык кафедры славянскіх народаў Брэсцкага ўніверсітэта імя А. Пушкіна.

Сваім даследаваннем Р. Матульскі пачаў займацца ў той час, калі заканчвалася будаўніцтва Нацыянальнай бібліятэкі. Паводле прызнання дырэктара ўстановы, яму хацелася "адысці ад бетону" і зноў вярнуцца да навукі. Спярша даследчык імкнуўся даследаваць мадэль сучаснай бібліятэчнай сістэмы. Але неўзабаве прыйшоў да высновы, што працу неабходна пачаць з гісторыі. Р. Матульскі планаваў прысвяціць ёй невялікую главу. Але паступова яна вырасла ў раздзел, а потым у кнігу. Кніга пісалася для замежнай аўдыторыі, каб за мяжой усвядомілі нашу багатую кніжную спадчыну. Цікава, што падчас напісання кнігі Р. Матульскі склаў спіс нераспрацаваных пытанняў. Атрымаўся спіс з 500 тэм, якія даследчык распаўсюдзіў па вышэйшых навучальных установах. На думку дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі, пытанні могуць стаць арыенцірам для будучых дыпломных, магістарскіх прац, дысертацыйных даследаванняў.

Мікалай Нікалаеў прызнаўся, што першы том "Гісторыі беларускай кнігі" фактычна быў напісаны з-за Вацлава Ластоўскага. Як вядома, апошні адносіў да беларускай кніжнай спадчыны толькі кірылічныя выданні. М.Нікалаеў імкнуўся пашырыць гэтыя межы. Паводле яго слоў, з праектам ён прыйшоў у выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі". Але супрацоўнікі ўстановы сказалі, што сівая даўніна будзе цікавая вельмі вузкаму сегменту чытачоў. М. Нікалаеў узяў паўзу і патэлефанаваў Ларысе Доўнар, вядомаму айчыннаму кнігазнаўцу, дацэнту Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. Прапанова гучала наступным чынам: ажыццявіць праект "Гісторыя беларускай кнігі", які б ахопліваў перыяд ад даўніны да сучаснасці. У працэсе напісання высветлілася, што некаторыя аспекты абсалютна нераспрацаваныя. Таму суаўтары звярнуліся да Рамана Матульскага, вядомага знаўцы бібліятэчнай гісторыі.

Першы том, які напісаў сам М.Нікалаеў, быў прысвечаны кніжнай культуры ВКЛ. Другі, створаны рэдакцыйным калектывам, — беларускай кніжнай культуры ад часу ўваходжання Беларусі ў склад Расійскай імперыі да нашых дзён. Ужо ў працэсе напісання даследчыкі зразумелі, што ХІХ стагоддзю павінен быць прысвечаны асобны том. Але цягнік пайшоў. Таму, па словах М. Нікалаева, атрымалася так, як атрымалася.

Ролю двух даследчыкаў у айчыннай навуцы найлепш акрэсліў літаратуразнаўца Генадзь Праневіч з Брэсцкага ўніверсітэта імя А.С.Пушкіна. Паводле яго, Р. Матульскі з'яўляецца акадэмічным вучоным са стылем менеджара, які ўмее сказаць складанае проста, не страціўшы галоўнае. А М. Нікалаеў быў ахарактарызаваны як сур'ёзны вучоны, але адначасова і рамантык. На маю думку, лепш і не скажаш.

## Ад Крашэўскага да Сапегаў

Далейшая праца адбывалася ў некалькіх кірунках. Перш за ўсё, працавалі тры секцыі: "Кніжная спадчына Беларусі", "Кніга і кніжная справа на Берасцейшчыне ў XIX — XX ст." і "Выданні Берасцейшчыны XVI — XVIII ст.". Адначасова ў рамках "Кнігазбораў" праходзіла пасяджэнне міжнароднага савета праекта "Віртуальная рэканструкцыя спадчыны Ю.Крашэўскага", матэрыялы якога будуць прадстаўлены ў бліжэйшым выпуску "Бібліятэчнага сшытка".

У наступны дзень, 2 чэрвеня, геаграфія канферэнцыі істотна пашырылася. Удзельнікі "Берасцейскіх кнігазбораў" завіталі ў Івацэвіцкі раён, дзе наведалі музей-сядзібу Тадэвуша Касцюшкі ў Марачоўшчыне, а таксама аглядзелі Косаўскі палац. А потым пераехалі ў Ружаны, дзе адбылася экскурсія па мястэчку і Ружанскім палацы. Калі сцісла перадаць свае ўражанні, у іх будзе дамінаваць стрыманы аптымізм. З аднаго боку, сітуацыя з'яўляецца куды больш аптымістычнай, чым яна выглядае з Мінска. Больш за тое, бачна імкненне мясцовай улады зрабіць усё магчымае для аднаўлення будынкаў мінулага. Але, з другога боку, відавочна, што сапраўдная праца толькі пачалася. І нас чакае доўгая дарога да ідэальнай сітуацыі, пры якой мы ўбачым цалкам адрэстаўраваныя аб'екты і развітую турыстычную інфраструктуру вакол іх.

У той жа дзень у Ружанах адбылася праца секцыі "Кнігі і бібліятэкі роду Сапегаў", падчас якой свае даклады прадставілі даследчыкі з Польшчы, Расіі і Літвы. Напрыклад, Станіслаў Мірскі, гісторык-аспірант з Валгаграда, выявіў у архіве лісты Яна Паўла Сапегі да Ілжэдзмітрыя ІІ, што дазволіла па-новаму інтэрпрэтаваць некаторыя падзеі расійскай Смуты пачатку XVII стагоддзя. А дацэнт Вільнюскага ўніверсітэта Альма Бразюнене пазнаёміла прысутных з новымі знаходкамі, якія датычаць ружанскай бібліятэкі Сапегаў. Нягледзячы на тое, што ў 2010 годзе выйшаў каталог калекцыі Віленскага ўніверсітэта, даследчыца знайшла яшчэ 8 (!) выданняў у бібліятэках Усходняй Еўропы. У выніку агульная колькасць павялічылася з 289 да 297.

## Падвядзём вынікі?

Другія "Берасцейскія кнігазборы" завяршыліся. Неўзабаве даследчыкі і чытачы, што цікавяцца кніжнай справай, змогуць пазнаёміцца са зборнікам, куды ўвойдуць даклады і паведамленні. У перспектыве Брэсцкая абласная бібліятэка збіраецца арганізаваць наступныя, трэція па ліку "Кнігазборы".

Як малады даследчык, які мае пэўны досвед, прызнаюся чытачам па сакрэце: далёка не ўсе навуковыя мерапрыемствы, што праходзяць па ўсім свеце (і Беларусь не можа быць выключэннем), маюць адпаведны ўзровень. Час ад часу даводзіцца сутыкацца і з псеўданавуковымі дакладамі, і з пустымі размовамі, і з сітуацыяй, калі навукоўцы выступаюць з адным і тым жа дакладам у чарговы раз або зноў знаёмяць прысутных са сваімі дысертацыйнымі даследаваннямі.

У гэтай сувязі хацелася б нагадаць чытачам пра тэорыю "малых спраў". Яе апалагеты настойваюць, што кожны павінен сумленна рабіць сваю працу. Такія "маленькія" справы калі-небудзь аб'ядноўваюцца і стануць дамінаваць у грамадстве. Відавочна, што па ўзроўні ўдзельнікаў, навізне даследаванняў, актуальнасці праблематыкі і нават па арганізацыі канферэнцыя "Берасцейскія кнігазборы" дадуць фору шэрагу падобных мерапрыемстваў. На маю думку, калі ў іншых месцах будуць працаваць так, як гэта робіцца ў горадзе над Бугам, сітуацыя ў айчыннай кніжнай справе і кнігазнаўстве паступова зменіцца да лепшага.

# Адшукаць Шчорсаўскія скарбы

**Ірына ЦАРУК,
намеснік дырэктара
Навагрудскай ЦБС**

**Першыя Шчорсаўскія чытанні па тэме "Развіццё бібліятэчнай справы на Гродзеншчыне. Дзяржаўныя і прыватныя зборы" прайшлі ў Навагрудскім раёне. Арганізатарамі выступілі ўпраўленне культуры Гродзенскага аблвыканкама, Навагрудскі райвыканкам, Гродзенская абласная навуковая бібліятэка імя Я. Карскага, Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы, Навагрудская цэнтралізаваная бібліятэчная сістэма.**

Штуршком для правядзення чытанняў у Шчорсах стала абвяшчэнне Года кнігі ў Беларусі. Нельга забывацца, што Шчорсы ў XVIII — XIX стагоддзях былі сапраўдным культурным цэнтрам са знакамітай на абшарах былога Вялікага Княства Літоўскага бібліятэкай, у якой у розныя часы захоўвалася ад 9 да 20 тысяч кніг, манускрыптаў, рукапісаў, карт. Меліся калекцыі археалагічных знаходак і карцін. Сам маёнтак прываблівaў дасканалымі архітэктурнымі формамі, прыгожым паркам і ўнікальнай аранжарэяй. Ды і сёння Шчорсы — гэта маляўнічы, прыгожы куток, дзе пануе дух шляхетнасці і інтэлігентнасці, дзе моцная гаспадарка і гасцінныя людзі, якія для ўдзельнікаў чытанняў стварылі атмасферу свята.

У Шчорсаўскіх чытаннях бралі ўдзел прадстаўнікі ўлады, супрацоўнікі бібліятэк, музеяў, настаўнікі, выкладчыкі вышэйшых і сярэдніх спецыяльных устаноў адукацыі, грамадскасць. Ва ўрачыстай абстаноўцы навагрудчане віталі гасцей з Мінска, Беластока, Гродна. З прывітальным словам выступіла намеснік старшыні Навагрудскага райвыканкама Алена Ермакова.



*Выступае намеснік старшыні навагрудскага райвыканкама А. Ермакова.*

Навуковыя супрацоўнікі з Гродна і Мінска распавялі пра свае грунтоўныя даследаванні па тэме. Акцэнт быў зроблены на ролі Іаахіма Храптовіча ў асветніцкіх працэсах і сацыяльна-гаспадарчых уяўленнях у маёнтку Шчорсы. Гаворка ішла пра першыя медыцынскія бібліятэкі на Гродзеншчыне і першую публічную бібліятэку ў Навагрудку, якая размяшчалася ў будынку былой Дамініканскай школы. Цікавымі атрымаліся даклады пра ланкастэрскія школы, адна з якіх працавала і ў Шчорсах, пра фонды роду Сапегаў, першыя газеты Навагрудчыны, выданні Гродзенскай губернскай друкарні, што захоўваюцца ў фондах Гродзенскай абласной бібліятэкі. Госці наведалі рэшткі былога графскага палаца, царкву Дзмітрыя Салунскага, Свята-Елісееўскі Лаўрышаўскі манастыр, Навагрудскі замак.

Падчас чытанняў працавала выстаўка народна-прыкладнога мастацтва "Творчасць маіх землякоў". Прыцягвала ўвагу прысутных галерэя інтэлектуальнай спадчыны "Шчорсаўскія скарбы", дзе дэманстраваліся кніжныя, часопісныя выданні, фотаздымкі, прысвечаныя гісторыі Шчорсаў. Прадстаўленыя выдавецкія працы Навагрудскай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы дазволілі пазнаёміцца з арыгінальным падыходам да збору матэрыялаў па краязнаўстве, іх сістэматызацыі і выкарыстанню бібліяграфічнай прадукцыі для папулярызацыі раёна.

На думку дырэктара Падляшскай ваяводскай бібліятэкі Яна Леанчука, фонды буйных бібліятэк Беларусі, Літвы, Польшчы стануць даступнымі любому жыхару нашых краін, нягледзячы на межы. Старшыня Шчорсаўскага сельсавета Генрых Лукоўскі выказаў спадзяванне, што чытанні паспрыяюць пошуку інвестара, які здолее ўдыхнуць жыццё ў былы палац Храптовічаў.

Наступныя "Шчорсаўскія чытанні" пройдуць праз два гады, а Навагрудскай цэнтральнай раённай бібліятэцы за гэты час можа быць прысвоена імя Іаахіма Літавора Храптовіча.

# Пуцявінамі мастака

**Наталля МАЕЎСКАЯ,
метадыст Бярэзінскай ЦБС,
фота аўтара**

У Бярэзінскай раённай бібліятэцы адбылася прэзентацыя кнігі "Валенцій Ваньковіч" з серыі "Слаўтыя мастакі Беларусі".

Мерапрыемства прайшло па прапанове Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь і яго філіяла "Дом Ваньковічаў. Культура і мастацтва першай паловы XIX стагоддзя" на базе школы мастацтваў горада. Прэзентацыя была прысвечана вядомаму мастаку В. Ваньковічу, які нарадзіўся 12 мая 1800 года ў маёнтку Калюжыца Бярэзінскага раёна і быў першынцам у сям'і павятовага суддзі Мельхіёра Ваньковіча і Схаластыкі, сястры паэта Антона Гарэцкага, апальнага пасля паўстання 1830 года. Акрамя кнігі наведвальнікам былі прадстаўлены рэпрадукцыі карцін В. Ваньковіча "Аўтапартрэт" (да 1840 г.), "Партрэт жонкі мастака з дзецьмі" (1834 г.), прывезеныя з мінскага Дома Ваньковічаў, а таксама відэафільм "Валенцій Ваньковіч. Шлях мастака". Удзел у прэзентацыі ўзялі дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь Уладзімір Пракапцоў — аўтар ідэі, каардынатар праекта, Анжэла Самасейка — прадстаўнік выдавецтва "Беларусь", якое ажыццявіла выданне, Наталля Сычова — аўтар і складальнік альбома, загадчык філіяла музея імя В. Ваньковіча, Уладзімір Слабодчыкаў — скульптар, загадчык кафедры скульптуры Беларускай акадэміі мастацтваў, аўтар праекта бюста слыннага мастака, які плануецца ўсталяваць каля Школы мастацтваў у Беразіне, Ірына Дорахава — архітэктар-рэстаўратар, аўтар праекта сядзібы Ваньковічаў, што ў Мінску. Госці сустрэчы распавялі прысутным пра ход работы над кнігай, пра рэканструкцыю сядзібы-музея ў Мінску, пра скульптурную кампазіцыю "Ранак мастака", устаноўленую на тэрыторыі каля музея імя В. Ваньковіча, падзяліліся ўласнымі думкамі і пачуццямі, звязанымі з постаццю таленавітага жывапісца, аднаго з самых яркіх рамантыкаў у беларускім мастацтве XIX ст. Прыемным падарункам для Бярэзінскай бібліятэкі стала кніга Таісы Карповіч "Культурнае жыццё Мінска першай паловы XIX стагоддзя", у якой асобны раздзел прысвечаны рамантыку В. Ваньковічу. А саму кнігу "Валенцій Ваньковіч" змаглі набыць усе бібліятэчныя ўстановы Бярэзінскай ЦБС.



*Дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Уладзімір Пракапцоў.*

Завяршыў мерапрыемства канцэрт, падрыхтаваны выхаванцамі і выкладчыкамі Бярэзінскай школы мастацтваў.

# У кніжніцы разам — па-беларуску!

**Анжаліка КАРЗАНАВА,
намеснік дырэктара
Цэнтралізаванай сістэмы дзіцячых
бібліятэк г. Мінска**

**У 2010 годзе рэдакцыі часопісаў "Бібліятэка прапануе" і "Бярозка" абвясцілі рэспубліканскую акцыю "Чытаем па-беларуску!". Трэці год дзіцячыя бібліятэкі актыўна ў ёй удзельнічаюць.**

У красавіку 2011 года часопіс "Вясёлка" распачаў акцыю "Чытаем разам". Стартавала яна ў Дзяржынску, потым былі Мёрскі, Рэчыцкі, Барысаўскі раёны. Сёлета юныя чытачы сталіцы атрымалі эстафету менавіта ад горада Барысава. Дзіцячыя бібліятэкі аб'ядналі дзве акцыі і атрымалі адну назву — "Чытаем разам, чытаем па-беларуску!".

Задзейнічаны ўсе дзіцячыя бібліятэкі сталіцы, сотні бібліятэкараў, тысячы чытачоў. Складзена ўнікальная праграма, прысвечаная 130-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы. 11 красавіка 2012 г. ва ўсіх 18 дзіцячых бібліятэках праведзены чытанні вершаў Янкі Купалы.

У красавіку 2012 г. эстафета праходзіла ў Слуцкім раёне. У Нацыянальным цэнтры творчасці дзяцей і моладзі дзіцячымі бібліятэкарамі сталіцы была арганізавана тэатралізавана-гульнёвая імпрэза "Беларускі геній — Янка Купала". Дзецям было прапанавана падарожжа па кнізе Уладзіміра Ліпскага "Янкаў вянок" і па дзіцячых бібліятэках. На маршруце было пяць прыпынкаў. Кожны з іх прэзентаваў дзіцячыя бібліятэкі па раёнах Мінска і частку кнігі "Янкаў вянок" праз прызму свайго бачання. Беларускія пісьменнікі Н. Галіноўская, А. Зэкаў, А. Масла, Н. Бучынская, У. Мацвеенка, Р. Малахоўскі, У. Ліпскі ўручылі падзякі і памятныя падарункі, падрыхтаваныя супрацоўнікамі 18 дзіцячых бібліятэк для лепшых чытачоў, якія любяць, шануюць і чытаюць кнігі на роднай мове.

Напрыканцы свята, дырэктар цэнтралізаванай сістэмы дзіцячых бібліятэк г. Мінска Таццяна Швед перадала Слуцкай дзіцячай бібліятэцы 55 зваротаў чытачоў дзіцячых бібліятэк сталіцы да дзяцей.

У свяце ўзялі ўдзел шматлікія творчыя калектывы: фальклорны гурт "Мілавіца", узорны харэаграфічны ансамбль "Дитя Мира" з народнымі танцамі "Крутуха", "Мітусь", салістка ўзорнага аркестра эстрадна-сімфанічнай музыкі Паліна Гарбар, Заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь ансамбль песні і танца "Зорачка", творчая майстэрня "Трыумф" з песняй "Беларусь мая".

Акцыя ў падтрымку беларускай кнігі крочыць далей па Беларусі.

# Малая радзіма — Рудзенск

**Таццяна АЛЕКСАНДРОВІЧ,
загадчык аддзела
Пухавіцкай ЦБ**

У Пухавіцкай цэнтральнай бібліятэцы прайшла літаратурна-паэтычная імпрэза з нагоды 80-годдзя з дня нараджэння беларускага паэта, ураджэнца Пухавіччыны Генадзя Кляўко, падрыхтаваная сумесна з Пухавіцкім краязнаўчым музеем. Увазе прысутных была прапанавана кніжная выстаўка "Наш слаўуты зямляк", на якой прадстаўляліся творы паэта і кнігі з біяграфічнымі звесткамі пра яго жыццё і творчасць. Да сустрэчы быў выдадзены буклет "Шчыры руплівец", які знаёміць з жыццёвым і творчым шляхам Генадзя Кляўко, змешчаны вершы нашага земляка пра сваю малую радзіму — Рудзеншчыну, фотаздымкі з сямейнага архіва.

У імпрэзе ўзялі ўдзел настаўнікі і бібліятэкары раёна, навучэнцы Мар'інагорскага аграрна-тэхнічнага каледжа, аматары паэзіі, якія наведваюць літаратурныя клубы пры бібліятэках.

У госці да пухавічан, каб аддаць даніну памяці і павагі Генадзю Кляўко, прыехалі паэт, сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзь Пашкоў, першы намеснік старшыні праўлення Мінскай абласной арганізацыі Беларускага таварыства "Веды" Ігар Лінкін, галоўны рэдактар часопіса "Вожык", у якім доўгі час працаваў паэт, Юлія Зарэцкая. Яны падзяліліся сваімі ўспамінамі пра Генадзя Кляўко, таленавітага паэта, жыццёвы шлях якога доўжыўся ўсяго 47 гадоў і які быў шчыра аддадзены паэзіі. Успаміналі паэта і як гасціннага шчодрага гаспадара, вернага сябра, дасціпнага, далікатнага, ураўнаважанага чалавека.

На сустрэчу прыехалі родныя і блізкія Генадзя Кляўко: сястра паэта Іна Кляўко, жонка Яніна Іосіфаўна, сын Артур і дачка Марына. Яны выказалі словы падзякі прысутным за памяць пра бацьку, прапаганду яго творчасці.

Галоўны рэдактар часопіса "Вожык" Ю. Зарэцкая падаравала бібліятэцы кнігі гумарыстычных вершаў і мініяцюр Генадзя Кляўко "Лайдак і кнопкі" выдання 1964 г. і "Што не праўда, то не грэх…" 1971 года. Гэта сапраўдныя рарытэты, якія будуць захоўвацца ў краязнаўчым фондзе Пухавіцкай цэнтральнай раённай бібліятэкі, як і святочны нумар часопіса "Вожык", прысвечаны 80-годдзю паэта. Ад Саюза пісьменнікаў Беларусі бібліятэка атрымала ў падарунак падборку кніг беларускіх аўтараў, шмат якія з іх — з аўтографамі пісьменнікаў.

**Ірына Хілюціч, супрацоўніца Жодзінскай цэнтральнай раённай бібліятэкі, пачала збіраць міні-кнігі яшчэ ў студэнцкія гады, натхніўшыся прыкладам выкладчыка гісторыі кнігі Ніны Цацулінай. Аднойчы, прыйшоўшы на лекцыю, тая ўсклікнула: “Уяўляеце, я сёння купіла міні-кнігу, якую шукала шмат-шмат гадоў!” Пазней выкладчык паказала калекцыю студэнтам. На Ірыну яна зрабіла незабыўнае ўражанне. Купіўшы адну кнігу, ужо не магла спыніцца...**



*Калекцыя міні-выданняў Ірыны Хілюціч.*

# Сканцэнтраванае ўвасабленне майстэрства

Лілія АЛЯХНОВІЧ

**— Што для вас мініяцюрная кніга?**

— Гэта ўнікальнае выданне. Мяркуйце самі, якога майстэрства павінен дасягнуць спецыяліст, каб міні-кніга была не больш як 10 сантыметраў па вышыні і шырыні. Пагадзіцеся, пры такіх жорсткіх абмежаваннях па памеры стварыць паўнавартаснае як па змесце, так і па афармленні выданне вельмі няпроста. Існуе меркаванне, што кожны вялікі пісьменнік хоча бачыць свае лепшыя творы ў малым выданні. А ўсё таму, што ў фармаце мінікнігі выдаюцца самыя значныя і важкія творы. Дарэчы, Пушкін да рэвалюцыі выдаваўся ў міні-кнізе 49 разоў!

**— Сярод вашых экспанатаў — нямала кніг беларускіх кнігавыдаўцоў...**

— Усяго ў калекцыі каля 200 выданняў. Але беларуская частка асабліва каштоўная для мяне. І сярод экспанатаў самыя дарагія — кнігі Янкі Купалы і Якуба Коласа, а таксама Максіма Багдановіча, Васіля Быкава. Цікавы факт: беларускія міні-кнігі пабывалі ў космасе з Пятром Клімуком, які браў з сабой на арбіту паэтычны зборнік Якуба Коласа. Кнігу звычайнага фармату ўзяць не дазволілі б, і ён не змог бы перачытваць любімыя радкі “Мой родны кут, як ты мне мілы...”

**— Раскажыце дылетанту: як чытаць мініяцюрную кнігу?**

— Калі зрок у парадку, яе прачытае любы. Дарэчы, у некаторых краінах выдаўцы да мініяцюрнай кнігі дадаюць лупу. Так што — у рукі павелічальнае шкло і чытайце на здароўе.

**— Ваша калекцыя ўнікальная. Неяк прапагандуеце міні-кнігу?**

— У гарадской бібліятэцы ўжо некалькі разоў праходзіла мая персанальная выстаўка. Але я не абмяжоўваюся сценамі сваёй установы, іду да людзей. Напрыклад, нядаўна пабывала ў Жодзінскім політэхнічным каледжы, збіраюся ў школы, прафліцэй, дзіцячыя садкі і гэтак далей.

**— Якімі кнігамі са сваёй калекцыі вы ганарыцеся асабліва?**

— Найбольш каштоўныя экзэмпляры — вершы Янкі Купалы і Якуба Коласа на беларускай мове. Да ліку ўнікальных можна аднесці кнігу Максіма Багдановіча “Вянок”, Васіля Быкава “Абеліск”, трохтомнік Някрасава. Шаную і ўсім распавядаю пра кнігу Марка Шагала, у якой не толькі яго вершы, але і малюнкі. Ёсць у мяне Сяргей Ясенін, Амар Хаям...

Калекцыя разнапланавая: ад афарызмаў і японскай лірыкі — да надзвычай рэдкіх кніг беларускіх аўтараў і твораў рэлігійнай тэматыкі. А самае маленькае выданне мае памер усяго 2х2 см. Гэта кніга-бірулька.

Наогул шкадую, што многія людзі да гэтага часу не адкрылі для сябе свет мініяцюрных кніг, якія могуць стаць сапраўдным упрыгожваннем любой хатняй бібліятэкі. У кожнага з нас ёсць любімыя творы, і хочацца заўсёды мець іх пад рукой. Фармат мініяцюры падыходзіць для гэтай мэты найлепшым чынам. Тое, што кніга маленькая, не памяншае яе вартасцей, а наадварот, робіць максімальна сканцэнтраваным увасабленнем майстэрства.

# Час не ваяваць...

**Больш як 200 кніг было перададзена Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі для фарміравання бібліятэкі адной з новых пагранзастаў Дзяржаўнага пагранкамітэта Рэспублікі Беларусь. Пра тое, што сёння чытаюць людзі ў пагонах, паведаміла загадчык аддзела камплектавання НББ Алена Сівакова.**

Кацярына БЯДУЛІНА

**— Алена Аляксееўна, якая асноўная мэта правядзення акцыі?**

— Нацыянальная бібліятэка з’яўляецца цэнтрам рэспубліканскага дакументавання і пераразмеркавання. У ёй ёсць спецыялізаваны фонд, куды паступаюць самыя каштоўныя выданні. Тут можна знайсці мала каму вядомыя кнігі, старажытныя рукапісы, дзённікі і архівы. Нацыянальная бібліятэка імкнецца перадаць частку кніг розным установам. Сёння для фарміравання бібліятэкі ў адну з воінскіх часцей Рэспублікі Беларусь былі перададзены некаторыя рэдкія кнігі. Мяркую, так мы робім маленькі крок для папулярызацыі чытання. Важна не тое, хто і дзе чытае. Вялікую каштоўнасць уяўляе сабой літаратура, якую чытаюць, паколькі яна аказвае вялікі ўплыў на чалавека.

**— Якія кнігі карыстаюцца найбольшым попытам сярод ваенных?**

— Абсалютна розныя. Цікавыя кнігі з серыі “Классика литератур народов СНГ”, гістарычна-дакументальныя творы: “Атомная бомба и КГБ: Мемуарнодокументальная повесть” Фёдара Папова, зборнік “Маршал Жуков. Каким мы его помним?”, даведнік “Навечно в сердце народном”, “Эпоха крестовых походов”, “Генерал славянской рати” Эдуарда Карніловіча, “Хатынь-Khatyn-Chatyn”, кнігі Мікалая Зяньковіча “Самые знаменитые побеги” і “Чья Белоруссия? Границы. Споры. Обиды”, “Казакі Паннвіца” Франсуа дэ Ланнуа. Другі напрамак — альбомы. Сярод іх: “Нацыянальная бібліятэка Беларусі”, “Беларусь созидающая”, “Пограничная служба Республики Беларусь: 90 лет на страже границ Отечества”, “Родина-Мать зовёт! Плакаты Великой Отечественной войны: каталог коллекции Белорусского государственного музея истории Великой Отечественной войны”, “Памяти павших: Великая Отечественная война, 1941 — 1945”, “Вооружённые Силы Республики Беларусь: 90 лет на страже Отечества”, “Иллюстрированная хронология истории Беларуси: с древности и до наших дней”, “Содружество Независимых Государств: портрет на фоне перемен”. Ёсць і энцыклапедычныя, і даведачныя выданні: “Беларуская энцыклапедыя: у 18 тамах”, “Энцыклапедыя гісторыі Беларусі”, “Расійска-беларускі вайсковы слоўнік: 8000 слоў і словазлучэнняў”.



*Падчас акцыі па перадачы кніг.*

**— А калі казаць пра мастацкую літаратуру?**

— На першым месцы была і застаецца беларуская кніга: Уладзімір Караткевіч “Каласы пад сярпом тваім”, Іван Мележ “Людзі на балоце”, зборнікі вершаў Янкі Купалы і Якуба Коласа, Максіма Багдановіча і многіх іншых беларускіх пісьменнікаў. Не меншую папулярнасць маюць кнігі па гісторыю Беларусі.

# Залацінкі мудрасці

**На сайце бібліятэчнай сістэмы Светлагорскага раёна пачалася доўгатэрміновая акцыя “Светлагорск, які чытае”.**

Валянціна РАСОШАНКА

У раёне адбылося ўрачыстае адкрыццё Года кнігі, арганізаванае раённай дзіцячай бібліятэкай. Месцам яго правядзення была абрана мясцовая Школа мастацтваў, дзе прайшло шмат выставак. Іх назвы кажуць самі за сябе: “Няма Радзімы без бацькоўскай хаты”, “Залацінкі народнай мудрасці”, “Слава кніжцы беларускай!”, “Добрыя кніжкі — сябры назаўжды!”, “Мае першыя кніжкі”, “Падарожжа па кніжным сусвеце”, “Азбука прыроды”, “Зрабі крок насустрач чытанню”, “Што? Дзе? Калі?”. На гэтым сапраўдным парадзе выставак, якія ўдала аздобілі і эмблема Года кнігі, і куфэрак з лазы, і нацыянальныя беларускія лялькі з Музея цацкі дзіцячай бібліятэкі Маладзёжнага мікрараёна, і выявы прыгожых валошак, і марскі карабель, і слоганы, прысвечаныя кнізе і чытанню, экспанавалася амаль 350 кніг для дзяцей і падлеткаў. Фотаздымкі 14 лепшых чытачоў горада ўпрыгожылі стэнд “Суперчытач”, а на стэндзе “Мая любімая кніга” хлопчыкамі і дзяўчынкамі былі напісаны дзясяткі назваў любімых кніг. Гасцямі ўрачыстасці сталі пісьменнікі Гомельшчыны Яўген Калашнікаў і Раіса Дзейкун, якія надзвычай цікава і весела прадставілі свае творы. Працягам урачыстасцей у гонар Года кнігі сталі свята прысвячэння ў чытачы, дні літаратурных сустрэч, радаснага чытання, кніг-юбіляраў, паэтычная эстафета, ярмарка карысных кніжных парад і шэраг іншых мерапрыемстваў, што адбыліся і працягваюцца ў гарадскіх і сельскіх бібліятэках раёна.

* * *

Актыўную падтрымку ў бібліятэкараў Светлагоршчыны знайшла абласная акцыя “Перятворым увесь свет у бібліятэку!”. У межах яе ў гарадскіх і сельскіх бібліятэках раёна былі арганізаваны куткі буккросінгу. Так, напрыклад, жыхарка Светлагорска, пенсіянерка Неаніла Міхайлаўна Сяноціна падаравала амаль 60 кніг. 20 выданняў рознага жанру прапанавала чытачка бібліятэкі аграгарадка Чыркавічы, настаўніца музыкі Ірына Стрыжэус. Сярод кніжных выданняў, якія знаходзяцца ў кутках буккросінгу, пераважае мастацкая літаратура: творы савецкіх, беларускіх пісьменнікаў, дэтэктывы і “жаночыя” раманы папулярных сёння расійскіх аўтараў. Каб наблізіць кнігу да гараджан і вяскоўцаў, бібліятэкары арганізавалі такія куткі не толькі ў памяшканнях сваіх устаноў, але і ў іншых месцах. Супрацоўнікі гарадской бібліятэкі Маладзёжнага мікрараёна прапаноўваюць кнігі для вольнага выбару каля ўвахода ў кніжніцу, бібліятэка-філіял № 1 Кастрычніцкага мікрараёна і бібліятэка аграгарадка Дуброва — у фае Дамоў культуры, бібліятэка аграгарадка Печышчы — у будынку адміністрацыі КСУП “Печышчы” і на фельчарска-акушэрскім пункце. Бібліятэкары дзіцячай бібліятэкі № 6 увасобілі ідэю вандроўніцкай кнігі, размясціўшы выданні ў вялізным чамадане. І цяпер казкі, апавяданні, аповесці, раманы з чамадана ахвотна бяруць не толькі дзеці, але і бацькі ці настаўнікі.

Жыхарам рэгіёна прыйшлася даспадобы гэтая ідэя: для таго, каб узяць кнігу для чытання, неабавязкова быць карыстальнікам бібліятэкі. Да таго ж не трэба запісваць яе і ў чытацкі фармуляр. Затое, прачытаўшы, можна перадаць сябрам, знаёмым, калегам па працы. З пачатку года звыш 300 чалавек сталі ўдзельнікамі буккросінгу, больш як 1000 кніг знаходзяцца ў так званым “вольным плаванні”.

* * *

У бібліятэках аграгарадкоў Светлагоршчыны доўжыцца кніжная экспедыцыя “З кнігай — у будучыню!” арганізатарам якой выступіла раённая бібліятэка. Намаганнямі супрацоўнікаў аддзела бібліятэчнага маркетынгу была падрыхтавана тэматычная экспазіцыя “Якая гэта радасць — чытаць!” Для экспазіцыі было адабрана каля 70 новых кніг для дзяцей і падлеткаў. Сярод іх такія вядомыя дзецям старэйшых пакаленняў творы, як “Приключения Электроника” Я. Вялціства, “Четвёртая высота” А.Ільіной, “Баранкин, будь человеком!” У. Мядзведзева, “Золотой ключик, или Приключения Буратино” А. Талстога, а таксама любімыя сучаснымі дзецьмі казкі народаў свету, аповесці А. Мілна, А. Ліндгрэн, Дж. Толкіна, вядомых расійскіх аўтараў Л. Петрушэўскай, У. Постнікава, гарэзлівыя вершы-парады Р. Остэра, кнігі беларускіх пісьменнікаў, надзвычай цікавыя і прыгожа аформленыя энцыклапедыі і папулярныя выданні пра прыроду. Асобная частка кніг адрасавана тым, хто любіць маляваць, вышываць, вязаць, ствараць разнастайныя вырабы. У кожнай з бібліятэк экспазіцыя навінак знаходзіцца на працягу месяца. У гэты час бібліятэкары знаёмяць сваіх чытачоў з мастацкімі і пазнавальнымі выданнямі, арганізоўваюць разнастайныя сустрэчы, каб прывабіць дзятву да чытання. Акрамя гэтага, юныя чытачы ўдзельнічаюць у рэйтынгавым галасаванні, бліц-апытаннях “Самая папулярная кніга месяца”, “Суперкніга вясны і лета”, “Кніжная зорка”, конкурсах на самага актыўнага ўдзельніка кніжнай экспедыцыі, лепшае пісьмо аўтару кнігі, а мастакі-пачаткоўцы і скульптары працуюць у творчай майстэрні “Рознакаляровыя далонькі” над ілюстрацыямі да прачытаных кніг, вырабляюць з пластыліну кніжных герояў і на падставе парад, якія яны знаходзяць у новых кнігах, ствараюць сапраўдныя шэдэўры.

# Ад рук бабулі

Маргарыта САКОВІЧ,
фота аўтара

**На семежаўскай зямлі, вядомай цікавымі людзьмі і непаўторнымі абрадамі, незвычайнымі краявідамі і адметным ткацтвам, прайшло III абласное свята-конкурс “Млечны шлях ад рук бабулі”. У ім узялі ўдзел каля 70 народных майстроў з дзевяці раёнаў Міншчыны.**

Тон усяму мерапрыемству быў ужо зададзены падчас яго адкрыцця, калі шаноўныя госці, звяртаючыся да канкурсантаў, выказвалі захапленне іх творчасцю, удзячнасць за тое, што яны шануюць і зберагаюць, а самае галоўнае, перадаюць сваё майстэрства падрастаючаму пакаленню.

— Мы шчаслівыя, што традыцыі, закладзеныя нашымі продкамі, працягваюцца, — адзначыў старшыня Капыльскага райвыканкама Анатоль Жданеня. — З гонарам называем сёння імёны ткачых, якія носяць высокае званне “народны майстар Беларусі”, — Валянціны Кіені, Валянціны Гладкай, Ніны Гарашчэні. Вельмі прыемна, што тэхніка закладнога ткацтва менавіта семежаўскіх чырвонабелых ручнікоў у 2011 годзе была занесена ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь.

Цвёрдую ўпэўненасць, што сапраўдную асалоду на гэтым святе атрымаюць усе, выказала галоўны спецыяліст упраўлення культуры Мінаблвыканкама Галіна Ляйко:

— Спадзяюся, што гэты шлях ад рук бабулі будзе і будзе доўжыцца. Паколькі сёння ў ліку ўдзельнікаў конкурсу ёсць і зусім юныя майстры.

Вырабамі тутэйшых майстрых захапляўся і госць са Злучаных Штатаў Амерыкі, эксперт па сельскім турызме, прэзідэнт і выканаўчы дырэктар Нацыянальнай асацыяцыі гаспадароў сядзіб РАІІ Джэй Кэрэн. Дарэчы, ён прыехаў на свята не з пустымі рукамі — падараваў семежаўскім ткачыхам прыгожыя кветачкі, выробленыя з асакі жанчынамі з Паўднёвай Караліны.

Конкурс доўжыўся амаль пяць гадзін. Кампетэнтнае журы, якое ўзначаліў прафесар, доктар мастацтвазнаўства, старшыня Беларускага саюза майстроў народнай творчасці Яўген Сахута, уважліва вывучала работы кожнага ўдзельніка. Сталыя жанчыны, у скарбонцы якіх не адна сотня вырабаў, мноства заслужаных узнагарод і ўдзячных вучняў, зусім юныя ткачы, якія толькі пачынаюць свой шлях у творчасці, — усіх іх яднала жаданне парадаваць гледачоў, калег, членаў журы сваім майстэрствам, пераняць нешта новае. Трэба сказаць, што акрамя традыцыйных ручніка і сурвэткі на конкурсе выраблялі паясы — ткалі іх на станку, на бёрдзечку, на ніту, на дошчачках, плялі рукамі. Да таго ж кожны раён — Капыльскі, Любанскі, Старадарожскі, Уздзенскі, Нясвіжскі, Валожынскі, Слуцкі, Вілейскі, Крупскі — падрыхтаваў калекцыю сваіх майстроў, арганізаваў бяспройгрышную латарэю, у якой за сімвалічную плату можна было выйграць вырабы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.



Валянціна Кіеня і госць з ЗША Джэй Кэрэн.

Вядома ж, самай доўгачаканай і інтрыгуючай стала заключная частка конкурсу, калі былі названы імёны пераможцаў. Як адзначыў Яўген Сахута, арганізатары свята паклапаціліся пра тое, каб ніхто не застаўся пакрыўджаным — кожны з удзельнікаў атрымаў каштоўны падарунак. Гран-пры конкурсу было прысуджана Валянціне Кіені — майстру ткацтва з Семежава (Капыльскі раён). На рахунку капыльскіх канкурсантаў і іншыя ўзнагароды. Так, Валянціна Гладкая атрымала Дыплом І ступені ў намінацыі “За высокае майстэрства, мастацкі густ і асабісты ўклад у развіццё традыцый беларускага ткацтва”, Яна Шчэрба — Дыплом ІІ ступені за лепшы выраб нацыянальнага ручніка, Дыпломамі ІІІ ступені ў гэтай жа намінацыі ўзнагароджаны Дар’я Салановіч і Валерыя Козел. За хуткасць і якасць ткацтва Дыпломам ІІ ступені адзначана Ніна Гарашчэня, а Дыпломам ІІІ ступені — Таццяна Волкава. Сярод іншых былі ўзнагароджаны Дыпломамі і каштоўнымі падарункамі Святлана Іванова і дэбютанты конкурсу Вячаслаў Сянюк, Настасся Лянько, Алеся Шчэглік, Аліна Каражанец, Крысціна Кавалеўская.



Майстар-клас ад Ніны Гарашчэні.

Цікава адзначыць, што сярод удзельнікаў свята быў сапраўдны “сямейны падрад” з Вілейскага раёна — сям’я Дубягаў, якую прадстаўлялі бацька, маці і два сыны. Усе яны сталі прызёрамі ў намінацыі “За пляценне вітага пояса на пальцах”. Асобна быў адзначаны і самы юны канкурсант — Дзяніс Рудзік са Старадарожскага раёна.

Дарэчы, усе свае работы майстры пакінулі для папаўнення калекцыі на Капыльшчыне, і любы жадаючы можа з імі пазнаёміцца.

*З глыбінкі*

## Дамоў, да сяброў

У Цэнтры культуры народнай творчасці і рамёстваў г. Быхава адбылася сустрэча з земляком, вядомым паэтам Міхасём Пазняковым. Вельмі цёпла віталі пісьменніка артысты народнага фальклорнага калектыву “Багатуха” і юныя чытачы.

Амаль кожны год Міхась Паўлавіч з сябрамі наведвае сваю малую радзіму. Вось і на гэтае свята з ім прыехалі пісьменніца Наталля Касцючэнка і кіраўнік астравецкай вакальнай студыі “Музычная лесвіца”, кампазітар і спявак Аляксандр Якіменка. Многія зрабілі для сябе адкрыццё, што на словы Міхася Паўлавіча напісана гэтак шмат песень, асабліва для дзяцей. Сам пісьменнік налічыў іх больш як сто.

**Аксана ДРОЗД,**
**г. Быхаў**

## Калі змаўкаюць непаседы

Сярод шматлікіх мерапрыемстваў, распачаваных Аляхновіцкай бібліятэкай (Маладзечанскі раён) па правядзенні Года кнігі, значацца і сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі. Першымі завіталі сюды вядомы маладзечанскі краязнаўца Міхась Казлоўскі і госць са сталіцы — паэт і празаік, супрацоўнік часопіса “Вясёлка” Анатоль Зэкаў.

Першы з іх сканцэнтраваў увагу слухачоў (а гэта былі вучні мясцовай школы) на 130-гадовым юбілеі Янкі Купалы. І хаця гэту дату будзе шырока адзначаць уся Беларусь, для маладзечанцаў яна асаблівая, бо тутэйшая зямля стала калыскай для народнага паэта. З цікавасцю слухалі школьнікі аповед краязнаўцы, у якім ён прыгадаў некаторыя эпізоды з жыцця слыннага земляка. Здавалася б, не так проста зацікавіць сучасных падлеткаў, аднак выступоўца так заінтрыгаваў іх, што сціхлі нават самыя непаседлівыя.

А пра тое, на што здольны Анатоль Зэкаў, распавядаць не трэба. Як потым прызналіся прысутныя, так яны не смяяліся ўжо даўно.

**Лілія ГАЙДАРЖЫ,**
**Маладзечанскі раён**

## Прысвячэнне радзіме

У Добрушскай цэнтральнай раённай бібліятэцы адбылася прэзентацыя кнігі Пятра Хандожкі “Плач жураўліны на зары”. Пётр Сямёнавіч нарадзіўся на Браншчыне, але значная частка ягонага жыцця прайшла на Гомельшчыне.

Паэтычныя творы Пятра Хандожкі ў асноўным прысвечаны родным мясцінам, вёсцы Чырвоная Гара. Шмат вершаў пра Добруш, родныя мясціны, дзе ён цяпер жыве. Творца актыўна бярэ ўдзел у народным клубе “Натхненне”.

Павіншаваць паэта з новай кніжкай прыйшлі сябры і прыхільнікі, прыехалі члены Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзь Говар і Ганна Атрошчанка, малады паэт Уладзіслаў Шышыгін, калектыў “Рэтра”. Менавіта самадзейныя спевакі і выканалі песні на словы Пятра Хандожкі, па-свойму ўпрыгожылі святочнае мерапрыемства.

**Ганна РОШЧАНКА,**
**г. Добруш**

*Не абмініце*

Алеся БАЦЮСЬ

## На што здатны тэкстыль?

**Першы беларускі пленэр эксперыментальнага мастацкага тэкстылю пройдзе ў Палацы мастацтва. Свае работы прадставяць вядучыя спецыялісты ў гэтай галіне і маладыя мастакі.**

Эксперыментальны мастацкі тэкстыль можна назваць дастаткова маладым, хаця і цалкам сфарміраваным кірункам у сучасным мастацтве, — у Беларусі ён нарадзіўся ў 1980-я гады мінулага стагоддзя. І калі ў Заходняй Еўропе, ЗША, Японіі ў 1950 — 1960-я гады гэты кірунак творчасці выйшаў у прастору, а творы пачалі ўспрымацца і па-за сцяной (да прыкладу, з’явіліся такія мастацкія формы, як скульптура, інвайрамент, тэкстыльная інсталяцыя), то ў Беларусі ўсё ж больш пашыраны плоскасныя тэкстыльныя формы, якія, у той жа час, узбагачаюцца рэльефна-фактурнымі эфектамі. Аднак гэта зусім не значыць, што на пленэры вы не знойдзеце прастораных кампазіцый, з’яўленне якіх некалі назвалі “пластычным выбухам 1960-х”, — прыхільнікі іх ёсць і сярод беларускіх мастакоў. Таму прыходзьце і дзівіцеся — з 15 па 17 чэрвеня, з 11 да 19 гадзін, унутраны дворык Палаца мастацтва.

*Афарызм*

*Шануй чужое аж да пакланення, сваё любі да самазабыцця.*

**Пятро БІТЭЛЬ**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА “Саюз пісьменнікаў Беларусі”, РВУ “Літаратура і Мастацтва”

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п. 4а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел “Кніжны свет” — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры перадруку просьба спасылацца на “ЛіМ”. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.

Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп’ютарнага цэнтра РВУ “Літаратура і Мастацтва”.

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва”.
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства “Выдавецтва “Беларускі Дом друку” г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 63856

Кошт у розніцу — 2300 рублёў

Наклад — 2836
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 14.06.2012 у 11.00

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.

Заказ — 2671

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-4686